*В. Ю. Ластоўскі*

# КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

МІНСК
„УНІВЕРСІТЭЦКАЕ"
1993

ВЛАСТ.

# КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

З 40 РЫСУНКАМІ

ВІЛЬНЯ.

Друкарня Марціна Кухты. Дварцовая, д. № 4.

1910.

ББК 63.3(2Б)
Л26

Пасляслоўе А. П. Грыцкевіча

„Кароткая гісторыя Беларусі" — это первое популярное переиздание книги, написанной белорусом и для белорусов, которая была напечатана в 1910 году в Вильно. Ее автор, Вацлав Ластовский, являлся историком и писателем, общественным и политическим деятелем. Он был в числе инициаторов национального и культурного возрождения своей республики в начале XX в. Однако этого неординарного, очень интересного и убежденного человека постигла трагическая судьба. Вацлав Ластовский стал жертвой тоталитарного государства. Реабилитирован только в 1988 году. Написанная им „Кароткая гісторыя Беларусі" много десятилетий хранилась в закрытых фондах государственных библиотек.

Для филологов, историков, преподавателей и студентов, любителей родной литературы и культуры.

Л $\frac{0503020903-001}{М317(03)-93}$ БЗ 88—92

ISBN 5-7855-0646-7



# ПРАДМОВА

Гісторыя—гэта фундамэнт, на каторым будуецца жыцьцё народу. І нам, каб адбудаваць сваё жыцьцё, трэба пачаць с фундамэнту, каб будынак быў моцны. А фундамэнт у нас важны, гісторыя наша багата: «жатва многа, а дѣлатель мало», як кажэ сьвятое пісаньне. Поле пустое, бо сыны бацькоўшчыны нашай к чужым у найміты пайшлі, чужые гумны і засекі багацяць!

Беручыся пісяць кароткі гэты нарыс гісторыі нашай, ня меў я змогі даць навучны твор, плод доўгіх навуковых досьледоў,—даў тое, на што было маей змогі: сабраў з расейскіх, польскіх ды украінскіх гісторыкоў тое, што мне вядома было аб гісторыі нашаго краю і народу, злажыўшы ў парадак, які кожнаму здарэньню вызначыло само жыцьцё.

Працу гэту ахвярую сыном маладой Беларусі, каб хаця з гэтай кароткай і няпоўнай працы маглі пазнаваць гісторыю бацькоўшчыны у сваей роднай мове. Для вучоных новаго німа тут нічога; ўсё, што сказана тут, знойдуць яны параскіданае у працах аўтароў, спісок каторых падаю ніжэй. Адно толькі пазволіў я сабе: некаторые здарэньня асудзіць па свойму з становішча карысьцей і шкод беларускаго народу.

Рэлігійную справу прыйшлося закрануць дзеля таго, што гісторыя наша XVI і XVII сталецьцёў, як і жыцьцё народнае, выціснутае зусюль, замкнулося ў цэркоўных брацтвах, і брацтвы гэтые насілі адценак яўна нацыянальны беларускі: ў іх адбывалося змаганьне за веру і націю. Гэтые сталецьця—гэта час па-рэформацкай рэакціі; ва ўсей Эўропе выціснулі яны клейно фанатызму, не абыйшлося без яго і у нас. Вось, калі прыйшлося мне закрануць гэту балячку, то асуджаю я тут тагдышніе часы, а не інстытуціі і людзей

**Аўтор**

# Матэр'ялы да гісторыі

**Акты Зап. Россіі.**
**Аркас.** Історія Украіни-Русі. СПБ. 1908 г.
**Батюшковъ.** Бѣлоруссія и Литва СПБ. 1890 г.
**Грушевскій.** Очеркъ исторіи Украинскаго Народа СПБ.1904 г.
**Gorzycki.** Zarys społecznej historyi państwa Polskiego. Lwów 1901.
**Guepin.** Żywot sw. Iozefeta Kuncewicza. Lwów 1907.
**Довнаръ-Запольскій.** Очеркъ исторіи Кривичской и Дреговичской земель. Кіевъ 1891.
**Живописная Россія.** Т. III СПБ. 1892. (Стацьці Кіркора).
**Ефименко.** Історія Украінскаго Народа. СПБ. 1906.
**Кояловичъ.** Чтенія по исторіи Западной Россіи СПБ. 1884.
**Карскій.** Бѣлоруссы Т. I, Вильна 1904 и Т. II.
**Kubala.** Szkice Historyczne T. I i II. Kraków 1896.
**Начеркъ Исторіи Уніи** рускоі церкви зъ Рымомъ Львовъ 1896.
**Пыпинъ.** Історія русской этнографіи. СПБ. 1892.
**Россія.** Полное географіческое описаніе нашего отечества подъ редакціей Семёнова. Т. IX. СПБ. 1905
**Szajnocha.** Dwa lata naszych dziejów 1646—1648.
**Турчиновичъ.** Обозрѣніе исторіи Бѣлоруссіи. СПБ. 1857.
**Czarkowski.** Dzieje w Polsce, Litwie i na Rusi. Warszawa 1860.



# ЧАСЦЬ ПЕРШАЯ

## ад першых часоу да уцёку Полацкіх князёу у Літву (1129 год)

Землі, прылегаючые да Заходнай Дзьвіны, Днепра і Прыпяці, былі заселены з няпомных часоў. Жылі тут народы славянскаго племені, каторые як паказываюць народные песьні, здаецца, прыйшлі сюды з-над Дунаю. Самае вялікае было племя Крывічоў, каторые жылі каля Днепра і Дзьвіны; тые Крывічы, што паселіліся каля рэкі Полоты, называлі сябе Полочанамі. Каля рэкі Сожы (ў Магіл. губ.) жылі Радзімічы. Паміж Заходнай Дьвіной і Прыпяцьцю—жылі Дрэўляне, а паміж Мозырам і Пінскам—Ятвягі. Усе гэтые племёны мелі адно з адным шмат чаго супольнаго і ў веры, і ў абычаях, і дзеля гэтаго даўно **зліліся ў вадзін** Беларускі **народ**.

Племёны Крывічоў і Дрэговічоў ў незапамятные паганскіе часы займалі важнае мейсцо ў жыцьці усходніх славянскіх народоў; яны станавілі важную гасударственую і культурную сілу ў тые ўжо часы, калі патомкі Рурыковічоў засновывалі моцнае гасударство на ўсходзе і поўдні. Але гісторычные ведамосьці аб гэтых племёнах і аб зьеднаньні нашых плямён ў народ беларускі не дайшлі да нас у нашых летапісях. Дабываючы с пад пылу векоў гісторыю бацькоўшчыны нашай, мы прымушэны, з нехвату летапісей, дабываць яе с тых скупых звестак, якіе папалі ў Кіеўскіе, Ноўгородзкіе і Валынскіе летапісі, а гэтые летапісі успамінаюць аб нас прыпадкам, толькі пры вельмі важных здарэньнях, каторые і іх тады датычылі. Беларускіе племёны жылі асобным сваім жыцьцём і рэдка мешаліся ў справы агульна-рускіе, а дзеля таго і **весткі аб іх** у рускіх летапісцоў **рэдкіе і прыпадковые**.

Нашы ўласные летапісі не захаваліся, або ешчэ не аткрыты дагэтуль, хоць адрыўкі гэтых летапісей вычуваюцца ў больш позных Рускіх летапісных зборніках.

На обшары Беларускай зямлі ешчэ да прызваньня князёў у Ноўгорад пачалі складацца свае княжствы. Самымі вялікімі па-

меж імі лічыліся княжствы: Смаленскае і Полацкае, — а ў X сталецьці ўспамінаюцца ўжо княжствы: Вітэбскае, Мінскае, Тураўскае, Оршанскае, Друцкае, Лукомльскае, Мсьціслаўскае, Ізяслаўскае, Слуцкае, Новогрудзкае, Несьвіжскае, Пінскае, Соломерэцкае, Мазырскае, Клецкае, Перэсопіцкае, Свіслочскае, Барысоўскае і іншые.

Па ўсіх гэтых княжствах хрысьціянская вера ўсходняго абраду расшырылася ад часоў Кіеўскага князя—Володзіміра. У тые-ж часы і некаторые Беларускіе княжствы належалі да Кіева. Але ў XI сталецьці за незалежнасць сваю ад Кіева паўстае Полацкае княжство, і мала-памалу загараецца непрыязнь Полочан да Кіева. Полацкае княжство на заходзе, так сама як Кіеўскае на поўдні, пачынае злучаць дробные княжствы ў вадно. Полацкі князь займае такое самае палажэньне меж дробных сваіх князёў, якое займаў князь Кіеўскі меж палудзенно-рускіх удзельных князёў.

Так сама, як у палудзеннай Русі і Літве, так і ў Беларусі дробные княжствы не былі злучэны ў вадно цэлае гасударство; кроў лілася ў дамовых войнах, паліліся гарады і сёлы. Народ трымаўся свайго князя датуль, пакуль бачыў у ім сілу, а калі той слабеў, народ пераходзіў на старану дужэйшаго. Трэба ведаць ешчэ, што на Беларусі з самых даўных часоў трымаўся **вечэвы парадак**, пры каторым, па праўдзі, княжствам кіраваў народ, а не князь. У вялікшых гарадох, як Полацк, Мінск, Тураў, вечэ мело вялікую сілу і часта праганяло непадабаўшагося народу князя і выбірало новаго. Ня гледзячы на гэта, народ крэпка любіў род сваіх князёў; князю другога, чужога роду, цяжка, ды і не зусім беспечна было садзіцца на пасад Полацкіх князёў. Гэта прывязанасць народу да роду князёў сваіх даводзіць нам, што князі с паганскімі літоўскімі імёнамі не былі чужымі князямі, але належалі да роду Полацкіх князёў; яны княжэцкі пасад не сілай забіралі, **але садзіліся на яго па радавому праву.**

Полацк—самае даўнае і сільнае з усіх беларускіх княжств. Княжыў тут з няпомных часоў род мейсцовых князёў (аб каторым адна скандынаўская (швэдзкая) песьня ўспамінае ўжо ў 6 веку па нараджэньні Хрыста). Імён тых князёў гісторыя нам не перэказала. Найдаўнейшы вядомы князь гэта—**Рогволод**, каторы княжыў у X сталецьці. Расказываюць, што у Рогволода была вельмі пекная дачка—**Рогнеда**. Да Рогнеды сваталося многа розных князёў, памеж іншымі прыслаў сваіх сватоў і Кіеўскі князь Володзімір, але Рогнеда не хацела ісьці за яго замуж і атправіла сватоў такімі славамі: „скажыце свайму князю, што не іду за рабынычá". (Володзімірова матка была нявольніцай—рабыняй). Володзімір разгневаўся за гэта і напаў з сільным войскам на Полацк, узяў яго, перэбіў усю княжэцкую семью, а Рогнеду, завёзшы ў Кіеў, прымусіў быць яму жонкай. Рогнеда радзіла сына **Ізяслава**. Володзімір для Ізяслава на сталіцу пабудаваў горад Ізяслаў (Мінск. губ.) і аддаў яму дзедзічнае полацкае княжство.

Полацкіе князі, Ізяславовічы (побоч з Ізяславічамі, як відаць, была старая лінія мейсцовых князёў, як князі Тураўскіе, Пінскіе і Городзецкіе, катотые ніякаго сваяцтва праз Володзіміра с Кіеўскімі князямі ня мелі), зразу вораго становяцца проці Рурыковічоў, каторые княжылі тады ў Кіеві і вялі род свой ад Ярослава, дзеля чаго зваліся Ярославічамі. Ярославічы ўсімі сілами ненавідзелі Полацкіх князёў Ізяславовічоў. Чым тлумачыцца гэта ненавісць, трудна разгадаць. Тое толькі пэўна, што ў прыпадках найбольшых бед і напасьцей чужынцоў на Полудзённую Русь, Ярославічы рэдка калі пакідалі свае дамовые войны і сваркі, каб агульнымі сілами бараніцца, затое яны ўсе едналіся і станавіліся шчырымі паміж сабой, калі ім прыходзілося пайсьці вайной на князёў Полацкаго роду. Відаць за пагудкай народнай, каторая папала ў летапісі аб сьмерці Рогволодавай, прыкрываліся нейкіе спрадвечные крыўды і рахункі за іх. Як можна уцяміць с прычын, каторые вызывалі войны, Полацкіе князі выказывалі нейкіе правы свае на Пскоўскіе і Ноўгородзкіе землі, ў каторых, як некаторые вучоные кажуць, жыло так сама племя Крывічоў. Ў кожным прыпадку прычыны, дзеля каторых „Рогволожы внуцы взімают меч", мелі свае глыбокіе прычыны.

Ад **Ізяслава** пачынаецца род гісторычных полацкіх князёў. У 1003 гаду княжыць у Полацку сын Ізяслава—**Брачыслаў.** Ад часоў князя Брачыслава пачынаецца вядомае нам з гісторыі змаганьне Полацку с Кіевам. Найбольшы разгар змаганьня прыпадае на час княжэньня сына Брачыславоваго—Ўсеслава, а ўнука сына Рогнеды—Ізяслава. Першы напаў на землі належачые да Кіева **Ўсеслаў,**—узяўшы многа нявольніка і багата абабраўшы гарады, варочаўся ён дамоў у Полацк. Кіеўскіе князі заступілі яму дарогу. Страшная бітва адбылася каля рэкі Немігі (пад Мінскам); Кіеўскіе князі ўзялі Мінск, але ві-

даць, што сілы Ўсеславовы былі немалые, калі, ня гледзячы на выйграную бітву, вялікі князь Кіеўскі прасіў міру і клікаў у свой абоз полацкаго князя. Ўсеслаў даверыўся і прыехаў у абоз Кіеўшчан з двумя сваімі сынамі. Спатканьне адбылося за Днепром, каля Оршы. Але Кіеўскіе князі схапілі іх у няволю і атправілі ў Кіеў, гдзе полацкаго князя засадзілі ў „поруб“ (цямніцу) пад княжэцкімі харомамі. Толькі ня доўга быў Полацкі князь ў няволі. На другі год не ўдалася вайна Кіеўскаму князю с Печэнегамі,—народ збунтаваўся проці яго і прасіў княжыць у Кіеве Ўсеслава. Ўсеслаў згодзіўся і княжыў у Кіеве каля васьмі месяцоў, а пасьля вярнуўся назад у свой родны Полацк.

Ўсеслаў займае пачэснае мейсцэ ў гісторыі нашага краю: ён патрапіў паставіць высока сваё княжство, прылучыўшы да Полацка княжствы: Мінскае, Вітэбскае, Оршанскае, Мсціслаўскае, Лукомльскае, Друцкае, Логойскае, Слуцкае, Дзісенскае, а такжэ і часць Лівоніі залежалі ад Полацкаго княжства. Хаця пры Ўсеславе Полацк два разы пераходзіў у рукі Кіеўскіх князёў, усёж пры ім яго княжство дайшло найбольшай сваей сілы і славы Гдзе ня мог узяць Ўсеслаў сілай, там браў розумам і хітрасьцю. Вядомы памятнік літаратуры XII сталецьця „Слово о полку Ігора“ так пішэ аб Полацкім князю: „князь Ўсеслаў людзям суд даваў, князям гарады парадкаваў, а сам воўкам бегаў ад Кіева да Тмуторакані, перэсекаючы дарогу вялікаму Хорсу (сонцу). У Полацку звоняць заутрэню у святой Софіі, а ён у Кіеве звон чуе“... Сваім розумам, неспакойным характэрам і славай чародзея Ўсеслаў надоўга астаўся ў памяці народу; аб ім хадзілі розные казкі—легенды, як аб чародзеі, і некаторые з іх папалі ў пісаные памятнікі. Княжыў Ўсеслаў 87 гадоў, памёр у 1101 гаду.

Пасьля сьмерці Ўсеславовай гісторыя князёў Полацкаго дому зацемняецца, бо ў летапісях гаворыцца аб іх толькі прыпадкам і называюць іх агульным іменем „рогволожых ўнукоў“, або успамінаюцца адным толькі іменем без отчества, а ў прыдатку тады ўсе князі Полацкіе, абычаем таго часу, насілі па два імёны, с каторых адно было паганскае, а другое хрысьціянскае, а часам на тры і болей імён. Гета ўсё ешчэ больш зацемняецца с тае прычыны, што Ўсеслаў, уміраючы, падзеліў княжство свае на удзелы і раздаў іх сыном сваім.



Змаганьне с Кіевам і доўгіе войны цягнуліся і пры насьледніках Ўсеславовых—**Рогволодзе** і **Барысе**, князях Полацкіх.

Добрых камандзероў войскам і князёў хватало, але не было ўжо таго грамадзкаго і ваеннаго духа, якім славіліся часы Ўсеславовы. Напасць была крэпкая і упорная, а ў Беларусоў сілы раскідываліся, пачыналіся сваркі, не было ніякаго послуху. Насьледкі гэтаго былі страшные. Увесь край дайшоў да поўнай руіны. Землі, прылегаючые да Днепра, Прыпеці, Дзьвіны, Берэзіны—дыміліся пажарамі; гарэлі і пусьцелі гарады і сёлы; жыцелёў, аграбленых і зраненых—цэлымі тысячамі гналі ў няволю і пасьля прадавалі ў далёкую Азію. Завёўся абшырны гандэль нявольнікамі, каторы падабаўся ня толькі князём, але і баярам, зрабіўшым з гэтаго даходны промысел. Кіеўскі князь Володзімір Мономах Оршу, Копысь, Мінск і Друцк зруйнаваў да званьня. Ў канцы смутны гэты абраз закончыўся хаўрусным паходам усіх кіеўскіх князёў на Беларускіе землі. У 1127 гаду, напаўшы на Беларусь, зніштожылі агнём і мечом Логойск, Ізяслаў (або Заслаў) і Полацк. У 1129 гаду вялікі кіеўскі князь Мсьціслаў забраў Полацкае і Мінскае княжствы і сына свайго Сьвятополка пасадзіў на полацкім пасадзе.

Пасадзіўшы сына свайго ў Полацку, Кіеўскі князь ідзе на Літву. Чым была Літва ў тые часы, гісторыя ня ведае, дый прычыны самай вайны невядомые. Але гэта апошняе будзе нам ясна с таго, што Полацкіе князі з давён-даўна мелі розные **супольные справы з Літвой**, што іншые бліжэйшые літоўскіе племёны залежалі ад Полацкіх князёў і што ў **Літоўскіх землях жылі** і **Беларусы** ў перамешку з літвінамі. Гэта мешанае беларуско-літоўское населеньне, відаць, не хацело залежаць ад Кіева, але жэдало аддзяліцца. Сюды, здаецца, ўцекла такжэ і часць полочан, нездаволеных новымі парадкамі —часць людзей, адданых роду сваіх князёў, і людзей прывязаных да свабоды, а можэ нават цэлые дружыны с сваімі князямі. Так ці іначэй, ў так званай вышняй Літве (цяперэшняя Віленская губэрня) ў тые часы жыло не адно Літоўскае племя, але ў перамешку з беларусамі.

Страціўшы сваю дзедзізну, Полацкіе князі шукалі прытулку ў Літве і Лівоніі. Там, сабраўшы дружыны, прыняліся яны організаваць у княжствы тамтэйшые народы і, каб лягчэй ішла работа, паказывалі сябе за адноверцоў с тамтэйшымі жыцелямі, а ка-

лі была патрэба, то і перэменялі сваё імёны. Так мала-памалу яны клалі асновы Літоўскаму княжству, аж пакуль Рынгольд, а пасьля сын яго—Міндоўг не сабралі сільнаго гасударства, злучыўшы ў вадно як полацкіх, так і літоўскіх князёў. Сталіцай маладога літоўскаго каралеўства стаўся Новагрудак (цяпер паветовы горад Мінск. губ.).

# ЧАСЦЬ ДРУГАЯ

## ад павароту полацкіх князёў (1132 г.) да сьмерці Вітоўта (1430 г.)

За тры годы пасьля хаўруснаго пагрому кіеўскімі князямі беларускіх зямель народ у 1132 гаду збунтаваўся проціў чужынцоў і прагнаў с Полацка князя Сьвятаполка, з роду князёў Яраславічоў кіеўскіх. Сабраўшыся на вечэ, народ урадзіў **вярнуць сваіх князёў**, правых дзедзічоў Полацкаго пасаду. Выбор веча паў на князя **Васількá Рогволодвіча** (ўнука Ўсеслава вялікаго). Пры гэтым даўные дамовые войны і сваркі заціхлі; дробные удзельные князі цяпер пачалі крапчэй трымацца адзін другога, падтрымывалі меж сабой згоду і лад, а толькі войнамі ў чужых землях стараліся пашыраць сваю ўласьць. Так яны завaладзелі пры-Дзьвінскімі землямі Лівонцоў і Латышоў. Ўласьць і павага народнай рады—веча расшырылася. Выбар князя на Полацкі пасад залежаў толькі ад веча. Яно па сваей волі пераменяе князёў. Так у 1151 гаду вечэ выслало полацкаго князя Рогволода ў Мінск, а на Полацкі пасад пасадзіло **Росціслава;** цераз восем гадоў ізноў вярнуло Рогволода, а ў 1162 г. ізноў скінуло яго, выбраўшы князем Ўсеслава Васільковіча.

**Ўсеслаў Васільковіч** належыць да лічбы слаўнейшых Полацкіх князёў. Іон княжыў с 1160 да 1180 году. Народ і удзельные князі яго вельмі любілі, высока цэнючы яго розум і справедлівасць; усе ахвотна яго слухалі і называлі Вялікім князем. Пасьля сьмерці Ўсеслава Васільковіча вечэ не хацело выбіраць сабе другога князя, а завяло **рэспубліку,** каторай кіравало 30 выбраных старцоў, хаця ешчэ жылі сыны і ўнукі Ўсеслава Брачыславовіча. **Рэспублікай Полацкае княжство было 9 гадоў:** ад 1181 да 1190 году. У 1190 гаду



полочане выбіраюць сваім князем нейкаго **Мінгайлу,** або Мігайлу. Скора ён перэдае пасад сыну свайму **Гінвіллу.**

Новы князь побоч паганскаго—літоўскаго імені Гінвілло носіць і хрысьціянскае імя Юрыя; жэнат з дачкой рускаго князя, хрысьціянкай ўсходняго абраду. Гінвілло памёр ў 1199 гаду у Оршы.



Гранічны камень княжства Полацкаго.

Хто былі гэтые Мінгайло і Гінвілло—трудна разгадаць. Аб'ясьненьне можэ быць толькі такое, што Мінгайло прыналежаў да тагож роду князёў Полацкіх, бо трудна думаць, каб полацкае вечэ і удзельные князі дазволілі чужому захапіць полацкі пасад.

Пасьля Гінвіллы князем быў просты насьледнік Ізяславоваго дома **Барыс** сын Рамана Ўсеславовіча, (некаторые летапісцы называюць яго сынам Гінвіллы), праўнук Ізяслава Володзіміровіча. Барыс вядомы сваей набожнасьцю. Іон пабудаваў колькі храмоў у Полацку. Другая **жонка Барысова** была **Сьвятохна,** дачка польскаго князя Болеслава (Паморскаго). Гісторыя ўспамінае аб народным бунце ў Полацку ў 1217 гаду, у часе катораго Сьвятохну забілі. Сыном сваім с першае жонкі Барыс раздаў Лівонскіе і Латышскіе землі. Адзін з іх, **Васілько, быў князем Кукейноскім**

(Кокенгаўзэн), другі, Вячэслаў, быў **князем у Юрьеве** (Дорпаце), гдзе яго забілі ў часе вайны с крыжакамі ў 1223 гаду.

Пасьля Барыса княжыў у Полацку сын яго, Васілько (Кукейноскі). У гэтым часе жыў ешчэ Глеб Рогволодовіч, князь Друцкі,



**Руіны замчышча ў Кокенгаўзэне.**

дачка катораго Параскевія (Параска), памёршая ў 1239 г., залічэна да ліку сьвятых.

**Апошнім князем** з дому Ізяславовічоў **лічаць Брачыслава**, каторы княжыў над Полацкам і Вітэбскам.



С канцом XII веку простая лінія князёў Полацкіх Рогволодовічоў пачынае выміраць. Край чэкала іншая доля, прыгатаўляліся вялікіе перэвароты ў зямлі Беларускай.

У тые часы, калі полацкіе князі трацілі час і сілы ў дамовых войнах адзін проці аднаго, суседняя старонка—Літва узмацнялася і расла. Ужо ў XI сталецьці ў часьці зямель з мешаным беларус-



**Руіны замчышча у Новагрудку.**

скім насяленьнем заснавалося Літоўска-Завілейскае княжство, каторае, па нацыянальнасьці сваіх жыцелёў, было Літоўска-Крывічанскім, або Літоўска-Рускім княжствам з сталіцай у Новагрудку.

У 1230 г. **Літоўскі князь Рынгольд** напаў на Беларускіе землі і заваеваў іх. Гэта перэпужало удзельных беларускіх князёў. Пад

камандай Давіда, князя Луцкага, выступілі яны злучэнымі сіламі проці Літвы. Войскі спаткаліся на правым берэзі Нёмана, каля вёскі Магільно,—і Рынгольд да званьня разбіў злучэнае войска; пры гэтым згінулі слаўнай сьмерцьцю князь Давід Луцкі і Дзьмітр, князь Друцкі. Адначасьне збунтаваўся народ у Полацку, і Рынгольд пайшоў туды з войскам на усьмірэньне. У 1236 гаду Рынгольду удалося разбіць войска крыжацкае і пасьля гэтых двух пабед мог ён лічыць сябе зусім спакойным, бо Русь тады вельмі прыціснулі Татары.

Пасьля сьмерці Рынгольда, сын яго Міндоўг узяў ўласць у свае рукі (1242 г.). Калі Міндоўг сеў на вялікакняжэцкім пасадзе ў Новагрудку і умацаваўся ў землях Смаленскай, Вітэбскай, Друцкай, тады і Полацкае княжство з Вітэбскім і другімі удзеламі страцілі сваю незалежнасць.



**Печатка кн. Міндоўга.**

Міндоўг у 1252 гаду прыняў каталіцтво і с пазваленьня Папежа каранаваўся на караля Літоўскаго, думаючы такім спосабам збавіцца ад напасьцей крыжацкіх. Гэтыж самы Міндоўг у 1255 г. дастаў пазваленьне ад Папежа каранаваць сына свайго Войшэлка або Васіля (двух імён) на Караля Рускага, катораго думаў пасадзіць у Полацку. Князі цяпер ужо выбіраліся не вечэм, але назначаліся вялікім князем Літоўска-Рускім. Першым такім назначэным князем у Полацку быў **Тотвілл, або Цімафей**, пляменьнік Міндоўга. Гэты Тотвілл падгаварыў другіх Літоўскіх князёў забіць Міндоўга, бо лічылі, што ён проці права загорнуў вялікакняжэцкі пасад: у літвіноў спадчына належала не да сыноў, але да дзядзькоў—братоў памёршага. Згаворшчыкі падкупілі Міндоўговага слугу Астапа і 12 ве-



рэсьня (сенцябра) 1263 года напалі на сьпячага князя і забілі яго разам з двумя малалетнімі сынамі.

Пасьля сьмерці Міндоўга пачаліся сваркі і войны памеж князямі—ўбіўцамі. Тотвілла забіў Тройнат. У Полацк быў назначэны **Эрдэн** Давідовіч. Летапісі кажуць, што бацька Эрдэна—Давід быў зродным (дваюродным) братам Міндоўга. Гэты сказ вельмі важны. Калі Міндоўг быў родзічэм Давіда, дык ён належаў да роду князёў Полацкіх.

Эрдэн, як паказывае гандлёвы кантракт, каторы зрабіў ён з Рыгай, быў больш за другіх незалежным князем бо ў гэтым кантракце аб вялікім князі не ўспамінаецца.

С 1293 да 1341 году княжыў у Полацку **Вітэн**, а пасьля княжыў **Андрэй** Ольгердовіч.

У 1316 гаду на пасад вялікіх князёў Літоўскіх сеў Гедымін. Пры Гедыміне і сыне яго, Ольгердзэ, Полацкае вечэ было зусім адсунутым ад гасударственных спраў; яно займалося толькі судамі і справамі гаспадарскага значэньня. Гедымін і Ольгерд безупынна кіраваліся да адноўладзтва. Яны, як мага, касавалі удзельных князёў. Пасьля сьмерці удзельнаго князя удзел пераходзіў не ў рукі сыноў, але на вялікаго князя. Такім парадкам перэйшлі на Ольгерда Вітэбскае княжства (па жонцэ, ён быў жэнаты з Вітэбскай княжнай Марыей), Туроўскае, Мінскае і іншые. Новагрудак быў увесь час цэнтральным пунктам упраўленьня абшырным Літоўска-Рускім гасударствам. І толькі Гедымін перэнёс сталіцу ў Вільню.

Такім парадкам мала-памалу з Беларускіх зямель злажылося новае гасударство—княжство Літоўска-Рускае. Літоўскіе князі, умацаваўшыся перш у Полацку, прынімалі хрысціянство і радніліся з Беларускімі і Полудзённа-Рускімі князямі. Гедыміну ня трудна было пры тагдышніх варунках заснаваць сілай і палітыкай моцнае гасударство. Уся Полудзённая і Усходняя Русь гібнула пад татарамі. Рускіе князі ахвотна ішлі пад апеку Гедыміна, асабліва Кіеўскіе, Чэрнігоўскіе і Валынскіе, бо відзелі ў ім збавіцеля ад цяжкай татарскай нявoлі. Гедымін быў мудрым чэлавекам, ён разумеў, што дабром ды ласкай можна больш зрабіць, чым сілай, і дзеля гэтаго у прылучэных землях не чэпаў ён веры і свабоды тамтэйшых жыцелёў, але ўсе парадкі астаўляў так, як яны былі.

У часы княжэньня Вітэна, Гедыміна і Ольгерда край ажыў, аддыхнуў пасьля доўгіх дамовых воен, грабежств і непарадкоў, звы-

2. Зак. 5688.



Руіны Троцкаго замчышча



чайных насьледкоў самавольства і самоупраўства асобных людзей. Але толькі што пачалі гаіцца даўныя раны, калі ізноў у гэтай старонцэ пачаліся сваркі і войны.

Ольгерд перад сьмерцьцю (1377 г.) аддаў сыном сваім удзелы: Сымону—княжство Мсціслаўскае, Ягайле—Вітэбскае, Дзьмітру Корыбуту—Друцкае, Новагрудзкае і Лідзкае. У Полацку княжыў Андрэй Ольгердовіч. Ведама, князі гэтые былі толькі наместнікамі вялікаго князя і ніякіх правоў ня мелі: кіраваў імі сам вялікі князь.

Хаця Андрэй Ольгердовіч, князь Полацкі, быў самым старшым сынам Ольгерда, але насьледнікам на вялікакняжэцкі пасад (цяпер ужо у Вільні) Ольгерд па просьбе жонкі сваей—Юльяны **назначыў Ягайлу.** Андрэй Полацкі лічыў сябе пакрыўджэным гэтым; ён не





**Печаткі кн. Кейстута**

прызнаў правоў Ягайлы на Вялікакняжэцкі пасад і аткрытна паўстаў проці яго. Даведаўшыся, што вялікі князь маскоўскі—Дзьмітры збіраецца вайной на Літву, ён пасьпешыў да яго. На мейсцэ Андрэя Ольгердовіча назначэны быў у Полацк **Андрэй Гарбаты,** сын Кейстута. У гэтым часе Кейстут (брат Ольгерда, дзядзька Ягайлы), даведаўшыся, што Ягайла тайна падмаўляе проці яго крыжакоў,—пайшоў вайной на Вільню, узяў у няволю Ягайлу і за кару адаслаў яго у Вітэбск. Ягайла прысягнуў, што будзе сядзець спакойна, але ў Вітэбску ізноў пачаў нагаварываць крыжакоў, каб памаглі яму вярнуцца на Вялікакняжэцкі пасад.

Крыжакі ахвотна згодзіліся памагаць яму, бо ведалі, што пры гэтых дамовых сварках аслабляюць свайго непрыяцеля. Рыцары прыйшлі с сільным войскам. Ягайла злучыўся з імі і напаў неўспадзеўкі на Кейстута, але Кейстут быў разумным і сьмелым чалавекам, дык і вайна з ім была ня лёгкая, і карысць невядомая. Дзеля гэтаго Ягайла пусьціўся на хітрасць: ён прасіў дзядзьку с сынам у свой абоз бытцам для таго, каб памірыцца. Даверчывы Кейстут прыстаў на гэта, але як толькі ён прыехаў туды, яго схапілі разам с сынам Вітоўтам, завезьлі ў Крэво (цяпер мястэчко у Ошмянск. пав. Віл. губ.), зачынілі яго ў замчышчэ, гдзе на пяты дзень падасланые праз Ягайлу убіўцы **задушылі Кейстута** разам са слугой яго Грыгорам Амулічэм. Вітоўта чэкала гэткая-ж самая сьмерць; але, жонка яго, Анна, здалела выратаваць, перэадзеўшы ў жаноцкую апратку. Ягайло сеў ізноў на Віленскім Вялікакняжэцкім пасадзе. Каб сагнаць кейстутоваго сына, Андрэя, Гарбатаго, с полацкаго пасаду, Ягайло паслаў на Полацкі пасад брата свайго, Скіргайлу; але Полачане, улюбіўшы свайго князя, заступіліся за яго і не пусьцілі ў Полацк Скіргайлу. Тады Скіргайла прызваў крыжакоў і напаў на Полацк. Але князь Андрэй Гарбаты абараніў сваю сталіцу. Тымчасам Андрэй Ольгердовіч злучыўся с крыжакамі і князем смаленскім і так сама пайшоў на Полацкіе землі. Народ разам Андрэем Гарбатым не дапусьцілі іх да Полацка. Тады крыжакі, спаліўшы ваколіцы Лукомля, Дрыссы і шмат якіх вёсак, набраўшы колькі тысяч народу ў няволю, павернулі назад. У гэтым самым часе Сьвятослаў Смаленскі напаў на Вітэбск і Оршу. (Гэты чэлавек праславіўся сваім зьверствам. Летапісі разсказываюць аб ім страшэнные рэчы. Іон паліў цэлые сотні жывых людзей, запёршы у дрэўляных будынках,—душыў, садзіў на кол жанок і малых дзяцей). Пасьля пайшоў ён на Мсціслаўль. Дзесяць дзён стаяло яго войска каля гораду. Жыцелі не паддаваліся. На адзінадцаты дзень прыйшла гораду падмога, высланая Вітоўтам. Скора прыехаў і сам Вітоўт. Адбылася крывавая, страшная бітва. Сьвятослава і яго пляменьніка—Юрыя забілі, а сыноў яго ўзялі ў няволю. С пад Мсціслаўля Літоўскае войска пайшло да Смаленска; пасадзіўшы там свайго князя, пасьпешыло яно далей к Полацку, каторы усё ешчэ не паддаваўся Андрэю Ольгердовічу. Тады Андрэй Ольгердовіч, да катораго ўжо дайшлі весьці аб долі Сьвятослава, адступіўся ад Полацка і замкнуўся ў Лукомлі. Але тут





(Перэдрук забаронены) **Владыслаў-Якоў Ягайло**

ён ня вытрымаў напору непрыяцельскаго войска і паддаўся. Закаваўшы ў ланцугі, яго адаслалі ў Вільню. Так скончыліся войны 1386 года. Полацк пасьля гэтаго атрымаў сільнае войска на прыпадак напасьці крыжакоў; іншые гарады—Вітэбск, Орша, Лукомль, Мсціслаўль, Мінск—былі умацаваны нанова валамі і замкамі.

У гэтым часе палякі, прыціснутые крыжакамі, шукалі сябарства ў Літоўска-Рускім гасударстве. На польскім—кракоўскім пасадзе была **Ядвіга**, другая дачка караля Вэнгерскаго Людвіка. Хоць ужо яна была засватана за Вільгэльма Аўстрыяцкаго, але палякі пастанавілі сарваць заручыны і выдаць яе **замуж за Ягайлу** аддаўшы яму польскі пасад. Рады аб гэтым пачаліся перш у Крэве, пасьля ў Волкавыску. З гэтых рад выйшло тое, што **Літоўска-Рускае гасударство злучылося с Польшчай**; кароль у злучаным гасударстве адзін—Ягайло; ўнутрэнае упраўленьне і грошэвая (фінансовая) гаспадарка зусім асобные ў кожным гасударстве. Загранічные зносіны і абарона ад непрыяцелёў вядуцца супольна. Ягайло павінен прыняць каталіцтво і шырыць яго памеж сваіх падданых. Калі варункі гэтые былі падпісаны, Ягайло ў 1386 г. атправіўся ў Кракоў з многімі князямі і боярамі. Іншые бояры і князі с сьвіты Ягайлы прынялі разам з Ягайлом каталіцтво. Ягайло, каторы змалку быў хрэшчоны паводлуг усходняго абраду іменем Якоў, пры пераходзе на каталіцтво атрымаў імя Ўладыслава. А тады ўжо адбылося венчаньне і коронація.

Калі скончыліся вясельные банкеты ў Кракове, Ягайло разам з Ядвігай паехаў у сваё гасударство. У Лідзе ў 1387 г. ён выдаў дэкрэт аб скасаваньні паганскай веры ў Літве, а ў Вільні гэтаго году выдаў другі дэкрэт, у каторым, памеж іншым, пісалося, што Ягайло прысягнуў усіх Літвіноў, як мужчын, так і жанок, усякаго стану, роду і чыну, каторые жывуць у граніцах Літоўска-Рускаго гасударства, да якой бы яны не прыналежалі веры,—упрасіць, угаварыць, прызваць, а нават прымусіць прыймаць каталіцкую веру і т. д.

Гэтак распарадзіўшыся, кароль паехаў у Беларускіе землі; пабываў у Вітэбску, Полацку,—ў гэтым апошнім пры ім быў народны бунт. Расправіўшыся з бунтоўшчыкамі, Ягайло паехаў у Магілёўскую губэрню, гдзе ў цяперашнім мястэчку Обольцах, Копысьскаго павету, заснаваў першы каталіцкі касьцёл у гэтым краю.





**Мальборг (глаўная крэпасць крыжакоў)**

**Ягайло Полацк аддаў Скіргайле** і, каб болей прыцягнуць Скіргайлу к сабе, пачаў—с крыўдай для іншых братоў сваіх--надзеляць яго ўсё новымі землямі і ў канцы зрабіў яго Вялікім князем Літоўска-Рускім. Гэта разсярдзіло другіх ягайловых братоў, а больш за ўсё даняло Вітоўта, каторы ў 1392 гаду патрапіў сілай заваладзець Вільняй і Вялікакняжэцкім пасадам. Ягайло змагацца з ім тады ня меў сілы і прыстаў на згоду.

**Вітоўт** быў ўнукам Гедыміна, а сынам Кейстута. Ваеннай штукі вучыўся ён у свайго бацькі Кейстута, найлепшаго ў тые часы ваякі. Вітоўт быў вельмі здольны і сьмелы палітык. Калі Ягайло вянчаўся з Ядвігай, усё было за тым, што вялікім князем Літоўска-Рускім будзе не хто іншы, як Вітоўт. Тым часам рахункі абмылілі. Ягайло Вітоўта пакінуў у старане. Вітоўт тымчасам рабіў сабе прыяцелёў у другіх гасударствах, выдаў дачку сваю Настасю за Маскоўскаго князя Васіля Дзьмітровіча; а пасьля зазваў у помач крыжакоў. Калі Ягайло пераканаўся, што змагацца з Вітоўтам не здалее, і яны памірыліся, тады Вітоўт жэдаў каранавацца на Літоўска Рускаго князя.



**Вялікі князь Вітоўт**

У 1392 гаду ў Вільні ў катэдральным касьцеле **Вітоўт каранаваўся** і атрымаў правы незалежнаго князя пад апекай караля. Вітоўт меў тады 48 гадоў. Палажэньне краю было незавіднае: з аднэй стараны ціснулі край крыжакі, з другой татары, а ў самым краю ішлі вечныя сваркі і звадкі удзельных князёў. Вітоўту трэба было супакоіць крыжакоў і татароў, зніштожыць удзельных



князёў і завясьці розные палепшэньня (рэформы) ў гасударстве. Але у яго былі ешчэ і іншые мэты: ён хацеў заснаваць моцнае гасударство, каторое было бы зусім незалежнае ад Польшчы, і самому каранавацца на **Літоўска-Рускаго караля**. Гэтай мэтай і кіраваўся Вітоўт праз усё сваё жыцьцё.

Перш на перш вялікаму князю трэба было прыцішыць удзельных князёў, а гэтых князёў было многа, і кожны з іх не хацеў мець над сабой ніякай ўласьці, нікога не хацеў слухаць, а пры найменшай сварцы зазываў татар, або крыжакоў на помач; з гэтай прычыны цягнуліся безканечные дамовые войны. Вітоўт на ўсіх іх патрапіў налажыць сваю руку і прыцішыць. Іншые удзелы прылучыў да гасударства. Кіраваные жалезнай рукой Вітоўта, удзельные князі прыціхлі. У 1396 гаду Вітоўт зьехаўся з зяцем сваім, князем Маскоўскім, у Смаленску, гдзе яны устанавілі граніцы Літоўска-Рускаго і Маскоўскаго княжств. Цяперашніе губэрні: Віленская, Ковенская, Гродзенская, Сувальская, Падольская, Валынская, Смаленская, Мінская, Магілёўская, Вітэбская, Кіеўская, Чэрнігоўская, Кацерынослаўская, Херсонская і Орлоўская, а так сама часьці Калужскай і Тульскай прыналежалі да Вітоўта. Гасударство яго цягнулося ад граніц Пскоўскіх і вёскі Можайска (107 вёрст ад Масквы) да Галічыны і Молдавіі з аднэй стараны, а з другой да берэгоў рэк Окі, Сулы і Днепра.

Цяжэй за ўсё Вітоўту было паладзіць с Польшчай: усё, што ён рабіў добраго для свайго краю, ішло як раз супроць жаданьня палякоў. У Польшчы пад тые часы былі людзі разумные, хітрые і добрые палітыкі. Хоць сам Ягайло быў чэлавек слабы, грубы, недальнозоркі, але ім кіраваў вельмі разумны палітык Збігнев Олесьніцкі. З ім і прыходзілося Вітоўту глаўным чынам змагацца.

На зьездах Віленскім 1401 г. і Городэльскім 1413 г. Літоўска-Рускіе баяры атрымалі польскіе шляхоцкіе гэрбы. Паном падабаліся зьезды і гэрбы, а больш за ўсё падабаліся ім прывілеі (правы наданые) над станам селянскім. Вітоўт праз пальцы глядзеў на зьезды, гэрбы і прывілеі, каторые шляхта сама сабе устанаўляла. Аб'еджджаючы шырокае сваё гасударство, Вітоўт сам угледаўся ў жыцьцё і патрэбы народу. Бачучы цяжкае палажэньне „земян гаспадарскіх“ (даслоўно: землеробоў царскіх—дробных гаспадароў, хутаран), Вітоўт даваў ім розные правы і палягчэньня ад павіннасьцей, нало-



Беларуская кроніка (летапісь) аб Вялікіх князях Літоўска-Рускіх



жэных рознымі „*дзержауцамі*“—князямі і баярамі. Горды і недаступны с князямі і баярамі, срогі для ваенных чыноў і начальнікоў, цьвёрды і неўмалімы ў справах судовых, Вітоўт быў заўсягды даступны для ніжшых: кожны селянін мог дастуліцца да яго і вылажыць свае крыўды, ці патрэбы. Вітоўт належаў да ліку тых, што патрапяць людзей кожнай нацii, кожнай веры лічыць роўнымі сабе, калі яны толькі былі добрымі грамадзянамі. Іон даваў правы жыдам і татарам, каторые сяліся у яго гасударстве. У тые часы, калі ва ўсей Эўропе глуміліся над жыдамі, Вітоўт пісаў у сваіх законах: „естлі бы жыда забіто, а церэз сведоцтво не мог довесці своім прыяцелем, каторый бы яго забіл; естлі бы кого в пытаньню некаторого падозрэннаго мелі, мы жыдам на протівку падозрэннаго хочэм оборонцэм быці“.

Маючы перад вачыма глаўную сваю мэту: заснаваць незалежнае зусім гасударство, Вітоўт хацеў устанавіць асобнаго мітрополіта для Беларусі, заснаваць національную цэркву, незалежную ад маскоўскай мэтрополіі. Дзеля гэтаго ў 1415 гаду з'ехалося беларускае духавенство на сабор у Новагрудак, і тут Вітоўт выдаў акружную грамату, ў каторай так пісалося: „мы, хоцячы, штобы ваша вера не меншыла, ні угібала, і цэрквам вашым бы строене было, учынілі есьмо так мітрополіта, збором, на кіеўскую мітрополію, штобы руская чэсць уся стаяла на рускай земли“.

Першым беларускім мітрополітам быў Грыгор Цымвлак. Мітрополіты больш за ўсё жылі ў Вільні.

У гарадох Вітоўт садзіў рэмеснікоў і гандляроў, даючы ім розные „прывілеі“, каб развіць у краю уселякі промысел і гандэль. Кожны мір с суседнімі гасударствамі Вітоўт выкарыстываў на пашырэньне краёваго гандлю. Каб аблегчыць і расшырыць гандэль, Вітоўт будаваў новые дарогі і масты на рэках, прасекаў бозканечные лесы.

Пад канец свайго жыцьця Вітоўт выпоўніў усе свае жаданьня. Сілу крыжацкую ў бітве пад Грунвальдам Вітоўту удалося зусім зламаць; с татароў патрапіў зрабіць спакойных суседзёў; самавольства князёў удзельных і баяр—супакоіў. Устанавіўшы справедлівые суды, срогіе ваенные парадкі; разшырыўшы гандэль; падняўшы хлебаробство, устанавіўшы шырокую свабоду веры,—Вітоўт мог чэкаць нагряды за свае труды.



Беларуская кроніка (перэхоўваецца у Віленскай публічнай бібліотэцы).

... гонца пошлет. къ великому князю витовту к дорогичьоу. што тая дѣла сталася. и гонецъ той найдет. великаго князя витовта оу городнѣ. и князь великый витовтъ за одинъ день з городна прыженеть къ отцу своему великому князю кестоутью. онж реклъ. сыну своему великому князю витовтоу ты мнѣ не вѣрилъ. а се тыи грамоты што записалися на нас. но бог насъ остерегъ. ино я великому князю ягайлоу нічого не вдѣлалъ. не рушилъ есми ни скарбов его ни стад. а сам оу мене оунятствѣ ходять за малою сторожою. а отчину его витбескъ. крево. вся мѣста што отецъ его держал, а тое все емоу даю ни вь што не вступаюся, а то вдѣлал есми. стерега головы своей и почюлъ есми што на мене лихомыслять и князь великый ягайло. оурадовался



Заграні̇чные зносіны Вітоўта былі самые найлепшые. Маскоўскі князь Васіль прыходзіўся Вітоўту ўнукам; князі Разанскі, Тверскі і др. называюць яго панам і гаспадаром сваім. Чэхія хочэ аддаць яму сваю карону. Папеж назначае яго апекуном Рыжскаго архіепіскопства. Імператар Зыгмонт у лістах сваіх радзіць Вітоўту каранавацца на Літоўска-Рускаго караля. Вітоўт гэтаго і дабіваўся. На водохрышчэ 1429 г. запрасіў ён к сабе ў Луцк гасьцей з усей Эўропы. Зьехаліся: Ягайло, кароль польскі з дваранамі; Васіль, князь маскоўскі; вялікі магістр крыжацкі; паслы ад імператара грэцкаго; пасол ад Папежа; мітрополіт маскоўскі Фотій; Імператар Рымскі з багатай сьвітай. Пішуць летапісы, што кожны дзень выходзіло на пачастункі госьцям 700 бочэк віна, мёду, піва; 700 быкоў і кароў; 1400 бараноў; 100 зуброў; 100 кабаноў; 100 лосёў. Госьці банкетовалі ў Луцку 7 тыднёў.

На каранацію Вітоўта глаўные асобы, ад каторых гэта залежало,— Папеж і Рымскі імператар—згаджаліся, але праціўны гэтаму былі палякі. Ўспамянуты вышэй Збігнев Олесьніцкі, біскуп кракоўскі, усімі сіламі стараўся гэтаму перэшкодзіць. Іон прычыніўся да таго, што каранацію адлажылі на пазьней, і госьці раз'ехаліся, умовіўшыся з'ехацца ізноў у 1430 гаду. Кракоўскі біскуп, баючыся, што перэламаць Вітоўта не ўдасцца яму, угаварыў Ягайлу адступіць Вітоўту польскую карону. Але Вітоўт не пагаліўся на польскую карону. Іон жэдаў бачыць Літоўска-Рускае гасударство зусім незалежным, і толькі гэтай кароны хацеў.

На другі год зьезд ізноў сабраўся ў Троках. Усе госьці сабраліся, апрача Імператара Рымскаго Зыгмонта, каторы паслаў карону Вітоўту з нарочнымі паслами. Але Збігнев Олесьніцкі, падпільнаваўшы паслоў, адабраў у іх карону. Летапісь кажэ: „І ляхове, не жычыўшы короны Літве, корону от ніх (паслоў) тую адабраўшы і разсекшы ее на полы, прыложылі ко коруне біскупа краковскаго, каторая і цепер пры замку і косьцеле сьв. Станіслава ёсць".

Вітоўт быў хворы. Гэтай новай неўдачы ён не перэнёс і 27 лістапада 1430 году памёр.

На зьездах каранацыйных Вітоўта, апрача каранаціі яго, разбіралося такжэ пытаньне аб тым, як пагадзіць цэрквы Усходнюю-Праваслаўную з Заходняй-Каталіцкай. Імператар Зыгмонт раіў зрабіць цэркоўную унію (злучыць цэрквы ў адно). Гэтае ж самае пы-

таньне разьбіралося і раней ешчэ на зьездах Беларускага духавенства ў Новагрудку і Мінску.

Пры Вітоўце Беларусь аддыхнула лягчэй. Дрэнна было пры ім князём і баярам, але народу лепей жылося.

Толькі ўсьпеў памерці Вітоўт, як ізноў пачаліся самавольные войны, перш меж Скіргайлам і Сьвідрыгайлам, а пасьля меж Сьвідрыгайлам і Зыгмонтам.



Вялікі кн. Вітоўт
(с партрэту катэдры Віленскай)

Калі быў выбран на Вялікакняжэцкі пасад Літвы і Русі Казімір Ягайловіч край ізноў пачаў прыходзіць у парадак. Казімір завёў розные новые законы, каторые зьменілі зусім гаспадарку краю. Але з гэтаго часу асобная гісторыя Беларусі канчаецца: гэта старонка пачынае жыць агульным жыцьцём перш Літвы і Русі, а с 1569 году і Польшчы. Пачынаюцца часы штучнаго збліжэньня, фальшывай дружбы разам с сваркамі, недаразуменьнямі і абапольнай няверай. Змаганьне за незалежнасць цягнецца ешчэ 139 гадоў. У 1569 г. Літоўска-Рускае гасударство палітычна памірае.



# ЧАСЦЬ ТРЭЦЯЯ

## ад сьмерці Вітоута (1430 г.) да Люблінскай Уніі (1569 г.)

Ешчэ пры жыццці Вітоўта ў 1413 гаду быў у **Городлі** (Люблінскай губэрні) **сэйм**, гдзе польска-літоўская шляхта надпісала варункі, па каторых Літва і Русь злучаецца с Польшчай на вечные часы ў адно гасударство. Літоўска-Беларускіе баяры атрымалі на гэтым сэйме права прыпісывацца до родавых польскіх шляхоцкіх гэрбоў, але толькі тые з баяр, каторые перэменяць сваю веру усходняго абраду на каталіцтво. Мы ўжо ведаем пагляд Вітоўта на справы рэлігіі, што ён за веру нікога не прыціскаў, ані зьдзекаваўся і людзям аднэй веры не даваў большых правоў проці людзей другой веры. Хаця ўсе гэтые шляхоцкіе зьезды, гэрбы і прывілеі за жыцьця Вітоўта былі толькі пустой забаўкай, але ўсё-такі Городэльскі акт пасеяў сварку дамовую ў Літоўска-Рускім гасударстве. Баяры Літоўскіе і Жмудзкіе, прыняўшы каталіцкую веру, пастаўлены былі Городэльскай уніей у лепшые варункі—як бы паноў над беларускімі баярамі, каторые ў тые часы крэпка ешчэ трымаліся сваей бацькоўскай веры. З гэтай прычыны ў Літоўска-Рускім гасударстве злажыліся дзьве непрыязные сабе партіі—каталіцкая і праваслаўная. Непрыязнь гэта была глухой, таёнай, але жыла поўным жыцьцём ў душах як каталікоў, так і праваслаўных. Городэльскую унію і варункі не вельмі падтрымывалі палякі. Адзін з гэтых варункоў кажэ: „Сызматыкі і другіе няверные (некатолікі) ня могуць займаць ніякіх вышэйшых становішч ў Літоўскім гасударстве“. Унія зрабіла раздваеньне і ў беларускім баярстве. Людзі пустые, каторым туманілі мозг „тытулы“, і гэрбы, перэходзілі на старану палякоў часта толькі дзеля пыхі, а былі і такіе, каторые перэходзілі і дзеля карысьці, якую каталікам давала Городэльская Унія. Народ вось тады і пачаў дзеліцца на каталікоў і праваслаўных. Першые былі староннікі Польшчы і ўсяго што польскае; другіе сталі на становішчы краёвых інтэрэсоў, на становішчы національным. А побоч пачалі разгарацца нязнаные дагэтуль у Беларусі **сваркі рэлігійные**.



Страніца з беларускага псалтыра XVI сталецьця



Дзеля гэтага пасьля Вітоўтавай сьмерці праваслаўная партія, ў каторай лічыліся тады князі: Олельковічы (Слуцкіе і Капыльскіе) Сангушкі, Сапегі, Вішневецкіе, Збаражскіе, Порыцкіе, Озерскіе, Подберэзкіе, Острожскіе і многа іншых, боючыся перэвагі над сабой палякоў і польскай партіі, высунулі на кандыдата ў Вялікіе князі Сьвідрыгайлу, свайго староньніка. Партія была сільная і **Сьвідрыгайло** стаў Вялікім князем Літоўска-Рускім. Сьвідрыгайло хацеў, падобна Вітоўту, кіраваць гасударствам незалежна, але на гэта у яго нехапіла ні розуму, ні сьмеласьці. Маючы характэр жорсткі і гарачы, ён скора аднадзіў ад сябе нават сваіх староньнікоў. Трымаючы толькі адну старану—праваслаўных, дакінуў ён дроў у тлеўшые ешчэ іскры сварак рэлігійных, робячы агранічэньня католікам. Дзеля гэтага каталіцкая партія жадала мець на Вяліка-княжэцкім пасадзе свайго староньніка, **Жыгімонта** Кейстутовіча. Каб дайсьці сваей мэты, яны зрабілі згавор, каб забіць Сьвідрыгайлу. У 1432 гаду Жыгімонт з згаворшчыкамі у ночы ўвайшоў у Ошмяны, напаў на замчышчэ, с каторага чуць здалеў уцячы Сьвідрыгайло, пакінуўшы там жонку і багацтвы.

Сьвідрыгайло уцёк у Полацк і зара зьвярнуўся аб помачы да крыжакоў, каторые яму ў скорасьці і прыслалі падмогу. Тымчасам беларускіе землі не хацелі прысягаць Жыгімонту. Сьвідрыгайло с крыжацкім войскам пайшоў на Ошмяны, але быў разбіты і чуць ратаваўся сам, перш у Полацк, а пасьля у Псков. Жыгімнот, будучы Вялікім Князем, перэменяе палітыку: ён прыцесьняе беларусоў праваслаўных і дзеля таго староньнікі праваслаўнай партіі—князь Іван Чарторыжскі разам з ваеводамі Доўгірдам і Лелюсам—убіваюць Жыгімонта ў 1440 гаду.

Тады праваслаўная беларуская партія выбірае на Вяліко-княжэцкі пасад **Казіміра**, сына Ягайловага (1441) а праз 7 гадоў палякі выбіраюць яго сваім каралём. З гэтага часу **першы ешчэ раз володае Польшчай і Літвой з Беларусей адзін кароль.**

Пры Казіміры на сэймах у Любліне (1447 г.), ў Парчэве (1451 г.) і ў Петрокове (1453 г.) падпімаюцца пытаньня аб неразьдзельным злучэньні двух гасударств, але Літва і Беларусь змагаюцца ешчэ за сваю незалежнасць і аткідаюць еднасць с Польшчай, каторая гразіла зніштажэньнем нацыянальнай сьведомосьці у беларусоў, дзеля таго, што шляхта ахвоча была прыймаць толькі паверхны „лоск" польскай культуры і польскіе звычаі.

У 1439 гаду адбылася **Флорэнцкая Унія** цэрквей праваслаўнай с каталіцкаю. Казімір зраўнаваў правы праваслаўных с каталікамі, апіраючыся на тым, што Усходняя цэрква злучылася з заходняй. Але, папраўдзі, поўнага злучэньня цэрквей пасьля Флорэнцкай Уніі не было.

Казімір Ягайловіч, як мага, сьцярогся вайны, за тое шмат працаваў для ўзмацненьня права ў унутрэным жыцьці краю. Іон выдаў новые законы („Земскіе Прывілеі Казіміра“ 1457 г.) для ўсіх земель Літоўска-Рускаго гасударства. Павэдлуг гэтай прывілеі, ніхто с князёў, баяр і мешчан не караецца па чыім небудзь даносе, яўным, ці тайным, ні наказываецца падазрэнны перш чым будзе абвінавачэн на яўным судзе. За чужы праступак ніхто другі апрача вінаватаго не караецца — ні жонка за праступкі мужа ні бацька за праступкі сына. Цікава XV стацьця прывілеі, ў каторай забараняецца людзям чужых народнасьцей займаць урадовые службы і купляць зямлю ў Літоўска-Рускім гасударстве: „...в тых землях нашых, того велікаго княжства, земель, городов, мест, а с каторых кольвек врадов і дзедзіцтв вдэржаньня, або достойнасьцей, не маесі даваті жадному чужеземцу, але толькі тубыльцом тых земель, маем даваті мы і потомкі нашые“.



**Кн. Казімір Ягайловіч**

Судзебнік, або Статут Казіміра Ягайловіча, выданый у 1492 гаду ў мове беларускай, апіраецца ўсюды на установы Вітоўта. Гэты судзебнік разьбірае акуратна ўсе законы: аб копных (межавых) судох, аб гвалтах, парубках, аб зьездных судох, аб дарогах, мастах і др.



Па гарадох Казімір завадзіў Майдэборскае права, па каторым гарады мелі свае суды, сваё упраўленьне і зусім незалежна кіравалі сабой праз сваіх выбарных. Майдэборскае права Казімір завёў у Полацку, Вітэбску, Мінску і многіх другіх гарадох. Дзеля гэтаго тые гарады пачалі хутка багацець, гандэль у іх пачаў шыбка развівацца.



**Руіны замчышча ў Міры**

Пасьля сьмерці Казіміра (у Гродне 1492 г.) ізноў на неякі час Польска-Літоўскае гасударства раздзелілося: Палякі выбралі за караля Яна Ольбрахта, а літвіны і беларусы — Александры (абодва сыны Казіміра). Калі-ж у 1501 г. памёр Ян Ольбрахт, палякі Вялікаго князя Александра выбралі і сваім каралём.

У тым часе, калі Літоўска-Рускае гасударство змагалося за сваю незалежнасць, на ўсходзе расло і ўзмацнялося **Маскоўскае княжство**. У царствованьне Іоанна III яно становіцца ўжо сільным гасударством, на каторае волей-няволяй павінны былі агледацца сумежные народы. Даўней, калі Маскоўскае княжство было слабым, на яго мала агледаліся Літоўска-Рускіе князі; цяпер жэ яно было сільным і хацело паказаць сваю сілу. З даўна ішлі споры з Масквой аб літоўска-рускіх граніцах, але, калі за Іоанна III Масква пачувалася на сілах, яна **заявіла** свае **правы на беларускіе землі** бытцам яны з даўных часоў належалі да Масквы, былі „вотчынай“ маскоўскіх цароў. І вось за гэту „вотчыну“ пачаліся доўгалетніе войны (цягнуўшыеся блізка 150 гадоў), ў каторых на сьмерць змагаліся Масква і Русь літоўская. Вайна гэта была цяжкая і доўгая: яна большую часць Беларусі абернула ў шчырую пустыню. Мірные селяне, грабленые і паленые, пакідалі свае загоны і кут родны і беглі ў палудзенные сьцепы. Паля зарасталі лесам, культура падала. Збаўленая мужствам Ольгерда і Вітоўта ад цяжкай татарскай няволі, Беларусь у часе маскоўскіх воен дайшла да такой самай руіны, як усходняя і полудзенная Русь у часе татарскаго панаваньня.

Калі Літва і Беларусь выбралі сабе асобнаго князя **Александра Ягайловіча**,—Іоан карыстаючы з разладу паміж Літвой і Польшчай, пачаў вайну. Адзін з аддзелоў маскоўскаго войска, увайшоўшы ў Беларускіе землі, узяў Рогачоў; горад разграбілі і спалілі, а жыцелёў ўзялі ў няволю і адаслалі ў Маскву. Александр пасьпешыў паслаць паслоў к маскоўскаму князю каб дапытацца прычын вайны і зрабіць мір. Мір уладзілі, адступіўшы Маскве горад Мсціслаў. Каб утрымаць згоду з маскоўскім княжствам, Александр гэтаго-ж году, паслаў сватоў сваіх да дачкі Іоановай, Алены, с каторай і абвенчаўся. Але гэта не ўзмоцніло міру.

У 1500 пачалася ўжо заправўдная вайна з абодвых старон; гэта была **першая вайна Літоўска-Рускаго гасударства з Маскоўскім Царствам**. Александр выступіў проці свайго цесьця, аддаўшы каманду над войскам **князю Константіну Острожскаму**. 14 чэрвеня 1500 году была бітва, самая нешчасьлівая для беларуска-літоўскіх войск, каля гораду Дорогобужа. Блізка восем тысяч народу згінуло ад ран і патапілося ў рэцэ Вердошы. **Воевода Константін Острожскі і многа другіх князёў папалі ў няволю.**





Проба беларускаго пісьма з 1562 году

Ў Пачатку 1501 году **Маскоўскае войско падступіло пад горад Смаленск.** Смаленск абараніўся, але жыцелі яго не маглі прашкодзіць апусташаць, паліць і грабіць багатые і многалюдные ваколіцы Смаленска. Пачыналі перэгаворы аб міры, але не дайшлі ладу. Іоан другі раз у гэтым гаду паслаў свае войска дабываць Смаленска. Горад ізноў здалеў абараніцца часьцю мужствам жыцелёў, часьцю хітрасьцю: безпрэстаннымі напасьцямі (штурмамі) маскоўскаго войска сьцены гораду былі ужо шмат гдзе прабіты. Тады смаленскі воевода Глебовіч пачаў перэгаворы з маскалямі, бытцам хочучы ім паддацца, на што прасіў адпачынку на адну ноч. Маскоўскіе воеводы прысталі на яго просьбу с тым, каб праз усю ноч не чутно было ў горадзі стуку тапара. Смаленцы датрымалі слова, але і без тапара, аднымі пілямі—направілі за ноч сьцены. Тады маскоўскіе воеводы, сьцяміўшы, што нездалеюць перэмагчы горада, атступіліся ад Смаленска і пайшлі на Мсціслаўль, але там іх адбіў князь Іван Соломерэцкі.

Другая часць маскоўскаго войска пайшла к Заходнай Дзьвіне; яно разбіло і ўзяло ў няволю каля 7 тысач чэлавек з Літоўска-Беларускаго войска. У 1502 гаду Іван ізноў пасылае аграмадные сілы дабываць Смаленска. Часць гэтаго войска, напаўшы на горад Оршу, ўзяло яго спаліло і разграбіло і далей пасувалося на Мсціслаў, пакідаючы за сабой шчырую пустыню, на каторай толькі дыміліся пажарышчы, а небо ў дзень чэрнело ад дымоў, а ў ночы паланело чырвонымі зорывамі пажароў. Але гэтае грамаднае войска скора зпачало галадаць у краю, каторы само спустошыло, і павінно было з гэтай прычыны пасьпешна вертацца назад.

Наканец 25 марца 1503 г. зроблено было часовае замірэньне. За Масквой астаўся горад Гомель і колькі мест у цяперэшнім Рогачэўскім павеце.

Замірэньне ешчэ ня скончылося, калі абодвы ваюючые—зяць і цесьць—памерлі (ў 1506 гаду).

**Пры Александры беларуская партія мела перэвагу** над літоўскай; партія гэта падтрымывала на высокім гасударственым становішчы князя Глінскаго, каторы так сама меў пашану і у Александра. Калі Александра выбралі на польскаго караля, яму трэба было гадзіць інтэрэсы Літвы з інтэрэсамі Польшчы, каторые зусім разыеодзіліся. Каб лягчэй было яму параіць з гэтым, уступіўшы на



польскі пасад, ён падняў пытаньне аб поўным злучэньні Літвы с Польшчай. Беларуска-Літоўскіе князі і баяры так сама зразу проці гэтаго нічога ня мелі, а то с прычыны воен з Масквой, бо даць атпор Манкве адно Літоўска-Рускае гасударство не магло.

У 1501 гаду ў Польшчу былі пасланы ад Літвы і Беларусі дэпутаты, каб зрабіць гасударственую **у н і ю** с Польшчай, але без уніжэньня пры гэтым Літоўскаго гасударства. Палякі напісалі умову гэтай уніі (злучэньня), па каторай Літва і Русь меліся быць залежнымі ад Польшчы. Літоўска-Беларускіе дэпутаты адмовіліся падпісаць такую Унію. Але Александр **прымусіў іх падпісацца**; першы падпісаўся Глінскі. Каб не вайна з Масквой, гэты Александроў прымус пэўне давёўбы да поўнаго раз'єднаньня с Польшчай: Іоан III бытцам заганяў Літву і Беларусь у рукі Палякоў.

Па сьмерці Александрай літоўская партія, боючыся, каб Беларусы не выбралі у Вялікіе князі Глінскаго, пасьпешыліся выбраць Александроваго брата **Жыгімонта** (званаго ў Літве другім, або старым), не радзючыся пры гэтым с палякамі, каторые былі прымушэны выбраць яго і на польскаго караля, бо іначэй Літоўска-Рускае гасударство адпало-бы ад Польшчы).

У 1508 гаду, калі князь Глінскі, здрадзіўшы Жыгімонта, перэдаўся на старану Масквы, за яго намовай войска Іоанаваго насьледніка Васіля заняло большую часць Беларусі. Глінскі сам вёў Маскоўскае войска. Жыгімот з вялікім і моцным войскам выступіў проці яго. Тады Вялікі князь Маскоўскі згодзіўся мірыцца вечным мірам. Павэдлуг умоў гэтаго міру Маскоўскі князь **павінен быў вызволіць з няволі князя Констанціна Острожскаго і другіх ваенных нявольнікоў.**

Вечны мір трываў усяго толькі пяць гадоў: у 1513 гаду ізноў пачалася **вайна. Васіль узяў Смаленск.** Пасьля войскі спаткаліся на берэгах рэк Днепра і Крапіўны, недалёка ад Оршы. Вялікі Гэтман князь **Констанцін Острожскі выйграў дзьве бітвы.** Острожскі камандаваў усяго толькі 35 тысячамі чэлавек, а маскоўскаго войска было 80 тысяч чэлавек і, ня гледзячы на гэта, перэмог. 30 тысяч трупоў заслалі ўсё поле паміж Оршай і Дорогобужэм. Вялікі Гэтман Констанцін Острожскі, шчыры староньнік праваславія, на памяць выйгранай бітвы **пабудаваў цэркву** ў Вільні.

З гэтаго часу змаганьне за Беларусь вядзецца безупынно. Мы ня можэм у кароткім праглядзе гісторыі бацькоўшчыны нашай разбіраць усе гэтые войны; скажэм толькі, што Полацк, Мсціслаўль, Орша, Рогачоў, Гомель, Вітэбск найбольш цярпелі ад гэтай доўгай і цяжкай вайны. Дыміліся гарады, мястэчкі і сёлы; земля лежала адлогам і парастала лесам; жыцелі хаваліся па лесох, або уцекалі на далёкую Украйну. Можна сьмела сказаць, што ў ваколіцах гэтых гарадоў нема пядзі зямлі неаблітай крывёй. Тысячы магіл, раскінутых па краю і дагэтуль прыпамінаюць нам цяжкую руіну, да якой давялі край наш гэтые вайны.

Войны аднаўляліся ў 1516, 1518, 1519, 1534, 1535, 1536 гадах. Ў 1537 гаду зроблено было замірэньне на 5 гадоў; аднавілі яго ў 1542 гаду на 7 год і ешчэ раз аднавілі ў 1549 г. Калі скончылося замірэньне, тады началася вайна за **Лівонію**.

Лівонская вайна началася ў 1561 гаду. Масква і Польшча спіраліся за правы на Лівонію, але Лівонія сваей ахвотай перэходзіла да Літвы і прасіла ў яе заступніцтва. Войны за Лівонію адбываліся ізноў на беларускіх землях. У 1569 гаду Маскоўскі цар Іоан IV Грозны з арміей у 280 тысяч чэлавек пайшоў на Беларусь, асадзіў Полацк і 15 лютаго 1563 году ўзяў яго. Полацк у тые часы быў багатым горадам. Усё золато, серэбро і дарагіе рэчы у багацейшых баяр, купцоў і мешчан былі забраны разам з гасударственым скарбам. Владыка полацкі, воеводы і ўсе знатнейшые людзі былі ўзяты ў нявелю і атпраўлены ў Маскву.

Цар Іоан прыказаў хрысьціць усіх жыдоў, а тых, каторые спрацівяцца, тапіць у Дзьвіне. У 1564 гаду воевода троцкі князь Міколай Радзівілл разьбіў Маскоўскае войска пад Чашнікамі, пасьля асвабадзіў Оршу ад маскоўскаго воеводы князя Серэбрянаго, войска гэтаго апошняго, уцекаючы, спустошыло агнём і мечом увесь край ад Дуброўны да Крычэва.

У 1568 года князь Сангушко пад тыміж Чашнікамі і каля Уллы разьбіў ізноў Маскоўскіе войска, а Воевода Пац—пад Вітэбскам. Пабеды Сангушкі, Паца, Радзівілла прымусілі Іоана прыстаць на мір, каторы і быў падпісаны 1569 гаду. Жыгімонт быў апошнім князем з Ягайловаго роду. Іоан цешыў сябе думкамі аб тым, што яго выберуць на Польска—Літоўскі пасад.





ДАВІДГАРАДОК

Александр памёр ў 1505 гаду. Пасьля яго княжыў на Літве і Беларусі Жыгімонт, брат Александра, сын Казіміроў. Ешчэ пры жыцьці сваім Жыгімонт Стары назначыў свайго сына **Жыгімонта Аўгуста** ў Вялікіе князі на Літоўска-Рускі пасад. Такім спосабам ў Літоўска-Рускім гасударстве ізноў ажыла думка аб гасударственай незалежнасьці. Але Літоўска-Рускіе князі і баяры не патрапілі выкарыстаць яе дзеля разладу паміж сабой. А тымчасам у жыцьці гэтаго краю рабіліся аграмадные перэмены, што маглі, здавалося, памірыць Літоўскую і Беларускую партію, між каторымі больш за ўсё паднімаліся сваркі, рэлігійные і нацыональные. Вялікі **рух рэформаціі**, каторы захапіў і падняў усю заходнюю Эўропу, не абмінуў і Беларусі. Розные сэкты рэформацкай веры наплывалі ў Беларусь і Літву з двух старон: праз вышэйшые клясы і праз гарадзкое, мешчанское насяленьне. **Кальвінская і Лютэранская вера** сталі вядомымі ў Літве і Беларусі с першых-жэ гадоў паяўленьня іх ў заходняй Эўропе, ў той самы час, калі там Лютэр і Кальвін самі шырылі свае навукі.



Кн. Жыгімонт II (Стары)

Ў Беларусі даўно ўжо быў такі звычай, што моладзь знатнейшых і багацейшых фамілій ехала за навукай у Заходнюю Эўропу. Ад Немеччыны да Гішпаніі і Італіі ўсе вышэйшые школы поўны былі гэтай вучашчайся Заходна-Рускай маладзежы, каторая перэходзячы з гораду ў горад, з унівэрсытэту да унівэрсытэту, знаёмілася з загранічным жыцьцём, палітыкай і навукай. Варочаючыся дамоў яна прывозіла с сабой усе тые новые думкі, якіе ў той час шырыліся за граніцай. Вось, гэтай дарогай кальвінізм і лютэранства хутка пачалі шырыцца ў Беларусі паміж вышэйшымі багацейшымі станамі. Ізноў жэ да мешчанства протэстанцкая навука прыходзіла праз немецкіх купцоў і рэмесьнікоў, каторых немала жыло па гарадах.



Протэстанцтво расло і шырылося ў Літве і Беларусі надта шыбка: за якіх-небудзь дваццаць гадоў протэстанцтво разшырылося ўжо так шырока, што ў Сэнаце заседало ўсяго толькі двое каталікоў: біскуп віленскі ды жмудзкі; а ў новагрудзкім воеводстве з 600 з лішкам праваслаўных фамілій асталося ў старой веры ўсяго толькі шэснаццаць. Беларусь у часе рэформацкаго руху была вельмі падатнай глебай для новай навукі. І гэта вось чаму.

Каталіцтво на Беларусі і ў Літве ад часу Ягайлы было верай гасударственай; побач с каталіцтвам была іншая, старая вера, асіленая новай, але непрымірыўшаяся с сваім палажэньнем. Кіпело ешчэ змаганьне за кожную крышыну ўласьці і пільна раздмухівалася абустаронная ненавісць. Памеж абодвымі старанамі крайніе былі непрымірымы, але ў срэдніх радах і сьвятлейшых людзей мала-памалу **выраблялася сьведомасць патрэбы шырокай свабоды рэлігійнай і нацыональнай**. Рэформація прыходзіла у той час, калі людзі шчыра займаліся пытаньнем, каторая вера ёсць верай праўдзівай. І рух быў такі моцны і так глыбока парушыў усё грамадзянство, што, можна сказаць, зрабіў поўны перэварот у думках і паглядах.

**Увесь протэстанцкі рух**, а асабліва кальвінізм, **знайшоў моцных, заможных апекуноў у князях Радзівіллах**. Князь Мікалай Радзівілл (Чорны) праз кароткі час заснаваў ў Літве і Беларусі **163 кальвінскіе зборы**: ў Вільні, Брэсьце, Гольшанах, Ошмянах, Смаргонях Несьвіжы, Оршы, Мінску, Новагрудку, Вітэбску, Шклове, Полацку і па іншых гарадох. Больш вядомые з беларускай знаці: Кішкі, Глебовічы, Воловічы Слушкі, Зеновічы і др. былі кальвіністамі. За іх прыкладам ішла дробная шляхта і баяры.

Ў гэтым самым часе мозырскі земскі судзьдзя Сцепан Лаван шырыў разам з Будным і Матавілай **соціянізм і арьянізм** (навука арьяноў не прызнавала Хрыста за сына Божаго, але толькі за чэлавека). Кожная з гэтых новых рэлігійных сэкт — а іх было колькі дзесяткоў — мела сваіх шчырых абаронцоў і веруючых.

Ў часе рэформаціі ўсе новые кірункі мысьлі прымусілі людзей лепей угледацца ў жыцьцё, брацца да навукі і шырэньня асьветы, а побач будзіліся нацыональные думкі. Як у Польшчы вядомы мысьліцель Моджэеўскі надыймаў пытаньне аб устройстве нацыональнай каталіцкай царкві з богаслужэбствам у польскай мове, так у нас

гарачым словам будзіў нацыянальную думку Сымон Будны і Васіль Тяпінскі. Тяпінскі у прадмове да свайго Евангельля, пісанаго на беларуску, так бядуе над тагдышнім слабым самапачуцьцем нацыянальным беларусоў... „духоўные учыцелі пісьма рускаго не знаюць, не разумеюць і не бачуць"... нема і школ беларускіх ...„зачым у польскіе (школы), або ў іншые... себе і дзеці свое без встыду заправуют (аддаюць вучыць)". Кінутая нацыянальная думка разьвівалася. Другі невядомы пісьменнік з праваслаўнаго абозу ў крыху пазьнейшые ўжо часы прычынай нацыянальнаго упадку Беларускаго народу лічыць недахват нацыянальнай прасьветы, кажучы гэтымі словамі: „іж Русь, спосполітоваўшыся з імі (палякамі), пазавідзела іх абычаем, іх мове і наукам і, не маючы своіх наук, у наукі Рымскіе свае дзеці даваць пачалі: каторые з навукамі к веры іх навыклі і так по малу-малу наукамі своемі усе панство Рускоe до веры Рымскай прывелі, іж потомкове княжат рускіх з веры праваслаўнай на Рымскую выкрэсьціліся і назвіскі і імёны собе поотменялі, якобы ніколі не зналіся быці потомкамі благочэсьцівых прарадзіцелей сваіх... Бо колібы былі науку мелі, тогды бы за неведомосьцю своею не прышлі до такое погібелі".

Рэформацкі рух на Беларусі меў вялікае прасьветнае значэньне, але разам с тым прынёс і шмат шкоды.

Рэлігійны рух устанавіў згоду паміж Літвінамі і Беларусамі. І адны і другіе маглі працаваць разам ў культурным руху і разам у справах нацыянальнай незалежнасьці ад Польшчы. Здавалося, што не было на гэта лепшаго момэнту. Тым часам вышло інача: Літва, і Беларусь, заместа дайсьці незалежнасьці ад Польшчы, саўсім з ею злучыліся.

У 1548 гаду памёр Жыгімонт (Стары). Літоўска-Рускі князь **Жыгімонт-Аўгуст заняў і польскі пасад.** Жыгімонту-Аўгусту прыйшлося княжыць у часе самаго разгару рэформацко-рэлігійных спороў. Тымчасам Маскоўскіе войны грazілі поўным упадкам гасударства. Перэбегчыкі з Маскоўскаго княжства—як князь Курбскі і іншые—расказывалі страшэнные рэчы аб Іоане Грозным, дык усе баяліся маскоўскаго князя і стараліся, як мага, бараніцца. Але нехватало сіл, і вось, хаця і не ахвотне, трэба было звярнуцца да Польшчы, зблізіцца да яе, даць большую сілу палякам у краю на рахунак сваей незалежнасьці



Аб зблізкэньні Літвы і Польшчы пачаў старацца і Жыгімонт-Аўгуст. Пастаноўлено было зьехацца дзеля гэтаго на агульны сэйм і урадзіць разам пытаньне аб **гасударственай Уніі.** Зьехаліся ў 1569 гаду **у Любліне.**

У першые-ж дні сэйма аткрылося, што польскіе і беларуска-літоўскіе дэпутаты саўсім іначэй глядзелі на справу уніі (злучэньня). Літоўска-Беларускае княжство хацело зрабіць хаўрус, не касуючы самабытнасьці свайго гасударства. Палякі на гэта казалі, што такі хаўрус яны могуць зрабіць ня толькі з самым далёкім народам, але і з самым дзікім, і жадалі поўнаго скасаваньня самабытнасьці Літоўска-Рускаго гасударства і замены яго у польскую правінцію. Ніводная старана не хацела уступіць, і так, недайшоўшы ладу, Літоўска-Рускіе дэпутаты разьехаліся дамоў. Палякі, бачучы, што не дадуць рады Руска-Літоўскім землям, пакуль яны трымаюцца разам, пастанавілі разлучыць іх. І вось, апіраючыся на тым, што Палудзенна-Рускіе землі: Падлесьсе, Валынь і Кіеў—былі заваеваны праз продкоў дому Ягайловаго, кароль ад сябе даравау гэтые землі Польшчы і патрэбоваў, каб дэпутатамі на сэйм прыехалі ад гэтых зямель ня выбраные народам людзі, але назначэные каралём гасударственые чыноўнікі. Калі даведаліся аб гэтым у Літве і Беларусі, народ агорнуў страх перэд ешчэ аднэй дамовай вайной с Польшчай. І вось праўдзівые выбарные народные дэпутаты хутка сабраліся на раду ў сваім краю і пастанавілі пасдаць ад сябе паслоў на сэйм. Паслы, прыехаўшы у Люблін, выказалі задзіўленьне свае палякам, гаворачы, што тые без Літоўска-Рускіх дэпутатоў ня маюць права прылучаць да Польшчы ад векоў належаўшые да Літвы землі, што палякі абрэзаюць крыльля у Літоўскаго княжства, ды што лепей ужо злучыць з Польшчай усё Літоўскае княжства. Паслы трэбовалі скасаваць указы аб прылучэньні Палудзённа-Рускіх зямель і адлажыць сэйм, каб, разьехаўшыся, лепей абдумаць плян уніі і на новым сэйме закончыць справу. Гэтым Літоўска-Беларускіе паслы хацелі выйграць на часе і, перэцягнуўшы на сваю старану Палуднёва-рускіх людзей, зусім аткінуць справу уніі на новым сэйме. Палякі перш хацелі ўжо прыстаць на гэта, але пасьля, ўцяміўшы ў чым справа, ўзяліся цьвёрда за Літоўска-Беларускіх паслоў, каб прысягалі на злучэньне сваей зямлі з Польшчай. Тымчасам Палуднёвай-Русі патрэба была помач палякоў проці крымскіх тата-

роў, а Літве і Беларусі - проці Масквы. Разрыў жэ с Польшчай вёў да немінулай вайны ешчэ і с палякамі. Не было рады, трэба было здацца. Літоўска-Беларускіе паслы пастанавілі хапіцца апошняго спосабу ратунку: ні ў чым не уступаючы палякам, яны здаліся на суд апошняго свайго князя з роду Ягайловаго. Жмудзкі стараста Юрый Хоткевіч выказаў усю крыўду, якая рабілася Літве с прычыны утраты незалежнасьці, прычым Літоўска-Беларускіе паслы кінуліся на калені і с плачэм малілі Жыгімонта не губіць гэтаго гасударства, аддаючы яго ў няволю Польшчы. Жыгімонт не паслухаў іх голасу: ён прыказаў прыняць ім унію і прысягнуць Польшчы. Прысяга на унію с Польшчай адбылася 1 ліпня 1569 года. Дзесяць разоў пачыналіся перэгаворы аб гасударственай Уніі Літвы с Польчай: у 1401, 1413, 1438, 1451, 1499, 1501, 1563, 1564, 1566, 1567, але Літоўска-Беларускае гасударство бараніло сваей незалежнасьці і толькі за адзінаццатым разам—у 1569 гаду—гасударство страціло можнасьць змагацца далей і было прымушэно здацца.



Кн. Жыгімонт Аўгуст III.



# ЧАСЦЬ ЧАЦЬВЕРТАЯ

## ад Люблінскай Уніі (1569 г.) да раздзелу Польшчы

Злучэньне Літоўска-Рускаго гасударства с Польшчай пры Ягайле было не надта моцным. Беларусь блізка 200 гадоў бараніла ешчэ сваей асобнасьці, але гэта асобнасць, пры супольным жыцьці баярстра беларускаго с палякамі, заціралася крок за крокам, і пад канец XVI века беларускі шляхоцкі стан усё больш і больш апалячываецца. З гэтаго часу пачынаецца апалячываньне і часьці сярэдняго стану. Людзі вышэйшых станоў, прыймаючы польскую культуру, зусім адрываліся ад свайго народу; народ гэты ставаўся для іх чужым з усімі сваімі бедамі і нядолямі. У другім—трэйцім пакаленьні апалячэные князі і баяры беларускіе забываліся зусім аб сваім беларускім народзе і павелічывалі сілу і значэньне палякоў у сваім краю, шырылі самі польскасць. Просты народ, як у тые часы звалі яго „посполіты“, быў пакінуты сам сабе і гэты народ патрапіў зьберэгчы старую сваю мову, звычаі, але ня меў сілы захаваць, бараніць і шырыць старую культуру.

У той час граматнасць шырылася толькі ў вышэйшым і сярэднім стане. Школы былі заведзэны адно пры манастырах, і народу цяжка было знайсьці да іх доступ. Багацейшая моладзь, як мы ўжо подаем, за вышэйшай навукай ездзіла за граніцу, а для баяр і шляхты сярэдняй заможнасьці глаўнай школай былі двары беларускіх князёў. Гэта былі школы грамадзкаго жыцьця, але яны аказаліся шкоднымі для беларускай нацыональнай справы, бо па дварох князёў рэнэгатоў польшчына выцесьняла ўсё беларускае і ўзгадовывала грамадзян рэнэгатоў. Каб лепей вразумець, чым былі гэтые школы—двары беларускіх князёў і вельмож, трэба прыпомніць, што кожны князь, кожны вельможа ў тые часы мелі свае войска, мураваные крэпасьці—замкі; ды пры іх нялічэным багацтве ўсе дробные баяры і шляхта былі ад іх залежны. Быць пры двары князя Слуцкаго Ходкевіча, Радзівілла, Сапегі і ім падобных лічылося ня толькі вялікай чэсьцю, але і забеспечывало будучыну, бо многіе або аставаліся ўра-

днікамі (чыноўнікамі) пры гэтых дварох, або атрымывалі карысные арэнды. Радзівіллы з аднэй толькі лініі князя Мікалая Чорнаго володзелі 61 горадам, 6 замкамі і 1321 вёскай. Князі Острожскіе ўжо ў XIV і XV сталецьцях слылі сваім багацтвам. Пасьля гэтые багацтвы сталіся проста нялічэнымі праз жэніцьбы. Досі сказаць, што вялікі гэтман князь Константін Константіновіч Острожскі меў гадавога даходу з сваіх маёнткоў адзінаццаць мільёноў залатых, а двор яго складаўся з двух тысяч чэлавек шляхоцкай моладзі. Чацьвёртая толькі частка маёнткоў кн. К. Острожскаго, перэйшоўшая да князя Януша (брата), каштэляна кракоўскаго, складалася з 72 гарадоў і мястэчак, 2,452 вёсак і множства засьценкоў і хутароў.

Не адны Радзівіллы і Острожскіе славіліся багацтвам. Хаця і не ў такой меры, а ўсёж багацтвам і значэньнем слылі князі Олельковічы, Слуцкіе, кн. Чэтвертынскіе, кн. Чарторыйскіе, кн. Огінскіе, кн. Пузыны, кн. Гедройці, кн. Сапегі, кн. Сангушкі, кн. Соломерэцкіе, кн. Полубінскіе, кн. Друцкіе Любэцкіе, Соколінскіе, Подберэзкіе, а такжэ Ходкевічы, Войны, Слушкі, Кішкі, Тышкевічы і іншые.

Беларускіе князі жылі найболей пры вялікокняжэцкім дварэ ў Вільні, а так сама і ў Кракове, калі Вялікі Князь быў у сваей польскай каралеўскай сталіцы. Якое вялікае значэньне гэтые беларускіе князі і магнаты мелі у Кракове, відаць ужо с таго што ў Кракове раней была аткрыта беларуская друкарня, чым польская. Вядома, што першая друкаваная кніга (Біблія Гутэнбэрга) выдана ў 1455 гаду ў Нюрэнбэрзе, а на 28 гаду пасьля першай друкаванай кнігі пачалі выходзіць ужо і беларускіе цэркоўные кнігі. Ў 1483 гаду надрукавана у Кракове першая беларуская кніга „**Тріод Цветная**", а ў 1491, так сама у Кракове, Фіоль, родам з Немеччыны, друкаваў ужо другую беларускую кнігу „**Октоіх**".

Польская друкарня у Кракове была аткрыта ў 1505 гаду, значыць на 22 гады пазьней беларускай. Мы ня хочэм казаць, што палякі у тые часы асьветай стаялі ніжэй беларусоў, але гэты факт паказывае на высокую культуру у беларускаго народу, каторому патрэбны былі друкаваные кнігі ўжо ў тые часы, калі па ўсей Заходняй Эўропе ледзьве толькі пачынало расхадзіцца друкаванае слово.

З славянскіх народоў першые друкавалі біблію чэхі ў 1488 г., другая с чэрады беларуская Біблія друкаваная ў 1517 гаду ў Пра-





Адрывак Літоўскаго статуту у 1588 г.

Але самого Бога и его светую справедливость и право посполитое и сумненье свое передъ очыма маючы, тежъ роковъ николи не омешкиваючи кром великое правдивое зложное хоробы а якъ на томъ справедливе присегаю, так ми Боже поможы, А естлибы не справедливе Боже мя убій. А писаръ земьскій маеть по руску (па беларуску) литерами и словы рускими вси листы выписы и позвы писати а не иншимъ езыкомъ и словы, а присягнути маеть на врад свой.

4. Зак. 5688.

зе; трэцяя Краінская ў 1555 гаду. Літоўская Біблія друкавалася ў 1590 гаду ў горадзі Кенігсбэргу, Латышская ў 1587 гаду ў Рызе.

Першая беларуская Біблія перэтлумачэна была з лацінскай мовы на беларускую Францішкам Скарынай с Полацка. Відаць тагочасная Кракоўская беларуская друкарня была за мала для друкаваньня Бібліі, дзеля таго Скарына паехаў друкаваць яе ажно ў Чэшскую Прагу, гдзе і пачаў друк ў 1517 гаду, а працаваў там да 1520 года. Тымчасам у Вільні стараньнем Бабіча, бурмістра гор. Вільні, заложэна была вялікая друкарня. Тады Скарына вярнуўся ў Вільню і тут ўжо дакончыў друк Бібліі у 1525 гаду.

Апрача Бібліі Скарына выдаў колькі другіх ешчэ кніжок: **„Канонік“**, **„Псалтыр“** і інш.

Бабіч перэдаў сваю друкарню каля 1575 году брацьцям Мамонічам, родам з Могілева. Вядомы два браты Мамонічы: Кузьма, Віленскі бурмістр, і Лукаш, скарбны (казначэй) Вял. Кн. Літоўскаго, а так сама сын Кузьмы, Лявон, называўшый сябе каралеўскім друкаром. Ў гэтай друкарні без перэрыва друкаваліся беларускіе кніжкі аж да XVЈI сталецьця. Ў ёй надрукаваны быў і „Статут Літоўскі“ па беларуску пад рэдакціей знаменітаго канцлера Вел Кн. Літоўскаго, Льва Сапегі, і многа розных іншых кніг. Польская друкарня ў Вільні заложэна была ў 1576 гаду—пазьней за беларускую на 51 год.

Ў XVI сталецьці беларускіе друкарні знайходзіліся ўжо шмат па якіх гарадох. Так, князь Мікалай Радзівілл Чорны залажыў у 1562 гаду беларускую друкарню ў Несьвіжы. Да старшых беларускіх друкарэнь адносяцца друкарні ў Любчы, Слуцку, пасьля ідуць друкарні ў Заслаўлі, Магілеве, Полацку, Мінску, Пінску, Заблудове, Супрасьлі, Еўі.

Што датычэ школ пры манастырах, то іншые з іх сегаюць вельмі даўных часоў, як напрыклад Туроўская школа, каторая адносіцца да самаго пачатку Туроўскай епархіі (IX сталецьця). Пасьля Смаленскіе школы былі шырока вядомы ў XI сталецьці, а побач гэтых аткрываліся з даўных часоў школы: ў Полацку - заснаваная сьв. Параскевай (Параскай), у Пінску, Мозыры, Слуцку і Мінску. З слаўных людзей, выйшоўшых з гэтых школ, вядомы: с Туроўскай школы—сьв. Кірыл; с Пінскай—Мітрофан летапісец; Слуцкай—Ерэй Еўгеній, а з Мінскай школы выводзяць пеўца аб Палку Ігора.



Пісьменство ў беларускай мове больш за ўсё развілося з другой палавіны XV сталецьця. Вышэйшые станы пачалі ўжо вучыцца польскай і лацінскай мовы, але сярэдніе станы гарадзкі і шляхоцкі пісалі, чыталі і гаварылі ў роднай сваей беларускай мове. Што асьвета была пастаўлена шырока, гэтаго даводзяць нам друкарні, каторых густа было па ўсіх кутках Беларусі. У часе рэформацкаго руху князь Мікалай Радзівілл Чорны залажыў кальвінскую гімназію у Слуцку; апрача таго аткрыліся кальвінскіе школы ў Навагрудку, Несьвіжы, Заслаўлі, Оршы, Мінску, Сьвіслочы, Шклове Вітэбску. Адначасьне з гэтым для беларусоў заложэны былі брацтвамі вучылішчы ў Вільні, Полацку, Пінску, Оршы і Мінску.



**Мітрополіт Іосіф Солтан**

Так стаялі справы прасьветы, калі ў 1569 гаду прыбылі ў Вільню Езуіты і залажылі свой коллегіум.

Рэформацкі рух шмат шырэй захапіў усю Заходнюю Эўропу, чым Беларусь. Каб змагацца з рэформацией, адзін гішпанец Ігнат Лойоля зарганізаваў манахоў пад назовай „societatis Iesu“ або **Езуітоў**. Праз кароткі час **Езуіты** патрапілі дастаць ад Папежа розные прывілеі і сабраць грамадные грошы на сваю работу, а глаўная рэч—дабраць у свае рады людзей знатных і вучоных, каторые, будучы прыдворнымі духоўнікамі пры княжэцкіх, каралеўскіх і вялікапанскіх дварох, кіравалі суменьнем іх, і людзей, што блізка стаялі да ўраду А разам з суменьнем кіравалі і справамі гасударственымі. Самую большую увагу езуіты звертали на маладзеж, каторую стараліся вучыць у сваіх школах; гэтак яны выховывалі сабе

староннікоў у новых пакаленьнях. Ў школы свае езуіты больш за ўсё прынаджывалі сыноў людзей багатых і з значэньнем у гасударстве, каб пасьля мець як найсільнейшых староннікоў.

У год Люблінскай Уніі было выслано 5 чэлавек езуітоў і ў Вільню. Прыехаўшы ў Вільну, езуіты перш-на-перш пастараліся залажыць „колегіум"—школу для маладзежы. Але кальвіністы і лютэране моцна трымалі ў сваіх руках тагочасную асьвету, дык спярша ў езуіцкіе школы ніхто нехацеў ісьці; але пазьней, як толькі удалося сабраць першых 15 вучэнікоў, слава езуіцкай школы пачала хутка расьці. Самымі сільнымі праціўнікамі езуітоў былі кальвіністы бо гэта былі ўсё людзі вельмі вучоные. Каб асьмеяць кальвіністоў, езуіты пачалі рабіць публічные прэдстаўленьня, часам нават на рынках; ў гэтых предстаўленьнях вывадзілі на сцэну лютэраноў і кальвіністоў у самых сьмешных абразох. Прэдстаўленьня мелі аграмаднае значэньне для народу. На трэці год пасьля прыезду ў Вільню езуіты дасталі ўжо касьцёл сьв. Яна. На адбудаваньне гэтаго касьцёла яны палажылі шмат грошэй, завялі пекную музыку і добры хор, дзеля гэтаго народ усё большымі і большымі грамадамі пачаў хадзіць да езуіцкаго касьцёла і слухаць іхніе казаньня. Такім спосабам езуіты памалу расшыралі свае ўплывы на народ; число рэформатоў год ад года паменшалося. Не прайшло і пяці год ад прыезду езуітоў у Вільню, як яны у аднэй Вільні патрапілі ўжо навярнуць на каталіцтво каля 6 тысяч чэлавек, і паміж імі колькі знатных беларускіх родоў: Ходкевічоў, Радзівіллоў, Сапегоў і другіх.

Выходзіць, што расшырэньню каталіцтва ў Беларусі памімо волі шмат памог рэформацкі рух. Беларускіе князі і баяры з даўных часоў належалі да праваслаўнай веры,—на грунце гэтай веры праз доўгіе сталецьця злажыліся ўжо абычаі і звычаі, злажылася усходне-грэцкая традыція, бо з Грэціі ў Русь ішла праваслаўная вера. Рух рэформацкі—гэта была цэлая рэволюція ў жыцьці Беларусі, ён зрушыў з мейсца ўсе думкі, ўсе звычаі і традыціі народу, але быў лішне сухі і, можна сказаць, лішне апіраўся на адным толькі розуме людзкім, каб мог здаволіць людзей славянскаго племені, каторые, маючы буйную фантазію, жадаюць і ад веры таёмства і блеску. Зрушэные з адвечных сваіх традыцій, беларускіе баяры шукалі новай апоры. Памеж рознымі верамі ішло змаганьне на



жыцьцё і на сьмерць—пабеда належала да сільнейшаго. Езуіты аказаліся сільнейшай стараной, і яны перэмагалі іншых.

Праз тры гады пасьля злучэньня Літоўска-Рускаго гасударства с Польшчай **Жыгімонт-Аўгуст памёр**. Пасьля сьмерці Жыгімонта-Аўгуста не асталося зусім патомства. Дзеля гэтаго шляхта пастанавіла выбраць сабе караля і пры гэтым раздзелілася на колькі партій. Адна з літоўска-рускіх партій хацела выбраць на пасад Фёдара, сына маскоўскаго цара, Іоана Грознаго. Глаўным староннікам Фёдара Іоановіча быў Глебовіч, каштэлян Мінскі; глаўным праціўнікам быў Ян Ходкевіч, каторы меў грамаднае значэньне ў гасударстве. А ешчэ большымі праціўнікамі былі тые з баяр, каторые уцяклі з Маскоўскаго княжства дзеля розных зьверств Іоана: князь Курбскі, Тетерын, Сарыгозін і др. Яны шырылі благіе весткі аб Іоане і наводзілі страх на ўсіх, расказываючы розные тыранства Іоана Грознаго. Фёдор быў вядомы с свайго слабаго характэру. Але Іоан ня згодзіўся пусьціць яго ў Польшчу, бо хацеў сам быць выбраным на польскаго караля. Тады **шляхта на сэйме выбрала Стэфана Батарага (1576 г)**. Вядомая рэч, што паміж Іоанам і Баторым пры такіх варунках згоды быць не магло; абедзьве



**Кароль Стэфан Баторы**

стараны прыгатаўляліся да вайны. Іоан будаваў крэпасьці пры возеры Усьвятах у тым мейсцы, гдзе рэка Улла ўліваецца ў Дзьвіну, а так сама ў Полацкім і Лепэльскім паветах пабудаваў крэпасьці Капец і Сокал. У той самы час Баторы пытаўся у шляхты на варшаўскім сэйме аб вайне з Масквой. Сэйм пастанавіў вайну. Баторы лістам павецаміў Іоана аб вайне і адначасьне прыказаў вайскам сваім зьбірацца у Сьвір, куды і сам прыехаў у пачатку 1579 году.

Тут ён доўга надумываўся, куды пайсьці: на Пскоў, ці на Полацк? Полацк быў добра умацаваны, і яго было трудней дабыць, але Баторы пакіраваў войска на Полацк пад камандай Мікалая Радзівілла і іншых воевод. Сам Баторы з другой часьцю войска паехаў на Дзісну.

Полацк з даўных часоў славіўся моцнымі сваімі замкамі, а было іх тады ў Полацку два: верхні—астрог і ніжні—стрэльцоўскі замок. Такім спосабам Полацк складаўся с трох часьцей: верхняго




I Верхні замак II Ніжні замак III Заполотье

**Плян гор. Полоцка з XVI сталецьця**

і ніжняго замка і самога гораду, званаго Заполоцьцем. Асада пачалася ў пачатках серпня з стараны Заполоцьця. Маскоўскае войска, ня маючы надзеі утрымацца ў гэтай часьці горада, спаліло яго і само зачынілося ў верхнім замку. Тымчасам Баторы рабіў падкопы, каторые давёў да самай Полоты, не перэстаючы стрэляць з гармат. Асада была надта трудная. С прычыны мокрай восені не было нігдзе сухога мейсца, нават у каралеўскай палатцы; рэкі, вельмі шы-



рока разліўшыся, залівалі падкопы. Абозы с харчамі танулі у гразі, коні здыхалі ад змогі і голаду, а і войску Батораго часта прыходзілося галадаць. Маскоўскае войска сьмела баранілося, і не было надзеі скора дабыць горад. Баторы вызваў тады ахвотнікоў, каторые бы згодзіліся узлезьці на прыткую гару і падпаліць сьцены крэпасьці, абецуючы ім за гэта багатые награды. Доўга мучыліся ахвотнікі, але ў канцы ім пашанцавало: наступіла пекная сухаяж пагода С пылаючымі смалякамі кінуліся яны да сьцен крэпасьці; нога іх. было пабіто, але іншые дайшлі, і скора запалілася частка сьцены, каторая гарэла ўсю ноч і дзень, ня гледзячы на тое, што з сярэдзіны ад пажару бараніліся, як мага. У сьцене зрабіўся праход.

З даўных часоў стары Полацк шырока славіўся сваім багацтвам, таргоўляй і нялічэнымі скарбамі сваіх цэрквей. Ведало аб гэтым і вэнгерскае войска, каторае памагало Баторому. Вось вэнгры, бяз ведама караля, пастанавілі ўварвацца ў Полацку ночы, каб награбіць сабе рознаго багацтва. Як ураілі, так і зрабілі: а паўночы падняліся, падкраліся, кінуліся праз пылаючую сьцену ў замок і спаткаліся з выстрэламі усіх гармат разам. Маскоўскае войска чэкало напасьці з гэтаго пралому і прыгатавало тут шмат гармат. Зрабілася агульная трывога ў ночы, засыпаные агнём і кулямі вэнгры ўсёж-такі ламаліся і ўламаліся у крэпасьць. Сам кароль быў пры гэтай бітве, стараючыся завясьці хоць які небудзь парадак. Маскоўцы адбілі напасць, згасілі пажар у крэпасьці, але непрыяцель зрабіў новые акопы, ужо шмат бліжэй да сьцен, і адгэтуль ізноў паліў сьцены. Ешчэ колькі дзён бараніліся Маскоўцы, душачыся ад дыму і жару, але, змучэные ў канец, здаліся. Кароль абецаў тым, каторые захочуць вярнуцца ў Маскоўшчыну, вольны праезд, а хто захочэ астацца – вольнае жыцьцё на мейсцы. Пры выходзе Маскоўскіх войск с Полацка, сам кароль дагледаў за тым, каб не сталося якой крыўды Маскоўскаму войску.

Ня лёгка прыйшлося Батораму заваеваць Полацк. Храбра баранілося маскоўскае войска ў крэпасьці, выказываючы не мала адвагі. А больш за ўсё затрудняў вайну недахват харчоў для войска. Харчы можна было дастаць толькі Дзьвіной са стараны Дзісны, бо ўвесь край больш чым на 50 вёрст кругом Полацка выглядаў на лесную пустыню. За 17 гадоў княжэньня Іоановаго ў Полацкай зямлі на тых мейсцах, гдзе калісь былі нівы, вырос лес. Так сама са

стараны Пскова і Лук больш чым на 25 міль была лесная пустыня з руінамі вёсак і попелішчамі мястэчак. Да гэтага не мала прашкаджалі асенніе растопы.

Як толькі выступіло Маскоўскае войска з ґораду, пачаўся грабёж. Асабліва ласымі былі на Полацкіе багацтвы вэнгры, каторые чулі аб залатых рызах, засеяных дарагімі каменьнямі, на іконах у Полацкіх цэрквах. Тым часам яны ашукаліся. Ўсе Полацкіе багацтвы даўно ўжо Іоан вывёз у Маскву. Дзеля гэтаго салдаты стараліся са злосьці зьніштожыць усё, чаго ня можна было ўзяць с сабой. У часе гэтаго грабежа прапала аграмадная кніжніца (бібліотэка), ў каторай знаходзілося вельмі многа рэдкіх летапісей і рукапісоў цэнных, нават пераклады сьв. пісаньня, пісаные рукой братоў Кірыла і Мефодія, апостолоў славянскіх. Іншые кажуць, што там загінула ў той час і летапісь Крывічанско-Полацкай зямлі.

Баторы даў шмат розных прывілееў зруйнаванаму Полацку, ў тым ліку і праваслаўным жыцелём Полацка.

Пасьля ўзяты былі крэпасьці Маскоўскаго князя Сокол і Суша. Іоан, убачыўшы, што не дасць рады з Баторым, у 1582 гаду згодзіўся на замірэньне на 10 год. Ўся Лівонія, Полацк і Веліж асталіся за Баторым.

Ў 1498 гаду ў Полацку быў пабудаваны манастыр для бэрнардыноў. Калі Іоан дабыў Полацка, ён зруйнаваў гэты манастыр. Баторы, пры каторым у часе вайны было ў абозе колькі чэлавек езуітоў, за іхнюю помач раненым залажыў для іх касьцёл, „колеґіум“ і і манастыр у Полацку. А каб забеспечыць ім і будучыну, Баторы аддаў езуітам каля 400 розных сяліб, каторые належалі даўней да праваслаўных манастыроў. Такім парадкам будучына езуіцкаго колеґіума і манастыра была зусім забеспечэна. Першым рэктарам у Полацкім езуіцкім колеґіуме быў вядомы прамоўца і патрыот польскі, Пётр Скарга.

Умацаваўшыся ў **Полацку**, сэрцы Беларусі, **езуіты** борзда пачалі шырыць каталіцтво ў гэтым краю. Работа была вельмі цяжкая. Сперша езуіты спатыкалі на кожным кроку прашкоды ў сваей рабоце. У самым Полацку езуіты спаткаліся з моцным атпорам як са стараны праваслаўных, так і са стараны кальвіністоў. Воевода Полацкі Дорогостайскі, шчыры кальвініст, як мага прашкаджаў езуітам. Баторы патураў ім, але ў той-жэ самы час пільнаваўся





Гара Баторага ў Белавежскай пушчы

справедлівасьці ў справах веры і, прызнаючы шырокую свабоду суменьня, не дапускаў, каб за веру адны людзі прыціскалі другіх. Баторы ведаў, што іначэй кіраваць гасударствам, у каторым было колькі розных вер, ня можна. Езуіты сперша думалі, карыстаючы с пабед Батораго над Масквой, навярнуць на каталіцтво і маскоўскае царство, а прынамсі зрабіць цэркоўную Унію з Масквой, але думку гэту ім не удалося правясьці ў жыцьцё. Дый самі езуіты хутка зразумелі, што навярнуць на каталіцтво Маскоўскае Царство ніяк нельга; затое яны бачылі падатны грунт для Уніі цэрквей у Беларусі. Цяжка было зьвярнуць на каталіцтво сперша нават баярство і шляхту; з шляхты пераходзілі ў каталіцтво толькі кальвіністы і лютэране. Баярство і шляхта беларуская, каторая не пайшла за рэформацкім рухам, не квапілася пераменяць веру, бо карыстала з усіх правоў, як і каталікі. Праўда, вышэйшые становішчы ў гасударстве раздаваў кароль сваей ўласьцю і пры гэтым мог абмінуць некаталікоў, але дробные баяры і шляхта і так ніколі сэнаторскіх мейсц не займалі, дык і з гэтай прычыны не было патрэбы пераменяць веру. Затое праваслаўнае духавенство відзело ў каталіцтве небеспечных для сябе праціўнікоў, бо каталіцкая цэрква была лепш арганізована. Памалу пачыналося і расло змаганьне за веру, ў каторым не малую вагу мелі станы нешляхоцкіе: мешчане і селяне. Папом мог стацца кожны, як мешчанін, так і селянін. Ведамосьці, патрэбные для духоўнаго стану, праваслаўным лягчэй было здабыць, бо ня трэба было вучыцца лаціны і другіх навук; хватало умець чытаць па славянску і знаць абрады, каб стацца праваслаўным сьвяшчэнікам. Дзеля гэтаго праваслаўнае беларускае духавенство не аддзелялося ад свайго народу, бо яно выходзіло з гэтаго-ж самаго народу і было з ім моцна зьвязано, да таго і 500-летняя праваслаўная традыція ў самым народзе была вялікай сілай.

Добра ўцямілі ўсе гэтые варункі езуіты і вось, заместа наварачываць беларусоў адразу на каталіцтво, падняли ізноў думку аб цэркоўнай Уніі з Рымам. Польскі езуіт Пётр Скарга, падхваціўшы думку аб Уніі, напісаў і выдаў кніжку „Аб еднасьці цэркві Божай“ (1577 г.), ў каторай даводзій, што у той час, калі Володзімір, князь Кіеўскі, прыймаў хрысьціянство, патрыарх Константынопольскі Сьв. Ігнат быў у еднасьці з Рымам, дык значыць і новая цэрква ў Русі нарадзілася і жыла ў еднасьці



з Рымам праз доўгіе часы. Калі ў 1054 гаду константынопольскі патрыарх Міхаіл Цэруляры аддзяліўся саўсім ад Рыму (гэта другі раз, а першы разрыў з Рымам быў пры патрыарху Фотію, але пасьля цэрквы ізноў зьедналіся), Русь адмовілася прызнаць раздзел гэты. А Ярослаў Вялікі, князь Кіеўскі, гасьціў у сябе Рымскіх паслоў, каторые кінуўшы прakляцьце на М. Цэруляраго варочаліся ў Рым.

Баторы кіраваўся да таго, каб с Польшчы зрабіць моцнае гасударство, а гэта магло быць толькі тады, калі-б ва ўсім гасударстве была адна вера, дзеля гэтаго ён вельмі спагадаў думкам аб цэркоўнай уніі. Але канца гэтай справы не дачэкаўся, бо ў 1586 гаду памёр (ў Гродне). Пасьля сьмерці Батораго Сэйм выбраў за польскаго караля швэдзкаго каралевіча **Жыгімонта Вазу** (каторы лічыўся ў Польшы III, а ў Літве і Русі IV). Жыгімонт IV быў чэлавекам недальназоркім; будучы сам каталіком, спагадаў каталіцтву і пазваляў панюучай веры рабіць крыўду другім верам—асабліва праваслаўнай. Сельскі народ, каторы не належаў да рэформацкаго руху, моцна пачуў крыўду, якая рабілася яму. Знайшоўшы падмогу ў мешчанах, селяне пачалі злучацца у брацтвы для абароны сваей веры.



Багдан Стэткевіч

**Пачатак брацтв у Беларусі** сегае паганскіх часоў. Спачатку гэта сабе скромные сельскіе і гарадзкіе організаціі, найбольш рэмесьленые і профэсіональные, але, калі пачаўся рэформацкі рух, ён захапіў і гэтые брацкіе організаціі, каторые пачулі патрэбу навукі. Пад націскам каталіцтва пачаў гэты рух што раз шырэй

разрастацца. Да брацтвоў прылучаліся і людзі іншых станоў, дый за брацкім банкетным сталом заседалі разам князі і баяры, мешчане і простые селяне. Гэта збліжало людзей розных станоў у змаганьні процi агульнаго іх ворага. Бачучы крыўду сваей веры, сільные людзі с князёў і баяр узялі апеку над ёй у свае рукі, да чаго немало памагалі тые шырокіе правы, з якіх яны карысталі ў Польскай Рэчы-пасполітай, і тое значэньне, якое іншые з іх мелі ў гасударстве.

Перш-на-перш трэба было даць вышэйшую асьвету праваслаўнаму духавенству, каторае, як мы казалі, найболш ня мело ніакіх высокіх навук. Сьвецкіе людзі з вышэйшых станоў бачылі той недахват культуры праваслаўнаго духавенства і стараліся даць якую небудзь раду. Больш за ўсіх палажыў працы каля асьветы праваслаўнаго духавенства князь Константін Острожскі,—як мы ўжо ведаем, найбагацейшы чэлавек ня толькі серэд князёў і паноў рускіх, але і польскіх. Іон першы стараўся даць гэту вышэйшую асьвету духавенству і дзеля гэтаго залажыў у горадзі Острогу духоўную акадэмію. Ня хочучы браць прафэсароў спамеж каталікоў, ён выпісываў з вялікім коштам прафэсароў з Грэціі і Немеччыны. Апрача школы князь Острожскі заснаваў абшырную бібліотэку і друкарню. Драбнейшая шляхта, ступаючы па сьледох мешчан і селянства, так сама пачала працаваць для національнай і рэлігійнай справы, патураючы Острожскаму.

Дзеля гэтаго, што гасударственая вера была каталіцкая , справай праваслаўнай веры павінно было заняцца само грамадзянство. Апеку над цэрквамі бралі або прыватные людзі, або цэлые організаціі—брацтвы, і такая апека называлася патронатам. Князь Острожскі быў патронам больш чым 600 цэрквей. Гдзе не было багатаго патрона, там апекаваліся ёй усе, хто жыў у гэтым прыходзе, і ўвесь прыход састаўляў брацтво. Праз кароткі час усё праваслаўнае населеньне нашаго краю было злучэно у брацтвы, каторые зносіліся памеж сабой праз выбарных дэпутатоў і адны-адным чым мага памагалі. Пад канец XVI сталецьця брацтвы гэтые дайшлі вялікай сілы і багацтва; багатшые спамеж братчыкоў атпісывалі часта грамадные грошы на патрэбы брацтвоў. Ў тым часе брацтвы былі едзінымі моцнымі грамадзянскімі організаціямі, каторые кіраваліся неадступна да аднэй супольнай мэты. Чысло іх з году ў год павелі-



чывалося; кожнае брацтво мело сваіх папоў, сваю касу, сваю цэркву, а нават право патронату над колькімі цэрквамі і манастырамі. Члены брацтва схадзіліся ў назначэные дні на агульные сабраньня і там, разабраўшы справы свайго брацтва, перэходзілі да агульных спраў цэрквы. Рэмесьнікі, купцы, селяне і баяры разам раіліся, як паправіць абычаі, шырыць асьвету і так д. Ад слоў прыйшло да жывой працы. Брацтво віленскае скора ўжо мело свае школы, друкарні, сваіх прамоўцоў і вучыцелёў, выпісаных з заграніцы.

У ўсіх вялікшых брацтвах па гарадох і ў багацейшых манастырох меж братчыкамі знайшліся людзі энэргічные, разумные і вучоные, каторые кіравалі ўсей брацкай работай. Яны браліся за перо і друкарскі станок, каторы стаў найбольшым аружжэм ў іх руках. Два магнаты: Ходкевіч і Острожскі не мала прычыніліся да расшырэньня друкарэнь у Беларусі. Сперша выдаўніцкая праца брацтв аграпічывалася друкаваньнем богослужэбных кніг. Друкавалі так сама і пісаньня сьв. айцоў цэрквы, перэкладаючы іх на беларускую мову.



**Грыгоры Ходкевіч**

Разгон рэформацкаго руху пад канец XVI века пачынае слабець; адночасьне з гэтым і змаганьне памеж праваслаўем і каталіцтвам высовывае як з аднэй, так і з другой староны шчырых староннікоў той, або другой рэлігіі, хаця побач з гэтым людзі спакойнаго характэру гатовы былі заўсягды мірыцца Так памалу расла партія, жадаўшая міру. На грунце тае рэакціі, якая што раз шырэй разрастаецца ў гэтым часе меж грамадзянствам, катораму да сьмерці здакучылі безканечные споры і сваркі за веру, вырастала і думка

аб рэлігійнай Уніі. У лоне самой праваслаўнай цэркві ў Беларусі ішло змаганьне памеж брацтвамі і вышэйшым духавенствам. Брацтвы часта загледалі ў прыватнае жыцьцё владык, а важнейшые брацтвы, зацьверджэные константінопольскім патрыархам, мелі права нават пазываць владык на свой брацкі суд. Палажэньне вышэйшаго праваслаўнаго духавенства станавілося трудным. Галава ўсей праваслаўнай цэрквы, патрыарх, каторы жыў у Константынополі пад ўласьцю турэцкаго Султана, павінен быў плаціць вялікіе падаткі турэцкаму ўраду (правіцельству), а дзеля гэтаго яму патрэбны былі грошы,і за імі пасылаў ён у Русь. Патрыаршые пасланцы часам накладалі высокіе платы на Рускіх владык, каторые самі па сабе не былі людзьмі багатымі, і ім гэта было немалым цежарам. А ў той-жэ самы час владыка, галава мейсцовай цэрквы, быў залежны ад простых селян і рэмесьнікоў, каторые праз сваіх дэпутатоў на саборы выказывалі публічна недастаткі і віны владык, пісалі даносы патрыарху. Гэта залежнасьць духавенства ад прыватных людзей зьявілася ў Беларусі не раптам, а была старой формай заходна рускай цэрквы, ды толькі цяпер усе гэтые „пасполітые“ людзі з брацтвоў пачалі шырока карыстаць з свайго права. У той-жэ самы час езуіт Скарга выказываў у сваей кнізе, што біскуп (владыка)—гэта просты пасрэднік памеж Богам і людзьмі, за каторым сьвецкіе людзі павінны ісьці, як авечкі за пастырам, і недапускаць нават думкі аб кантролі над галавой цэрквы. Такіе думкі падабаліся владыкам. Думка цэркоўнай Уніі, як ўжо вышэй было сказано, натуральна вырастала з злажыўшагося палажэньня ў Русі. Такі вядомы стоўп і апора праваслаўя, як князь Астрожскі, шчыра думаў у сваім часе аб цэркоўнай Уніі. Толькі прычына, па каторай Острожскі хацеў Уніі цэркввей, розьнілася ад тых прычын, якіе мелі на гэта праваслаўные заходна-рускіе владыкі. Думкі Острожскаго, як можна ўбачыць з сэйнаго змаганьня шляхты за унію, падтрымывае і віднейшае баярство. Прычынай прыхільнасьці да уніі цэрквей для Острожскаго і яго староннікоў была думка аб моцнай нацыональнай цэркві, каторая, зблізкаючыся да Заходняй Эўропы, гэтым самым, магла бы стапіць у сабе ўсе рэформацкіе сэкты і забеспечыцца проці работы Украінско-беларускай езуітоў. Праваслаўные ў Беларусі нераз лучыліся з рэформатамі, каб змагацца проці каталіцтва. Такім спосабам мы бачым у справе Уніі два кірункі: адзін—вышэйшаго духавенства, каторае жадало



незалежнасьці ад сьвецкай ўласьці, і другі кірунак—націонaльны. Першы кірунак мэтай сваей меў больш асабістую карысць і гатоў быў на ўсё; другі стаяў на націонaльным грунце і, калі рабіў уступкі, то трэбаваў і сабе уступак, і староннікі гэтаго кірунку дамагаліся яўнаго сабору с правам належаць да яго людзём сьвецкім. Справай злучэньня цэрквей займаліся езуіты, і яны выбралі старану больш сабе падатную—вышэйшае духавенство, на каторым і пастанавілі апірацца, праводзячы ў жыцьцё Унію. Але езуіты моцна памыліліся, рахуючы на духавенство, бо націонaльнае самопачуцьце жыло ў народзе, і ўвесь народ пайсьці за духавенствам ня мог, бо яно само сьведома ішло пад каманду езуітоў. Дый і князь Константін Острожскі, бачучы, што езуіты глядзяць на Унію не як на злучэньне роўнаго з роўным, стануў проці Уніі. Острожскі, калі хацеў, то хацеў Уніі, як веры гасударственай, націонaльнай, і ня мог ніколі хацець Уніі, як пераходнай толькі ступені с праваслаўя на каталіцтво. А езуіты за справамі веры ня бачылі ніколі справы націонaльнай.

**Брэсцкая Унія 1596 года** адбылася на сабраньні як староннікоў вышэйшаго духавенства, так і староннікоў партіі Острожскаго. Агульнаго сабору не было, староннікі і праціўнікі Уніі зьбіраліся і радзіліся асобна. Лічба староннікоў духавенства была не вялікая, калі прыраўнаваць яе да лічбы асоб, прыехаўшых на сабраньне праціўнікоў. Дый на сабраньне праціўнікоў зьехалося апрача духоўных шмат асоб з шляхты, дэпутатоў ад паветоў і брацтвоў. Сабраньне староннікоў Уніі абвесьціло зьеднаньне цэрквей; сабраньне-ж праціўнікоў не прызнало гэтаго зьеднаньня дзеля таго, што на зьеднаньне цэрквей народ не даваў сваей згоды, і нема пазваленьня константінопольскаго патрыарха. Абодвы саборы разьехаліся, адлучыўшы перад гэтым адзін другога ад цэрквы.

Такім спосабам ў лоне праваслаўнай Рускай цэрквы выйшло раздваеньне. Польскі ўрад стануў на старане уніятоў, прызнаўшы іх прэдставіцелямі праваслаўнай цэрквы, і аддаў уніятам ўсё цэркоўнае дабро; але у владык уніяцкіх мала было верных, і большая часьць багатых манастыроў стаяла пусткай. Тым часам праваслаўе, страціўшы сваіх мітрополітоў і біскупоў, пачынае пры помачы брацтвоў кіпучую работу пад прасьветай. Гэта работа паставіла праваслаўнае грамадзянство на небывалую моральную і культурную вышыню. І вось гісторыя Заходняй Русі з гэтаго часу робіцца гі-

сторыей народнаго руху. Культурная работа гарадзкога населеньня развіваючыся адбіваецца і на сельскім населеньні. Серад шляхты справы стаялі так: тая часьць шляхты, каторая не пайшла за рэформацкім рухам, а стуль у каталіцтво, бралася за работу ў брацтвах, была палітычнай прэдстаўніцай праваслаўя, падтрымывала праваслаўную цэркву афярамі, будавала новые манастыры. А ў той-жэ самы час шляхта, каторая не належала да брацтвоў, грамадамі перэходзіла на каталіцтво. Як гэта рабілося, што дзеці праваслаўнай шляхты рабіліся каталікамі,—можэм зразумець з аднаго дайшоўшаго да нашых часоў дакумэнту: гэта тестамэнт (атказ спадчыны) неякаго Загоровскаго, праваслаўнаго Валынскаго пана, каторы папаўся ў няволю к татарам і з Крыму рабіў распараджэньня сваім дабром. Загороўскі горача просіць апекуноў паклапаціцца, каб дзеці яго „не забыліся свайго рускаго пісьма, сваей мовы, чэсных і пакорных звычаёў і веры", але разам с тым ён просіць паслаць іх у Вільню да езуітоў дзеля таго, што „хваляць тамачніе школы", і хочэ,каб дзеці асталіся у езуітоў, не выходзячы з школы праз сем гадоў, бо толькі такім спосабам могуць яны „адполеровацца". Ня трудна зразумець, што праз сем гадоў зрабіла тая „полероўка" з беларускай шляхты! На каталіцтво перэйшлі нават сыны Константіна Острожскаго, а ўнучка яго так шчыра спагадала каталіцтву, што для пашырэньня яго крыўдзіла нават праваслаўных. Памалу шляхта пакідае ўсё роднае, беларускае, забывае аб справе національнай, мейсцо каторай займае справа шляхоцтва. Так зліваласяб беларуская шляхта с польскай, адрываючыся ад роднай глебы, станавілася чужой у родным краю, памірала для національнай справы. Гэту сьмерць пекна апісаў Мелетій Смотрыцкі ў 1610 гаду у кнізе „Өриносъ" (Лямэнт Усходняй Цэрквы): „Гдзе цяпер той безцэнны камень, ка-



**Мелетій Смотрыцкі**



торы насіла я разам з другімі брылянтамі на маей галаве у вянку, як сонцэ між зор, — гдзе цяпер дом князей Острожскіх? Гдзе і другіе бязцэнные каменьня венка майго, слаўные роды рускіх князёў, мае шафіры і дыямэнты: князі Слуцкіе, Заслаўскіе, Збаражскіе, Вішневецкіе, Сангушкі?.. (вылічае ешчэ 42 знатные роды). Вы, злые людзі, (рэнэгацтвам сваім) абнажылі мяне з гэтай дарагой рызы маей і цяпер насьмехаецеся над бязмоцным целам маім, с каторага аднако вы ўсе выйшлі. Але памятайце: праклят той, хто аткрывае нагату маткі сваей! Пракляты будзеце і вы ўсе, каторые насьмехаецеся з гэтаго. Прыйдзе час, што ўсе вы паўстыдаецеся спраў сваіх"!

Асталіся на варце народнай справы „толькі з худых і неслаўных".

Але „худые і неслаўные" з шляхты ўсёж-такі былі шляхтай і мелі палітычную сілу, мелі голас сказаць на сэйме сваё «Veto» (нехачу, не пазваляю). Дзеля гэтаго, ня гледзячы на фанатычнае настраеньне і аграмадную сілу каталіцкай партіі, сэйм ня мог выдаць ніводнаго закону проці праваслаўя. Калі быў зьдзек, то быў ён не с права, але з сілы.

Для лепшай характэрыстыкі часоў і людзей канца XVI сталецьця не малую вагу мае ніжэй **надрукаваная мова каштэляна**(паветовы даўнейшы чын) **Смаленскаго, Мелешкі** каторую ён казаў па беларуску на Сэйме ў Варшаве ў 1589 гаду за караля Жыгімонта III.

„Найяснейшы, Міласьцівы Каралю і на мяне ласкавые Панове Браця!

„Выехаўшы з дому Богу есьмы я помаліў каб к вам здороў прыехаў, ды і вашу міласць здаровых агледаў, ды і прывітаў.

„Прышло мне з вамі радзіці, а я на гэтакіх зьездах ніколі не бываў і з Каралём Яго Міласьцію ніколі не заседаў; толкі за пакойнікоў Князёў нашых (тых) каторые каралевалі, (і тых) што воеводамі бывалі. Сэнтэнціі гэтых не бывало, па просту правым сэрцам гаварылі. Палітыкі не зналі, а у рот праўдаю як солей у вочы кідывалі.

„Скора-ж каралі больш немцоў чым нас улюбілі, зараз што старые, нашые, сабралі то ўсё немцом раздалі.

„Нашые гаспадары, проч Жыгімонта Аўгуста Караля (таго нечэга і ў людзі лічыці) бо той Подлясе і Валынь вынішчыў Ляхам

5. Зак. 5688.

менючыся. Але Жыгімонта перваго салодкая памяць Яго! бо той немцоў як сабак нелюбіў і ляхоў з іх хітросьцею вельмі нелюбіў. А Літву і Русь нашу любіцельно мілаваў і гараздо лепш нашые за яго меваліся, хаця ў так дарагіх сьвітах не хаджывалі. Другіе без нагавіц як Бэрнардыны гулялі, а сарочкі аж да костак, а шапкі аж да самаго паяса нашывалі... Дай Божэ ізноў такой гадзіны даждаці і цяпер. Я сам калі па дамоваму убіраюся то Еймосць пані Мсціслаўская, малжонка мая нацешыцція і наглядзеціся на мяне ня можэць.

„Надта, ужо агледзімося на усё тое Мілосцівые Панове Брацьця і на тую нужду немецкую штуку што наброілі. А калі-ж то у іх бывало?—Ў сукнях перэстых ходзяць, а грашэй без чысла маюць—а што гарадоў і мест дзержаць то не хыхі! да вун як і замешаліся, і па польску з намі усе гараздо умеюць гаварыці і ўсё ліхое каралём Панам і Рэчыпосполітай як тут было баламуцяць. А калі сам немчыно ідзе ці жэна яго пастyпае, то церэз скурку скрыпіць, шелясьціць і дарагім піжмам воняець. Калі-ж да цябе панічык прыедзе, частуй-жэ яго дастаткам, да ешчэ і жонку сваю подле яго пасадзі—а ён сядзіць як бес надуўшыся, маркуець, шапкай ці капелюшом перэкрыўляець і з жонкаю нашэптываець ды і ў далоньку скрабець. Ды калі-ж бы гэтакога чорта кулаком у морду, ці па ліцам, ці па хрыпце так, каб король Яго Міласць ня слухаў, нехай бы морды такой паганай не надымаў.

„Помню я караля Гэнрыка, каторы з заморскай і немецкай стараны быў, ды зразумеў што мы Яму ня многа давалі шебункаваці, а Немцы яго не вельмі перэкрыковалі, так і ён пазнаўшы што то не штука, ды і сам нікому не аказаўшыся проч паехаў аж у сваю старонку, аж за морэ скікнуў.

„Кажучы праўду, не так вінават кароль, як гэтые радные баламуты, што пры ём сідзяць ды круцяць. Многа тутака такіх ёсць што хоць нашая костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняе,

Тые што нас дзеруць і губяць, а за іх баламутнямі нашынец пажывіціся ня можэць. Рэчыпосполітую губяць і Валынь з Падлясем прапаў. Знаю! нам прыступіло што ходзім як падварэные, бо ся іх боімо і праўды ня мовімо, ешчэ з пахлебнымі языкамі патаківаемо. А калі-б гэтакого беса кулаком у морду, забыў бы другі муціці.



„ І то міласцівые Панове не малая шкода: слугі хаваемо Ляхі. Давай-жэ яму сукню хвален—дыфзоваю, карміж яго сласна (ласа) а з іх службы ніякай немаш; і толькі убраўшыся на высокіх падкоўках до дзевак дыбле, з вялікаго куфля трубіць. Ты пане за стол, а слуга сабе за стол—ты боршчык, а слуга лях, на пакутніку штуку мяса—ты за фляшу, а ён за другую, а калі слаба дзержыш то ён і з рук вырве; толькі пільнуе скора з дому ты, то ён маўчком прыгэсціцца табе да жонкі; і такога чортопалоха з немцамі выгнаці, што да нас ўлезьлі праціўко праву нашаму.

„О старожытные нашы паклоны (падаткі) Смоленскіе прэдзірайце вочы, лепш чым о Інфлянты, бо тые мечнікі (маскалі) як ўлезуць, то іх і зублём ня выкурыш, як пчолы ад мёду.

„То ўсе погаварылі есьмо аб розных утратах нашых а і гэта не малая штука: коні дрыганты на стайні хаваці—давай-жэ ім і ў лето і ў зіме авёс і сено—падсцілай-жэ іх што ноч—хавай-жэ для іх слугу-ляха конюшаго і машталера, а з іх ніякоі службы не пытай, а колі-ж ешчэ Лях як жэрэбец будзе ржаць каля дзевок як дрыгант каля кабыл; прыміж к яму двох літвіноў на страж, бо і сам дідко не ўпільнуе.

„І то на сьвеце дурніна—гадзіннікі нам меці: мне прытрапілося на тандэнце ў Кіеве купіці; далісьмо за яго тры капы грошэй, а як есьмо да Вільна на направу паслалі, ажно на пятую капу круціць злодзей заморшчык. Добры то наш гадзіннік пятух! што нехібне, а паўночы кукаракуе! І то вельмі страшная шкода гологудзкіе куры хаваці, іх дастаткам вялікім жывіці і нные пташкі смажыці. Торты гэтые цынамонам мігдаламі багато цукроваці. А за маей памяці прысмакоў гэтых не бывало. Добрая была гуска з грыбкамі, качка з перчыкам, пячонка з цыбулей ці з чэснаком, а калі на перэпышные дастаткі каша рыжовая з шафранам. Віна вэнгерскаго не зажывалі перэдтым малмазію скромна півалі, мядок і гарэлочку дзюбалі—але грошы поддастаткам мевалі, муры сільные муравалі і вайну слаўную крэпко і лепш дзержалі як цяпер.

„І то не до рэчы. Ў багатых сукнях пані ходзяць; не зналі перэд тым гэтых португалі ці фортугалі!..—а падалок рухаецца а каля падалка чэпляецца, а дваранін у ножку як сокал загледае, каб гдзе шчупнуці салодкаго мяса. Тож я радзіў бы нехай беьежонкі нашые ў запінаные даўные убіраліся казакіны, шнурованые—на задзе насі-

лі распоркі, а к таму каб з немецка зарывалі плюдрыкі, не так бы хутко охотнікі мілостные любіцельну скрадывалі брэдню. А цяпер, хаця з рогатыною на ваці стой ў жывые вочы, такога беса не упільнуеш!...

„Далей а чым з вамі радзіці незнаю. То Вашай Міласьці прыпамінаю каб заўсёды (колькі) сэнатароў і (паноў польскіх, толькі і) Літоўскіх пры каралі Яго Міласьці было.

„(Мо) быўбы і я, толькі каралеўшчыны не маю, бо перэд другімі не ухапіў.

„А што есьмо казалі ўсё праўда.

„А Уршулю королеўну (дачку) Яго Міласьці, міленько у ручку цалуем, як (і) другіе малодшые сэнаторчыкі. Не дзівіцесе Панове Браце!—Век вяком сказывае: — „сівізна ў барадзе і чорт у ледзьвях за паясом“— а —„харошае віданьне кусіцьˮ.

„Ня толька у Смаленску, але і ў Мозыру увесь павет а тым даўно радзіў, кагоб мудрага да вас на той зьезд (сэйм) к той сэнтэнціі выправіці.—Мяне вядомаго тых спраў да Вашай Міласьці (паслалі) і каб Господзь Бог даў умеці перэд каралём Яго Міласцею і Вамі Панове Браця, адкрыці нашые рады.

„(Нехай) сказаўбы хто з вас лепш, толькі не баламуцячы і я на том перэстану.

---

Брэсцкая Унія адбылася пры поўным разладзе у грамадзянстве і пайшла па дарозе, каторая ня мела нічога супольнаго з нацыянальнай справай. Гэта была вялікая абмылка. Яе зразумелі нават пазьнейшые каталіцкіе гісторыкі і нарэкаюць на тагочасных „місіонэроў“, кажучы, што яны былі зусім нездатны да працы серэд беларусоў, бо не апіраліся на нацыянальнае пачуцьце народу, але яго апалячывалі. Ксёндз Калінка у прадмове да жыцьця сьв. Ёзэфата“ пішэ: «і да цяперашніх часоў серэд каталіцкаго духавенства рэдка спаткаеш чэлавека, што шанаваў бы абрад і націонэльнасьць таго народу, серэд катораго працуе. Ім здаецца, што зрабіць чэлавека італьянцам або французам (а у нас палякам)—гэта найлепшы спосаб навярнуць яго. Гэта фальшывы погляд. Усе народы створэны Богам, мілы Богу, ды ўсе яны, не трацячы свайго нацыянальнаго пачуцьця, могуць прылучыцца да ўсесьветнай цэрквы. Хто аб гэтым забывае, тые і сабе, і справе веры шкодзяць, бо сеюць паміж усходнімі народамі думку, бытцам каталіцтво—гэта толькі спосаб да дэнацыяналізацыі іх». Так было і ў тые часы: езуіты нехацелі пайсьці за голасам народу, не хацелі прыслухівацца да націанальных жаданькёў і патрэб народу ды гэтак справу сваю, ня гледзячы на помач польскаго ўраду, не маглі наладзіць карысна і трывала.





**Беларуская рукапісная Біблія XVII сталецьця**

Праваслаўные пры помачы князя Острожскаго скора дайшлі ізноў да даўнаго значэньня; Унія шырылася зусім памалу. Усё залежало цяпер ад таго, ці шляхта прызнае на сэйме уніятам роўные с каталікамі правы і **ці уніяцкае духавенство зраўняюць у правах** с каталіцкім. Езуіты кіраваліся да таго, але спаткалі моцны атпор

са стараны палякоў, перэд каторымі былі безсільны, і бадай тут першы раз заўважылі, што справа веры і нацыі гэта не адно і тое самае; могуць быць дзьве нават зродные сабе нацыі аднэй веры, але яны заўсягды астануцца двумя рознымі націямі. На Унію глядзелі толькі як на пераходную ступень у каталіцто; дайшло да таго, што шляхта перэходзіла проста ў каталіцтво і, заместа нацыональнай справы, ставіла сабе мэтай у жыцьці справу шляхэцтва, а каталіцкіе біскупы часта паніжалі біскупоў уніяцкіх. Беларускае духавенство, раздзеленае Брэсцкай уніей на ворогіе сабе часьці, вяло паміж сабой нешта падобнае на вайну; духоўные адбіралі адны ад другіх цэрквы і меньне.Ў гэтым змаганьні часта здараліся з абедзьвых старон крыўды і непраўды; у 1623 гаду праваслаўные, абурэные на біскупа Полацкаго, **Ёзэфата Кунцэвіча**, за гвалты, якіе ён чыніў, даходзячы ад праваслаўных цэркоўных маёнткоў для уніятоў, узбунтаваліся проці яго і забілі ў Вітэбску. Ёзэфата, як мучэніка за Унію, уніяцкая царква залічыла да ліку сьвятых. І з гэтаго ўжо часу Унія,авеяная вянком мучэнічэства,пачынае разшырацца на Беларусі. Тымчасам «дызуніты» (праваслаўные), ціснутые за веру ў Беларусі, пачынаюць уцекаць на Украйну да тамтэйшых вольных казацкіх дружын, несучы туды кліч змаганьня за веру. **Казакі з давён-даўна жылі на пагранічы Польскай Рэчыпосполітай і Турціі**; складаліся яны з вольнаго народу, каторы незнаў над сабой ніякое ўласьці. Яны жылі з вайны, ад часу да часу нападаючы на туркоў і татароў і вызываючы гэтым войны паміж Польшчай і Турціей. Турція, выведзеная з церпеньня казацкімі напасьцямі, не раз гатовілася да вялікай вайны с Польшчай, хочучы заваеваць заадно і Польшчу, і яе казакоў. Вайна з Турэччынай у гэты час была небеспечнай для Польшчы, аслабленай рэлігійнымі сваркамі. Каб недапусьціць да вайны, Польшча пастанавіла прыціснуць казакоў, адбіраючы ім прывілеі караля Батораго і ўсе тые правы, якіе яны дагэтуль мелі. Тады казакі ўзбунтаваліся і напалі на Польшчу. Але гэтман Жолкевскі разьбіў іх. У няволю папаў гэтман казацкі **Налевайко** і ня гледзячы на абецанкі палякоў не рабіць яму ніякай крыўды, «што і волас з галавы не упадзе», ўсё-ж такі яго замучылі ў Варшаве страшэннай сьмерцьцю. Шляхта, думаючы, што казацкую сілу ўжо зусім зьніштожыла, пастанавіла на сэйме ў Варшаве лічыць бунтоўшчыкамі ўсіх казакоў, каторые стаялі за свае правы і веру, просты народ запісаць у падданство, а украінскай праваслаўнай



шляхце паставілі варунак, што яна павінна або прыняць Унію, або адрэчыся свайго меньня, каторае аддавалі польскім паном. Праваслаўные цэрквы адны пазачынялі, другіе аддалі ў арэнду жыдом. Калі прыходзілося адпраўляць богослужэньне, хараніць, ці хрысьціць, трэба было ісьці да жыда і плаціць грошы за тое, каб ён атчыніў дзьверы царквы. Вольны дагэтуль казак, каторы не хацеў прыймаць Уніі, лічыўся цяпер безпраўным разбойнікам; а калі і прыймаў яе, дык павінен быў стацца нявольным мужыком і адбываць прыгон. Адважны казак і сьветлы чэлавек, гэтман казацкі Сагайдачы, патрапіў на нейкі час злагодзіць адносіны Польскай Рэчы-посполітай да казакоў, але пасьля яго сьмерці ізноў пачалі зьдзекавацца над казакамі. Палякі ўзятых у няволю казакоў страшэнна мучылі, а з гэтманоў іх **Паўлюка і Остраніцы** з жывых дзерлі паясамі скуру. Казакі стараліся адплачываць тым самым жыдом і палякам. З гэтаго часу Украйна становіцца мейсцэм, куды уцекаюць усе нездаволеные польскім урадом: «дызуніты», селяне каторые уцекалі ад падданства і др.; яны пачынаюць выступаць, як **абаронцы праваслаўнай веры**. Такім способам паглумленьне нацыональнай справы на Брэсцкай Уніі давяло да казацкіх войн, а з імі памалу і да руіны Польскай Рэчы-посполітай.

Ў 1632 гаду памёр Жыгімонт IV; пасьля яго сьмерці выбраны быў за польскаго караля Жыгімонтоў сын Владыслаў IV. Владыслаў на гасударственые справы глядзеў шырэй, чым яго бацька; ён хацеў перэбудаваць унутрэны парадак гасударства, не хацеў нікога прыцісьняць за веру і нават пастараўся да біцца ад сэйму некаторых палягчэньнёў для дызунітоў (праваслаўных). Владыслаў разумеў усе тые крыўды, якіе чыніліся казакам на Украйне, і меў вялікую ахвоту здаволіць справедлівые жаданьня казакоў, але каралю не даваў волі сэйм, зложэны з шляхты, Дык хаця кароль спагадаў Русі, усё-ж і пры ім так сама, як і раней, рабіліся безпраўя, а казацкіе войны з Рэч-посполітай не канчаліся. Інача й і быць не магло; бо ў тые часы шляхціц за чэлавека уважаў толькі шляхціца, крыўда зробленая не шляхціцу не лічылася крыўдай. Але пры ўсім гэтым усё-ж ткі шляхта была толькі сотнай часткай усяго народу, каторы стагнаў пад уціскам шляхоцкай самаволі, пад цяжкай паншчынай. Нават сам кароль ня меў ніякай свабоды, быў нявольнікам шляхты. Шляхце ён мог даваць прывілеі, але калі памыкаўся зрабіць хоць найменшае палягчэньне ў долі самога народу, то гэтаго не па-

зваляла шляхта, бо кожнае такое палягчэньне абмежывало правы, або лепей самаволю шляхты.

Владыслаў спагадаў казакам і ўсяму Рускаму народу, але ня мог яму ні ў чым памагчы; вось, калі аднаго разу казакі жаліліся яму на уціск, ён сказаў ім: „маеце шаблі, даходзьце самі правоў сваіх!“—і гэтым даў знаць казакам, што едзіная дарога да свабоды—гэта паўстаньне. Казакі верылі каралю Владыславу і любілі яго, дык што раз галасьней пачалі казаць, што яны хочуць ратаваць сябе і караля з „Ляцкай няволі“.

За год перэд сьмерцьцю Владыслава здарылося на Украйне само па сабе малое здарэньне, але яно было той іскрай, с каторай пасьля заняўся вялікі пажар. Адзін шляхціц, Чаплінскі, слуга вялікіх паноў Конецпольскіх, адабраў сілай у рэестроваго казака і шляхціца гэрбоўнаго Богдана Хмельніцкаго засьценак (яго бацькоўшчыну) і падмануўшы вывез яго жонку к сабе, а сына Хмельніцкаго выбіў публічна на рынку. Хаця у Польшчы ўся шляхта—бедные ці багатые—лічылася раўнёй, але папраўдзі сільнейшые паны часта крыўдзілі сваіх слабейшых братоў, і тые нігдзе не маглі знайсьці на іх суда. Так было і цяпер. Хмельніцкі нігдзе ня мог знайсьці справедлівага суда на пана Чаплінскаго. Тады, бачучы ўжо здаўна толькі крыўды ды непраўды, якіе польскіе паны чынілі ўсім слабейшым, пастанавіў адамсьціць гэтым паном за сябе і за свой народ. З гэтай думкай ён паехаў у казацкую Січ і, падбунтаваўшы казакоў, паслаў ганцоў на ўсе староны, каб клікалі народ да вялікаго паўстаньня проці паноў. Народ усюды з радасьцю прыймаў ганцоў Хмельніцкаго, і людзі, годные да аружжа, выпрагалі з сох сваіх каней ды пасьпешалі ў Січ. Сабраўшы шмат сіл, Хмельніцкі кінуўся на крэпасць Кудак і дабыў яе. С Кудаку Хмельніцкі пісаў да караля Владыслава пісьмы, даходзячы перэд ім казацкіх крыўд, але Владыслаў як-раз у тым часі памёр (ў 1648 гаду), уносячы с сабой апошні звязак казакоў с Польшчай.

На месцо Владыслава палякі выбралі на караля Яна Казіміра. Тымчасам Хмельніцкі, зазваўшы на помач сабе Татароў, меў ужо блізка поўмільёна войска, каторае прызнавало яго сваім гэтманам; з гэткім аграмадным войскам ішоў ён у Польшчу мсьціць за сваю і народные крыўды. Нішто не магло аперціся яго грознай сіле. Разбіў ён польскае войско пры Жоўтых водах;—пад Корсунем узяў у



няволю польскіх гэтманоў: Каліноўскаго і Потоцкаго. Палякі, бачучы, што сіла казацкая—грозная, пастанавілі найсьці „посполітым рушэньнем“ на казакоў, але не дацэнівалі іх сілы. І вось Хмельніцкі ешчэ раз разьбіў палякоў пад Пілавіцамі. Гэтую бітву польскі гісторык Кубаля апісывае вось як: „шляхта выступіла з блескам, на які Рэчпосполітая здабыцца магла толькі па доўгім спакою. Узялі з скарбцоў найдаражэйшае аружжэ, апратку з рысіх і саболіх скур; забралі пурпурные з залатымі узламі рыдваны і скарбные возы, поўные дарагіх апратак, золата, срэбра, дарагіх каменьнёў, а шмат хто з рыцароў прадаў апошні дабытак, каб дараўняць другім у блеску. Так станула пад Львовам 40 тысяч шляхты, прыбранай як бы на вясельны банкет. Мігацелі ў грамадзе срэбрам тканые адамашкі, аксаміты, залацістые паясы, срэбрыстые панцыры і гэлмы; шумелі саколіе крыльля, хісталіся на ветры брылянтовые кіты, а коні мігацелі ў залацістай збруі, ў шаўковух сетках, званілі пасрэбранымі падковамі. Ішоў на Украйну паход, як на коронацію. Дзьвесьці тысяч слуг з лёгкім аружжэм паступало за войскам разам з нялічэным лікам вазоў і карэт панскіх. Хацелі паказаць збунтаваным мужыком, што ідуць паны. Шляхта голасна казала, што не шаблямі, але бізунамі будуць ваеваць з мужыкамі“. Тым часам—„...войска Рэчыпосполітай стануўшы пад Пілавіцамі, ня біўшыся с казакамі, уцякло ў найбольшым безладзі. Начальнікі першые уцяклі ў ночы з або-



**Богдан Хмельніцкі гэтман казацкі**

зу. За імі пайшло войско, пакінуўшы ўвесь абоз казакам". Пасьля гэтаго Хмельніцкі пайшоў на Львоў; узяўшы з гэтаго гораду багаты окуп, пакіраваўся на Варшаву. У Замосьці прыняў каралеўскіх паслоў. Каралеўскім паслом Хмельніцкі паставіў вось такіе варункі згоды: каб сілай не прымушалі перэхадзіць народ у каталіцтво; каб жыдоў і езуітоў, каторых Хмельніцкі называў „Візувітамі", ўзялі палякі назад к сабе ў Польшчу; каб Мітрополіт Кіеўскі заседаў у польскім сэнаце і ўсе ўрады на Украйне аддаваліся толькі праваслаўным, ды каб 40 тысяч казакоў Рэчпосполітая трымала пад аружжэм сваім коштам; а наканец, каб выдалі яму Чаплінскаго. Як з гэтаго відаць, варункі Хмельніцкаго былі зусім справедлівые, тымчасам шляхта на сэйме аткінула іх і пастанавіла далей ваеваць. Вайна гэта цягнулася безмала 6 гадоў і скончылася тым, што казакі, як незалежны народ, падаліся пад апеку Масквы ў 1654 гаду, пры цару Алексею Міхайловічу.

Калі паўсталі за свае правы Украінскіе казакі, пачаў варухацца народ і у нас на Беларусі, гдзе ганцы Хмельніцкаго паддавалі не мала ахвоты да гэтаго. Але тутака рух быў шмат слабейшы, бо на Беларусі ў той час стаяло моцнае войско, каторае прыгатавала Рэчпосполітая, спадзеваючыся напасьці Масквы.

Першы на Беларусі пачаў паўстаньне Антон Небаба, намаўляючы селян і мешчан, прыціснутых так сама, як казакі, паўстаць на абарону сваіх правоў. Пасьля прылучыліся да яго палкоўнікі казацкіе Непаліч і Хвэсько, каторые праз кароткі час патрапілі сабраць каля сябе блізка 30 тысяч чэлавек. Беларускае селянство вітало казацкае войско хлебам і сольлю і грамадамі прылучалося да яго. Старадуб, Гомель, Лоеў і Брагін атчынілі ім свае брамы.

Пры першай чутцы а паўстаньні на Беларусі гэтман Радзівілл паслаў проці казакоў вялікае войско і, спаткаўшы іх за Прыпецьцю, разбіў. Польскіе „жоўнеры" ішлі на казакоў, быццам на аблаву, па лесох, і балотах; с хворасту і балота выцягівалі іх і рэзалі без міласердзя. Адна грамада казакоў з 200 людзей, засекшыся на купіне, доўга баранілася проці рэгулярнаго войска; хаця гэтман, ацэніваючы іх багатырство, даровываў ім жыцьцё, але яны гэтай афяры не прынялі і, на знак свайго пастанаўленьня не паддацца жывымі, ўсе грошы перэд вачыма польскаго войска ў ваду кінулі, а самі з нявіданай адвагай кінуліся на непрыяцелёў, ды толькі пехота патрапіла



выперці іх з зарубоў і ўвагнаць у балота. І там яны не хацелі паддацца; стоючы па пояс у балоце, бараніліся да паследка. Некаторые с казакоў зачыніліся ў Пінску; тады Пінск быў узят прыступам і зруйнаваны да шчэнту разам з жыцелямі. Аб гэтым прыпадку ў Пінску ешчэ да сягоньняшніх дзён пяе беларускі народ:

Із пад Слуцка, із пад Клецка
Едзе дружба маладзецка,
Ад княжаці із пад Мінска
Ваеваці места Пінска—
Места Пінска ваеваці,
Ад ляхоў абараняці.
Хоць прыйшлі—не далі рады,
Ўсе пагінулі ад здрады.
А я пайду ў пост вялікі
Да Турова, да Владыкі,
Каб малебен адслужыці,
Ды пакаюсь за грэхі,
Дзень і ноч буду маліці,
Дзень і ноч буду прасіці,
Каб загінулі Ляхі.

Пасьля разбіцьця Радзівіллам казакоў над Прыпецьцю і зніштажэньня Пінска, паўстаньне на Беларусі на нейкі час успакоілося, але не на доўга: яно разгарэлося ешчэ з большай сілай. калі разыйшлася вестка аб разбіцьці польскаго войска казакамі пад Пілавіцамі. Просты народ—селяне пачалі схадзіцца на рады па лесох і па лесох організаваць збройные дружыны, каторые з дня на дзень павялічваліся сьвежымі сіламі. Па сёлах і вёсках зьяўляліся нет ведама скуль старцы-лірнікі, каторые апевалі народу яго нядолю, пабеды казакоў і блізкую гібель паноў. Паміж народам пачалі хадзіць дзіўные і не падобные да праўды чуткі, быццам шляхта збунтавалася проці караля ды маніцца вырэзаць мужыкоў, а казакі паўсталі за караля. З вёскі ў вёску перэдавалі лісты Хмельніцкаго, ў каторых пісалося тое-ж самае.—Дык народ слухаў лірнікоў, слухаў быццам „каралеўскіх" лістоў; зьбіраўся, радзіўся і ў канцы браў касу, рогаціну, тапор на доўгім чэране і ішоў у лес злучацца з дружынамі. Дружыны расьлі, даходзілі вялікіх сіл і памыкаліся здабываць нават добра умацаваные гарады, якімі Слуцк і Быхоў былі ў тые часы.

Справы рабіліся ўсё больш і больш грознымі. Радзівілл з войскам патрапіў да восені (1648) адабраць ад паўстанцоў Чэрнобыль, Гарадок, Магілеў і колькі другіх гародоў за Днепром, дабытых перш паўстанцамі. Але Рэчыца і Мозыр бараніліся да ўпаду. У Мозыры жыцелі,—хаця ім абецалі ўсім да аднаго дараваць віну, калі яны аддадуць аружжэ,—не пайшлі на згоду і ўсе да апошняго былі выгублены, а палкоўніка Міхаленка пакаралі ганебнай сьмерцьцю за тое, што ён разам з жыцелямі бараніў Мозыра.—Жыцелі Бабруйска пад камандай Подубіча другі раз падняліся, але, перэпужаўшыся прыезду самога гэтмана, згодзіліся выдаць зачыншчыкоў паўстаньня, каторые, каб збавіцца ад ганебнай сьмерці, запёршыся ў сваіх хатах, самі сябе падпалілі.

Як моцна бунтаваўся тады народ, лепей за ўсё відаць са слоў аднаго с тагочасных польскіх гісторыкоў, каторы дзівуецца, што ў тые часы, калі ўрад ледзьве мог знайсьці сабе „жоўнероў" за дарагіе грошы, паўстанцы, не беручы ні платы, ні харчоў, - сваей ахвотай зьбіраюцца вялікімі грамадамі і ўсяго маюць паддастаткам. А другі гісторык прыраўнівае мужыцкае паўстаньне да зьмея, каторому, заместа аднэй адсечанай галавы, вырастае колькі новых галоў.

Хаця ў гарадох і было здушэно паўстаньне, усё-ж такі яно не зусім заціхло: ў розных мейсцах Беларусі хадзілі збройные грамады, а Хмельніцкі ад сябе прысылаў падмогу паўстанцам. Так, палкоўнік Кржэчкоўскі прыйшоў на помач с 14 тысячамі казакоў, але быў разьбіты пад Лоевым; тады, адступіўшы к Днепру, засеў ён сэрэд балот і доўга непакоіў рэгулярнае войско, але ў канцы і ён, і яго казакі пагінулі да аднаго. Тое-ж самае было і с палкоўнікам Подубайлам, каторы вёз с сабой у чоўнах каля 12 тысяч казакоў: усе яны разам з ім згінулі.

Уляглося зусім паўстаньне толькі пасьля **Збороўскай згоды**, на каторай шляхта абецалася здаволіць жаданьня казакоў. У гэтым часе, пасьля Збороўскай згоды, адыйшла да Украйны і часць Беларусі: **па Днепры ад Быхова**, адтуль па рэцэ Сожы і Сожай да Смаленскаго павету. Гэтману Радзівіллу, за яго стараньне каля успакаеньня паўстаньня на Беларусі, сэйм аддаў на вечные часы Нэвэль і Себеж з ваколіцамі.

Прыймаючы пад сваю ўласць казакоў, Маскоўскі Цар Алексей Міхайловіч добра разумеў, што Польшча без вайны не прызнае яго



правоў на Украйну; вось, каб прымусіць іх да гэтаго, ён сам першы выйшоў проці іх з аграмадным, блізка двухсоттысячным войскам. Войско гэтае было раздзелено на чатыры часьці: главные сілы—пад кірункам самога Цара—ішлі к Смаленску; другая часьць—пад кірункам Шэрэметева—пасувалася па-уз Дзвіньню к Полацку праз усю цяперэшнюю Вітэбскую губэрню; трэйцяя—пад кірункам Трубецкога—ішла на Магілёў, а казакі пусьціліся ў заднепроўскіе беларускіе землі.



**Цар Алексей Міхайловіч**

6 Траўня (мая) 1654 году царскае войско прыступіло к Смаленску, каторы, зачыніўшыся, нажыдаў непрыяцеля. Горад быў добра умацаваны і меў паддастаткам усякіх запасоў,—як ваенных, так і харчоў,—дык мог доўгі час трымацца, тым больш, што ў горадзе было, апрача 4 тысяч шляхоцкаго войска ешчэ дзьве тысячы немецкай артылерыі з гарматамі, над каторымі старшым быў практычны ваяка немец Вільгэльм Корф,—ды ешчэ шмат мешчанскаго войска — так званай „смаленскай дружыны". Алексей Міхайловіч хутка ўцяміў, што горад узяць сілай трудна, дык пачаў прабаваць іншых дарог. Смаленскім Ваеводай пад той час быў Піліп Обуховіч, чэлавек малодушны і перэкупны. Яму Маскоўцы і зрабілі посул, каб ён здаў ім горад за добрые падаркі. Обуховічу гэтаго два разы казаць ня трэба было: ён прыстаў на здачу горада, і горад хутка здаўся, хаця на гэта вельмі нарэкалі як само войско, так і мешчане, каторые рваліся да абароны. Здача Смаленска насьцеж аткрыла Ма-

скоўскаму войску вароты ва ўсю Беларусь, і Цар Алексей Міхайловіч, не чэкаючы, скарыстаў з гэтаго. Здача Смаленска Маскоўцам абурыла ўвесь край і вызвала немала напасьцей на Обуховіча, аб чым сьведчаць нам розные гісторыкі. З дакумэнтоў, датыкаючых гэтых здарэньнёў, для нас мае не малую цэну ліст Комуніякі да Обуховіча, пісаный па Беларуску, катораго шмат копій разходзілося па краю. Ніжэй друкуем гэты ліст, трымаючыся тэксту копіі, перэховыванай у Кракове ў „Narodowy'm Muzeum“ (z tek Emeryka Čapskiego 8, rękopisa cr. 1. Varia); папраўлены ён павэдлуг другой копіі, каторая празначэна для Беларускаго національнаго музэума і пакуль-што знайходзіцца у прыватных руках.

„Міласьцівы Пане Обуховіч мой ласкавы Пане.

„З умыслу пасылаю служку нашаго, Пана Іоахіма Говорку, абвешчаючы добрае здароўе Вашмосьці ці нездароўе, ў якім тот час Господ хаваць рачыць пасьля того перэпуду Маскоўскаго! і я так знаю, што трудно Вашмосьці ўсім на жывоце. Да ня гневайся, Госпадару, на мене, што я тытула воеводзкаго не даложыў. Бо, напісаўшыб Воеводою Смоленскім, тобы я солгаў; напісаўбы безвоеводзкім, тобы Вашмосьць загневаў, хоць незашто. Бо мне бачыцца, калі Вашмосьць Смоленск продалі, то і тытул оддалі. Многа людзей звешчалі (аб тым), што і Вашмосьці людзі грошы пабралі (ад Маскоўцоў). Лепей было пане Філіпе сядзець табе у Ліпе. Уваляўся Вашмосьць у вялікую славу, як сьвіньня у гразь, горш таго калі хто пападзе у новым кожусе у густое балото. От нам затое, што дзёшова Масква соболі прадавала, ўсю Русь з людзьмі забрала,—мы, убачыўшы густые соболіе каўнеры, познаді есьмы, што худа будуць біцца і нашы жолнеры, а што мы бедные у кажухах сем лет Смаленска дабывалі, то вы мудрэйшые ў саболях за чатырнадцаць нядзель аддалі. Баюся я вельмі, штоб за тое баба каму пупа ня рэзала—за меншую віну, кажуць людзі, Пана Осьціка нябошчыка напалохаў кат у Вільні, аж мяса яго валаклося, што адно картачку пісаў да Масквы неосцерожна, а мы і Цара у ногу цалавалі, і грошы пабралі, але больш нам тое так не мінецца. Пан Госевскі не многа па лацінску умеў, а з меншым людам і апаратам ваенным і жыўнасьцю Смоленска дадзержаў. Мудрасьць вяліка, кажуць людзі, як тая сьвіня: калі много ее хто зажываець, той нічога не дбаець,—а калі чэлавек надта кусіць і пастагнаць, мусіць, і хвасту бы-



вае непакой. Зофія філёзофія судзіла сядзець высока, гаварыць глыбока. Кудзеля, пане, жаноцкая рэч, ды штоб пекла гаразд оладкі.—Іосць у мене старые кнігі у новым куце, заўсёды я там многа вычытаў жаноцкай псоты, яковай з вума зводзяць людзей мудрых, многіх і сьвятых, а штоб як нас грэшных к ліху не прывялі. А каліб датуль Вашмосьць пісаром быў, тоб чэлавекам слыў, і того-б з нас годзі было за нашае ліхое шальберство. Паказуюць людзе і тое на Вашмосьці, якобы до вымысленя подымнаго ніхто не быў



**Руіны замчышча ў Люцыне**

прычыною, Толькі Вашмосьць, каторым выкурылі нашых мужыкоў, як верабьёў з венікоў—без мало з мудрых орацыёў ня будзе много рацыёў, послом зостаўшы много праўды не гаворыце, толькі берэце копы (даўней грошы лічылі на копы), дэпутатам копы, комісарам копы, а тые копы пастрыгуць не аднаго у хлопы, а ня ведама гдзе

будзець.—У Гданьску ёсьць там каму валы сыпаці і без нас, што людзі старые мовілі, то ўсё праўда і горазд у памяці маю, колі быў пан Мелешка каштэлянам Смаленскім, то я, будучы на сэйме, на той час за ім з кордзіком стаяў—яго мова ў тые словы была.— Панове, кажу вам праўду, по вельмі мудрых людзях нічога на сём сьвеці, за тры хвілі з болота чыняць золото, а з золота болото своімі шальберскімі мовамі і разговорамі, штобы нас простых ошукаць і ў блазны пострыгці, але покуль ён таго докажэць, сам кепом зостанець. Надуўся ў Сэнаце, як петух галагуцкі, а праўды не пытай, усё баламутня. З гурбою дзержыць так, так, так, а калі мовіць тое не так і піскнуці ня хочэць. Не баяўся так караля Іхмосці Зыгмунта (Аўгуста) і ўсіх сэнатароў ані умеў болей толькі часоўнік і псалтыр перэчытаць, по многіх кнігах зблудзіўся. Цепера чны розум, як каза па лесе, а на праўду сьвятую ні ад каго здаровагo нет, адно баламутня, і самі погібнуць і нас погубяць, кождэн Мосьці Пане ужываць будзе. Як цюнец мой быў з сынамі у мястэчку Палоннай з курмі на торгу, чуў од кагось і мне звестно, што ляхы на Вашмосьці вельмі пазакручывалі хвасты, одноб толькі сэйм дайшоў, бо яны хочуць Вашмосьці аб тое турбоваць не кепско, дай то Божэ штоб тое дармо не мінуло, і то лі праўда чылі не паказываюць на Вашмосьці якобы Вашмосьць у дванадзесят пехоты зьехаў на адзыскане Смоленска, дарэмно то Вашмосьці стараньне, маючы чатырнадсот пехоты да абароны Смоленска, людзей зацных і добрых пры жыўнасьці і гармаце, ды не хацеў бараніці, а цепер толькі маючы грэблю ў маетнасьці Полоннай сыпаці пазваляюць, а (не) Смаленска назад адзысківаюць. Ой пане, годзі вы так як сліжа ў Неман упусьціць, не заўтра тое ужо будзе, людзі і тое кажуць даводне во ўсіх штурмах Вашмосьці толькі аднаго ткача забіто і то не вельмі знаменітаго, хтось поведзіл якобы Вашмосьці воеводзтво кракоўскае Кароль Его Міласць у награду Смоленска мае даці, бояцься Ляхы вельмі штобы Твая Міласьць Вэнгром оных не прадаў.—Нешто пане ото родом дому дзеецца.—Дзед Тваей Міласьці калі Генэралам быў у Мозыры, то слыў, што за малые грошы непраўду продаваў. — Пан оцец Вашмосьці судзьдзёю будучы Мозырскім за маей памяці у каго больш узяў, таго хороше осудзіў. Калі нябошчык з таго сьвету уступіў, Мозыране вельмі рады былі, а калі-б Вашмосьць дагэтуль за праўдаю хадзіў, тоб



і Бог памагаў, дадушы то мне дзіўно што Вашмосьці трыста падвод пад адну пасьцель Масква дала, тоб гэта не посьцель была так вельмі цяжкая, хіба кождая перына абернулася ў чырвоные золотые, сяк так нагородыўся Вашмосьці ўпуд маскоўскі. Каліб гэтакую кучу гною даў вывезьці із Смоленска Хмельніцкаму до Чэгрына, і тоб не без шкоды было. Пане у мене гэтай брэдні ёсьць не мала, адных перын дзевяць кром дробных падушак, і то адна кабыла возіць, гдзе тэй брэдні патрэба! Меўбы і болей што да Вашмосьці пісаць, зленаваўся дужэ і стаць не магу. Да не гневайся Господару, а хтож каго осьцерэжэць, калі не мілы свой даўны друг.

*Дан с Тулан дня 6 Юнія 1655 году.*

Здабыцьце Смаленска, як ужо вышэй было сказано, аткрывало насьціж дарогу ў глыб беларуска-літоўскіх зямель маскоўскаму войску, каторае шыбка пасувалося наперад, здабываючы адзін за адным гарады „літоўскіе“. За колькі месяцоў вайны ў руках Алексея Міхаіловіча - былі ўжо: Вітэбск, Могілёў, Мінск, Коўна, Гродна і Вільня. Ўсяго было ўзято больш за 200 гарадоў, мястэчек і замкоў. Здабыўшы Вільню і часць літоўскіх зямель, цар Алексей Міхайловіч пачаў першы з цароў Маскоўскіх называць сабе **„всея Великія, Малыя и Бѣлыя Россіи Самадержца“**.

Далейшы паход Маскоўскаго войска ў глыб краю затрымалі Швэды, каторые ў той час з другой стараны напалі на Польскую Рэчпосполітую. Думка аб незалежнасьці „Літвы“ пры тагочаснай руіне Рэчыпосполітай ізноў засьвітала ў галовах магнатоў і князёў „літоўскіх“. Князь Януш Радзівілл з сваімі староннікамі ураілі перэдаць Літву пад апеку швэдзкаго караля на тых самых варунках, на якіх яна была злучэна дагэтуль с Польшчай. Гэта была апошняя паманка Беларуска-літоўскіх зямель, каб выламацца з залежнасьці ад Польшчы. Большая частка тагочаснай шляхты не разумела думкі князя Радзівілла і дзеля гэтаго не пайшла за ім. Іншые думаюць, што Радзівілл паддаўся швэдам дзеля таго, што не было як бараніцца;—гэто няпраўда. Швэдзкаго войска ў Літве пад той час было усяго толькі 3 тысячы,—літоўскаго-ж было 30 тысяч, а магло быць і шмат болей, калі-б пазвалі тутэйшае селянство. Можэ паступкамі князя Януша Радзівілла кіравало і асабістае жаданьне стацца удзельным Літоўскім князем, але ва ўсім гэтым была і здаровая гасударственая думка адбудаваць незалежнае „Літоўскае“ гасударство.

6. Зак. 5688.

Тым часам маскоўскаму войску ў Беларусі неяк перэстало шанцаваць; прычына гэтаго была вось якая: калі украінскіе казакі перэдаліся пад Цара маскоўскаго, яны думалі знайсьці ў маскоўскім гасударстві блізкі сабе праваслаўны народ; тое самае думалі і праваслаўные ў беларуска літоўскіх землях, дык Маскоўскаго Цара лічылі апекуном сваей веры. Тым часам бліжэйшае знаёмство паказало ўсю рожніцу зродных, але ад векоў рожных культур, беларускай і маскоўскай. Пры гэтым выйшла, што Беларусы і Маскоўцы рожняцца ва ўсём, ды нават і ў самай веры праваслаўнай. Для Масквы Беларусы не былі рускім народам, але „Літвой"; у Маскве думалі, што **рускае**—гэта тое самае, што **маскоўскае**, а ўсё іншае—хаця і рускае, але што вытварылося асобнымі варункамі жыцьця,—значыць і тое, што стварыла беларуская культурная работа, што было **сваім** для беларусоў, маскоўцы лічылі літоўскім, або і польскім, „лацінствуючым",— не рускім. Нават чыстае праваслаўе Заходняй Русі было для маскоўскіх людзей „лацінствуючым", а часам „літоўскай ерэсью", не кажучы ўжо аб Уніі, каторую лічылі проста „лацінствам". З гэтай прычыны не раз паміж беларускімі і маскоўскімі людзьмі падымаліся войстрые спрэчкі і сваркі. Беларусь, каторая перш добрай ахвотай хінулася да Масквы, цяпер, падобна Украінскім казакам, старалася выбіцца с-пад яе ўласьці. Нават ярые абаронцы праваслаўя хутка астылі да Масквы. Гарады адзін за адным пачалі варочацца пад ўласць Польскай Рэчыпосполітай. Маскоўская граніца што раз далей і далей адступала на ўсход к Днепру. Ў 1656 гаду цару Алексею Міхайловічу прыйшлося прыстаць на мір с Польшчай, здалеўшы дабіцца таго, што палякі насьледнікам польскаго пасада пасьля сьмерці караля Яна Казіміра прызналі Алексея Міхайловіча.

Хоць Маскоўскае Царство не здалело утрымаць за сабой усе заваеваные ў Беларусі землі, за тое шмат пачэрпнула адгэтуль моральных і навучных сіл для свайго адраджэньня. Праз доўгі час Татарскай няволі Усходняя Русь затрымалася ў сваім развіцьці і далёка адстала ад сваіх пабратымцоў Украінцоў і Беларусоў. Граматнасць паміж маскоўцамі была вельмі слабая, школ зусім не было. Нават духоўнае жыцьцё зусім упало, так што ў 1654 гаду Патрыарх Нікон, устроіўшы Іверскі манастыр, перэцягнуў к сабе часьць манахоў і настаяцеля Кутэінскаго манастыра, Ёіля Труцэвіча, для помачы сабе ў перэбудове маскоўскаго праваслаўя і для прыкладу сваім земляком як трэба устраіваць манастырскае жыцьцё. Труцэвіч, перэежджаючы ў Іверскі манастыр, перэнёс туды і Кутэінскую друкарню. У 1664 гаду перэцягнулі с Полацка ў Маскву еромонаха Сімона Сітняновіча. Сітняновіч выховываў царэвіча Фёдора Алексеевіча і ён першы залажыў у Маскве фундамэнт школьнай прасьветы, пакінуўшы посьле сябе шмат навучных прац. З гэтаго часу пачынаюць маскоўцы рабіць перэклады розных кніг з беларускай і польскай мовы на сваю мову. Такім парадкам над пачаткам навукі і літэратуры ў расейскай мове працавалі вучоные Беларусы і Украінцы, кладучы моцны фундамэнт да далейшаго яе развіцьця.

У Польскай Рэчы-Посполітай зараз пасьля Маскоўскіх воен загараецца ізноў змаганьне розных вер. Але цяпер гэтае змаганьне мае зусім іншы характэр, чым даўней пры панаваньні лініі князёў з Ягайловаго роду. Каталіцтво за гэты час зрабілося верай польскай і зусім зьлілося с паняцьцем польскай народнасьці, так што **паляк і католік** гэта пачалі лічыць ужо за адно.

Каталіцтво ў тым часе пачынае кіравацца да таго, каб выціснуць у Беларускіх землях ужо ня толькі само праваслаўе, але уніяцтво, і гэтае апошняе часта-густа церпіць уціск католікоў—„палякоў". У другой палавіне XVII сталецьця беларуская шляхта без мала ўся ужо перэйшла ў каталіцтво і зусім адарвалася ад свайго народу, заглушыўшы ў сабе польскасьцю беларускае націонапьнае пачуцьцё. Каталіцтво сталося ўжо польскай, „панскай" верай, а праваслаўе і уніяцтво - верай простацтва, „хамскай верай". Уніяцтво, ня гледзячы на стараньня езуітоў, усёж-ткі далёка не адыйшло ад праваслаўя, а дзеля гэтаго і не карыстало прыхільнасьцю польско-католікоў, каторые жадалі бачыць Уніяцтво не як веру саму па сабе, але толькі як перэходную ступень у каталіцтво; дзеля гэтаго Уніяцкім папам закон не даваў абецаных правоў. Даходы рускіх папоў—праваслаўных і уніяцкіх—былі такіе малые, што пароху (настаяцелю прыхода), каб пракарміць сваю сямью, прыходзілося так сама як і простаму мужыку абрабляць свой кавалак зямлі. Такое палажэньне зьвертало увагу нават польскіх каралёў, і, як сьведчыць сам Ян-Казімір, мейсцовые паны прымушалі рускіх духоўных асоб адбываць прыгон разам з селянамі, а такжэ судзілі іх сваім судом і паддавалі кары. У канцы католікі дамагаліся нават

скасаваньня асобнай Уніяцкай іерархіі і прылучэньня уніятоў да каталіцтва. „Жаляцца уніяцкіе біскупы перэд Богам, перэд сьвятым айцом і сьв. Рымскай цэрквай,—пісаў у 1664 гаду уніяцкі біскуп Якуб Суша ў Рым да папежа,—жаляцца, з задзіўленьнем бачучы, што ўсюды ў нашай бацькоўшчыне знаходзіцца ці мала паноў лацінніkоў, каторые дамагаюцца перэд сьвятой Сталіцай Апостольскай таго, каб нас, уніяцкіх біскупоў, скасаваць, каб меньня нашы прылучыць да каталіцкіх біскупствоў і каб пакінуць нам тольki манахоў і белых папоў, але паддаўшы іх пад ўласць лацінніkоў".

У 1697 гаду бытцам дзеля таго, каб зраўнаваць правы „Літвы" с Польшчай, было пастаноўлено, каб ва ўсіх судох вялікаго княжства Літоўскаго ужывалі польскай мовы заместа беларускай, каторая з найдаўнейшых часоў была мовай урадовай (гасударственай). З гэтаго часу ўжо наша „польская" шляхта дружна пачынае выцесьняць сваю спрадвечную мову с публічнаго ужытку ды пакідаць яе адно да прыватных патрэб, ужываючы тольki у зносінах і гутарцы з селянствам,

Каля 1717 году зьявіўся тайны праект, каб скасаваць „рускую" веру і народнасць у граніцах Польшчы; гэты праект маніўся скасаваць ня тольki праваслаўе, але і Унію, каторая ўсёж-ткі была рускай верай.

З Базыльянскімі манахамі палякі мірыліся, бо патрапілі скарыстаць з іх помачы для апалячываньня беларусоў, але за тое вельмі не любілі сьвецкае „белае" духавенство. Часта спатыкаем мы у польскіх пісьменнікоў цэлые хвалебные гымны аб свабодзі, якая панавала ў Польшчы, але тут зьяўляецца пытаньне: для каго і якая была гэта свабода? Свабода веры, праўда, была ў Польшчы ў часе панаваньня князёў з роду Ягайлы, або, іначэй кажучы, была ў той час, калі наша беларуска-Літоўская лінія князёў панавала ў Польшчы; значыць, пакуль у польскім жыцьці мелі сілу „Літоўскіе" людзі, датуль была і свабода веры. Было і тады змаганьне за веру, але гэтае змаганьне з гасударствам нічога супольнаго ня мело: гэто было **змаганьне партій**. Роўна с тым часам, калі палякі, дзякуючы Люблінскай Уніі, забралі ў свае рукі ўнутрэнае жыцьцё ўсяго гасударства,—значыць, і літоўска-беларускіх зямель,—гіне і ўсякая свабода ў Польшчы. Гэта не голословуная казка, але праўда, каторую даводзяць пастанаўленьня сэймоў і тысячы судовых актоў. На-





**Беларусы пачаткоў XIX сталецьця (Барысоўцы)**

прыклад, пасьля сьмерці Аўгуста II на конфэдэрацыі 1732 году было пастаноўлено: „касьцёл каталіцкі не павінен цярпець каля сябе другіх вер; людзям другіх вер—праваслаўным і протэстантам—адбіраецца право быць выбранымі ў дэпутаты на сэймы, трыбуналы (суды) і ва ўсякіе асобные камісіі, устанаўляемые для якіх-небудзь спраў. Правы іх зраўніваюцца з правамі жыдоў. Духоўные іх не павінны хадзіць яўна па вуліцах с сьвятымі дарамі (сакрамэнтамі); хрысьціны, шлюбы, пахароны яны маюць права рабіць толькі дастаўшы пазваленьне ад каталіцкаго кзендза, дый то за устаноўленую плату. Пахароны з харугвямі і народам людзям другіх вер забараняюцца; яны павінны хараніць нябошчыкоў у ночы. Ў гарадох інаверцы павінны бываць на каталіцкіх працэсіях; у сёлах не маюць права мець званы пры цэрквах. Дзеці, каторые родзяцца з мешаных шлюбоў, павінны быць каталікамі, і нават праваслаўные пасынкі вотчыма-каталіка павінны прыймаць каталіцтво". У 1747 гаду вышоў каралеўскі указ, каб у каралеўскіх маёнтках пасьля памершых праваслаўных і уніяцкіх папоў не назначалі на іх мейсцэ новых без пазваленьня самога караля. На Сэйме 1764 года пастаноўлено было караць сьмерцьцю тых, каторые пэройдуць с каталіцтва у другую якую веру, і пастаноўлено было запісываць у падданство сыноў папоўскіх, калі яны да 15 гадоў не навучацца якой спэцыяльнасьці . У 1766 гаду біскуп кракоўскі, Солтык, падаў Сэйму думку, каб кожнаго, хто асьмеліцца сказаць на сэйме мову на карысьць інаверцоў, аб'яўляць ворагам гасударства. Сэйм думку гэту прыняў з радасьцю і зрабіў яе законам.

Калі мы ўсё гэта разгледзім, тады зразумеем, чаму беларускае праваслаўнае духавенство шукало апекі у маскоўскіх цароў: Польшча для іх была мачыхай, дый злой мачыхай. Тое-ж самае рабілі і протэстанты, звертаючыся за апекай у Немеччыну. Дзеля гэтаго суседніе с Польшчай гасударствы пачалі мешацца ў унутрэнае жыцьцё польскаго гасударства і што раз болей і болей сталі кіраваць гэтым жыцьцём. К гэтаму пры выборы кожнаго новаго караля ў Польшчы складаліся розные партіі, каторые стаялі кожная за свайго кандыдата, цягнулі ў розные бакі і так сама прасілі помачы суседніх гасударствоў. Кароль жэ, выбраны якой небудзь партіей, ня меў ніякіх правоў, бо ўсё лежало на сэймах, а сэймы адзін за другім зрывала сама шляхта, карыстаючы с права „veto" (не пазваляю).



Пад канец XVIII сталецьця непарадкі ў унутрэным жыцьці Польскаго гасударства павялічываюцца ешчэ дамовымі сваркамі і войнамі. Ад доўгіх войн з Масквой, а пасьля са Швэдамі, народ зусім згалеў, к таму-ж народ гэты ўсе свае разумные сілы аддаваў



**Беларусы канца XIX сталецьця (Случчане)**

не на будову новаго жыцьця, але на рэлігійнае і партійнае змаганьне. Навука, перэйшоўшы зусім у рукі духавенства, стаяла на вельмі нізкай ступені, ды на першым мейсцы ставілі рэлігійные пытаньня. Пры такіх варунках развіцьце народа не йшло наперад, але нават падало ўніз, як у палякоў, так і у беларусоў. Прыцісненьня за веру некаталікоў, як ужо вышэй было сказано, давалі

суседнім с Польшчай гасударствам право мешацца ў яе ўнутрэнае жыцьцё, а наватъ пры помачы падкупленых або падстаўленых людзей кіраваць гэтым жыцьцём.

Ў 1767 гаду „дыссыдэнты“ (кальвіністы і лютэране) зрабілі саюз—так званую „Слуцкую конфэдэрацію“, да каторай пазьней далучыліся і праваслаўные з беларускім архіепіскопам Грыгорам Коніскім. Конфэдэрація гэта дабівалася для дыссыдэнтоў роўных правоў с каталікамі; а як для расейскай палітыкі было карысна, каб у Польшчы была завіруха, дык Расейскі ўрад падтрымліваў гэту конфэдэрацію, а Імператрыца Кацерына II дабілася ад польскаго ўраду роўных правоў для інаверцоў ды гэтым ешчэ болей раздражніла староннікоў агранічэньня правоў дыссыдэнтоў. Сіла Расеі ў Польшчы з году на год узрастала, і Расея камандавала блізка ўсім яе ўнутрэным жыцьцём; гэта не падабалося польскім патрыотам, і яны для абароны Польшчы ад Расеі зрабілі так сама свой саюз—Барскую конфэдэрацію (с каталікоў). Конфэдэрацкая вайна блізка чатыры гады трывожыла Польшчу і ўцягнула Расею ў вайну с туркамі. Пасьля гэтай вайны наступіў першы раздзел Польшчы ў 1772 гаду. Па гэтаму раздзелу да Расеі адыйшло: Інфлянцкае воеводзтво і Беларусь аж да рэк Дзьвіны,434ручы і Днепра. Чужэземнае войско увайшло ў адрэзаные часьці Польшчы, і Сэйм зацьвердзіў гэты раздзел. Але палякі не маглі спакойна глядзець на раздзел свайго гасударства; зразумеўшы, што ўсё гэта зрабілося ад таго безладзьдзя, якое панавало ў Польшчы, яны, каб папправіць беду, задумалі завясьці у сябе конституцію. Партія, каторая хацела аднаўленьня Польшчы і каторай кіраваў граф Потоцкі, дайшла свайго: конституція была зацьверджэна 3 мая 1791 году. Настаў новы лад у Польшчы, але скора знайшліся нездаволеные як гэтым парадкам, так і тым, што на Сэйме скасавалі право „veto“. Гэтым адным словам даўней кожны шляхціц мог сарваць хоць якое пастанаўленьне Сэйму. Вось, гэтые нездаволеные злучыліся у конфэдэрацію пад кірункам Шчаснаго Потоцкаго, Браніцкаго і Жэвускаго і звярнуліся за падмогай да царыцы Кацерыны II. Царыца выслала ім на помач сваё войска, а проці іх выступілі старонікі гасударственаго ладу пад камандай Понятоўскаго і Косьцюшкі; але расейскае войско разбіло іх. Кацерына прымусіла караля Польскаго Станіслава адрэчыся конституціі і прылучыцца да конфэдэратоў.



Тады за згодай Прусссіі зроблены быў другі раздзел Польшчы 23 студня 1793 году. Тады да Расеі адыйшла рэшта Беларусі с Палесьсем, Валынь і Падольле, а 25 лістапада 1795 году адбыўся трэйці і апошні раздзел Польшчы.



Полацк у канцы XIX сталецьця

# ЧАСЦЬ ПЯТАЯ

## Беларусь пад Расеей

Скончылося палітычнае жыцьцё Польшчы, і Беларусь адыйшла да Расеі,—споўнілося наканец тое, да чаго кіраваліся Васілі, Іваны, Алексей Міхайловіч і ўсе маскоўскіе цары, не выключаючы і Петра І,—за што было праліто многа крыві, дзеля чаго нешчасная Беларусь блізка 200 гадоў была вечным ваенным боішчэм; змаганьне, пачатае ешчэ ў XI сталецьці паміж Кіеўскай Русьсю і Полацкам, скончылося прылучэньнем адных і другіх да Усходняй Русі. Як даўней, пры Алексею Міхайловічу, беларускі народ для маскоўцоў быў „літоўскім“,— так і цяпер быў ён для расейскіх людзей нацыянальна зусім чужым. Беларусь для ўраду была новай старонкай з мужыкамі, каторые былі новым матэр'ялам для раздачы сваім людзям у нагроду за розные заслугі.

Палітыка даўных часоў мала рупілася аб „простым“ народзе і яго патрэбах. **Народам** у гасударстве лічыўся перш **рыцарскі, ваенны стан**; пасьля той-жэ самы стан зрабіўся **шляхоцкім, дваранскім, ці баярскім**, але рожніца была толькі ў самымназваньні: вышэйшы стан кіраваў гасударственымі справамі, а „просты“ народ быў толькі служэбнай сілай. У Беларусі саўсім згінуў свой беларускі рыцарскі, ці ваенны стан; астаўся толькі народ у панскай нявалі, аб каторым ніхто ня думаў, ніхто не лічыўся, і ён ня меў зусім ні голасу, ні правоў грамадзкіх. Такое палажэньне беларускаго „простаго“ народу было ў апошніе часы Рэчыпосполітай, такім яно асталося і пад Расеей.

Часта мы спатыкаем у Расейскіх гісторыкоў думкі, бытцам у часе раздзелу Польшчы Расея кіравалася пачуцьцем племенной еднасьці з беларусамі і хацела вызваліць гэты „рускі“ народ с-пад уціску Польшчы; але, калі мы прыглядзімся бліжэй да гэтай справы, то ўбачым, што тут ані племеннае, ані нацыянальнае, ані нават рэлігійнае пачуцьце ня мело ніякай вагі: Расея тады, так сама як і Польшча, была ў руках шляхты—дваранства, і народ там быў так сама ў нявалі, а кожнае слово, кінутае за народ, за яго цяжкую



долю, цяжка каралося. Не маглі жэ адны і тые самые людзі быць аднача́сьне «крэпостнікамі» у сваей бацькоўшчыне, а лібэраламі і дэмократамі ў нова-дабытым краю. Дый ня зналі тады ў Расеі, хто і што такое Беларусь і беларускі народ; навука наагул стаяла нізка, а тым больш этнографія і гісторыя суседняго гасударства. Расейскае правіцельство, праўда, падымало пытаньня рэлігійные: абарону дыссыдэнтоў і праваслаўных,—толькі рабіло гэта дзеля палітычных мэт, глаўным чынам дзеля скасаваньня неспакойнаго суседа—Польшчы.

Што Беларусь папала пад Расею, а не пад якое іншае гасударство, гэта быў звычайны прыпадак; найбольшай прычынай гэтаму было географічнае палажэньне нашаго краю, бо ў той жэ самы час другі куток польскаго гасударства—Галічына па тэй жэ самай географічнай прычыне папаў пад Аўстрыю. А там так сама жыло два-тры мільёны рускаго праваслаўнаго народу, зусім такога, як на Падольлі і Валыні, тым часам Расеі і ў галаву не прыйшло дабівацца Галічыны, хаця, каб хацела, магла бы лёгка замяніць яе на тую часць Польшчы, каторая Расея дастала пры раздзелі яе.

Дастаўшы пад сваю ўласць беларускіе землі, Расея гаварыла заграніцай, што народ тут чыста рускі, а побач выдаваліся цыркуляры, ў каторых гаварылося аб патрэбе абрусеньня гэтаго народу. Для абрусеньня за Кацерыны было шмат чаго зроблено. Каб умацаваць расейцоў у Беларусі, правіцельство раздавало конфіскаваные і каралеўскіе маёнткі расейскім людзям, назначало расейскіх чыноўнікоў; быў скасаваны і Літоўскі Статут. Законы, спісаные ў Літоўскім Статуце, вырабіліся, як мы ўжо ведаем, з звычаёваго права Заходняй Русі і устаноў Вітоўта; пазьней, як развівалося само жыцьцё, туды прыпісываліся пастанаўленьня сэймоў. Літоўскі Статут быў шмат лепей апрацаваны і дапасаваны да жыцьця краю, чым **„Уложэнія Царя Алексея Міхайловіча“**, каторымі яго замянілі. Гэтые „Уложэнія“ не здаволівалі нават патрэб расейскаго жыцьця, гдзе іх завялі ўжо з даўных часоў, бо сотні пазнейшых „Указоў“ каторымі дапаўняліся „Уложэнія“, рабілі іх так неяснымі, што ўсё аддавалося самаволі чыноўнікоў, а тые тлумачылі іх, як самі хацелі.

Насяленьне краю пасьля раздзелу Польшчы складалося з двух часьцей: да першай, вялікшай, належало ўсё селянство і часьць ме-

шчанства (гэта группа па веры дзялілася на праваслаўных і уніятоў, а па мове была чыста беларускай); другая – меншая часць складалася з апалячэных баяр беларускіх (шляхты), польскіх перэсяленцоў і так сама с часткі мешчан, дый на веры была яна каталіцкай, а па мове—польскай.

Царыца Кацерына II лічыла ўсю шляхту польскай, а беларускі народ—чыста расейскім,—такім самым, якім ёсць расейскі народ у Маскоўскай або Тульскай губэрні; ведама, што такі пагляд несправедлівы —На дварох цароў расейскіх моцна трымаўся ў тые часы звычай, што пагляду пануючай асобы павіны былі трымацца і вышэйшые чыноўнікі, а ад вышэйшых ён пераходзіў і да меншых. У новадабытым краю ўрад заўсёды павінен мець сабе прыхільнікоў, на каторых апірае сваю палітыку. Так і ў Беларусі пасьля раздзелу Польшчы расейскі ўрад павінен быў выбраць сабе людзей, на каторых мог апірацца, і гэтым разам ён выбраў праваслаўнае духавенство, каторае, пачуўшы за сабой сілу, старалося выказаць яе на уніятах, а часам і на каталікох, спаганяючы даўные крыўды. Пры гэтым стараннасьць іх была нават лішне вякікай, бо ажно с Пецербурга правіцельство павінно было стрымліваць іх рэлігійны разгон.

У 1793 гаду Царыца Кацерына для пашырэньня праваслаўя ў Беларусі і Украйне залажыла міссійнае таварыство. Кіраваў гэтым таварыствам мінскі архіепіскоп Садкоўскі; на утрыманьне міссіонероў вызначалося 20 тысяч рублёў у год з гасударственай кассы ды ешчэ, калі будзе патрэба, помачы ваеннай сілы. У Польшчы, як мы ўжо пісалі, апошнімі часамі былі вялікіе прыцісьненьня для другіх вер, дык у каталіцтво і уніяцтво, каторае усёж-ткі мело сякіе такіе правы, як вера грэко-каталіцкая, пераходзілі людзі і без перэконаньня, а нават с прымусу. Дык, пасьля аткрыцьця такога міссійнага таварыства, гэткіе людзі кінуліся пераходзіць у праваслаўе, і да 1795 г. іх перэйшло большай часьцю на Украйне і ў Усходняй часьці Беларусі блізка тры мільёны; але гэтым і скончылося чысло тых, каторые хацелі сваей ахвотай перэйсьці у праваслаўе. Тым часам у Беларусь назначаліся з Расеі новые праваслаўные духоўные, каторые хацелі імка ўзяцца за справу.

Пакуль ешчэ новые расейскіе парадкі не умацаваліся ў Беларусі, то і прылучэньне уніятоў адбывалося так, як даўней—за ча-





Беларусы канца XIX сталецьця (Палешукі)

соў Польшчы – адбывалося прымусовае прылучэньне да Уніі праваслаўных. Даведаўшыся, што ў якой парохіі ёсць людзі, каторые жадаюць перэйсьці у праваслаўе, ехалі туды сьвяшчэнікі з дзякамі і сваімі людзьмі. Тады каля цэрквы збіраліся староннікі праваслаўя; калі іх было шмат—больш, чым уніятоў, тады асьвячалі цэркву, і прыход лічыўся ўжо праваслаўным; а калі жадаўшых перэйсьці было мала, тады уніяты праганялі іх і далей аставаліся пры Уніі.

Такім парадкам прылучэньне („возсоединеніе“) Беларускіх зямель мело толькі палітычны характар. Як тагочасные расейцы ня лічылі ані зямлі, ані народу беларускага расейскім, так і мейсцовые людзі не маглі адразу страціць сваей асобнасьці і зрабіцца расейцамі. Калі быў кірунак да абрусеньня, то ён не йшоў з сурьёзнага пачуцьця національнай еднасьці, бо такой папраўдзі і не было, але гэта было скарэй, як кажэ Пыпін, **„казённае стрэмленіе да аднаформеннасьці“**, каторае ня можэ дапусьціць, каб побач жыло нешта неза-

лежнае, самабытнае. Дзеля гэтаго для ўсяго нашаго краю не мало рабілося шкоды дзеля карысьці чыста палітычных мэт. Шляхоцкі стан, хоць ён і быў польскім, але ўсёж-ткі астаўся тым самым, чым ён быў і за часоў Польшчы; доля-ж „простаго“ народу —беларускаго ды нават праваслаўнаго,—за каторы нераз столькі рабілося гуку, ня толькі не палягчэла пад Расеей, але стала ешчэ горшай, бо расейская адміністрація ўзмоцніла паншчынную няволю мужыкоў.

Пры Імператорах Павле і Александры І пагляд расейцоў на Беларусь зусім перамяніўся: у той час пад націскам пануючых асоб, каторые спагадалі палякам і шанавалі іх культуру, патуралі ім і расшыралі іх правы, расейскіе чыноўнікі глядзелі ўжо на Беларусь, як на чыста польскі край. Як мала расейцы ведалі аб Беларусах, відаць з запісак вучонаго расейскаго акадэміка Севергіна.

Праежджаючы праз Беларусь, Севергін спатыкаў тут праваслаўные цэрквы і, угледаючыся на богослужэбства ў гэтых цэквах, шчыра дзівіўся, што рызы на духоўных **дужа падобны** да грэкорасейскіх, дый чытаюць яны с кніг славянскіх; але пры гэтым Севергін не называе іх праваслаўнымі, а „сызматыкамі“.

З уступленьнем на пасад Цара Паўла І былі ешчэ больш разшырэны правы польскай шляхты над беларускім народам. А каталіцкаму духавенству даны былі такіе вялікіе правы над уніятамі, якіх яны ніколі ня мелі і за часоў Польшчы. Зрабілося гэта затым, што акурат у гэтым часе у Франціі кіпела рэволюція, і адтуль вольнадумство расшыралося па ўсей Эўропе, наганяючы не малы упуд на правіцельствы і духавенство. Для змаганьня з вольнадумствам на Заходзе Эўропы стараліся збіраць у адно ўсе консэрватыўные сілы—як гасударственые, так і рэлігійные, ня робячы пры гэтым розніцы, хто якой трымаўся веры; тое самае рабіў і Цар Павел І. Апрача гэтаго Павел І меў думку аб тым, каб даць свабоду веры ўсім, дык і работа над пашырэньнем праваслаўя ў Беларусі на нейкі час затрымалася. Пры Цары Паўле была зроблена адна вельмі карысная рэч для Беларусі: гэта ўстанаўленьне нанова Літоўскаго Статута.

Пры Александры І у 1803 гаду віленскую езуіцкую акадэмію перэрабілі на Унівэрсытэт. Польскае адраджэньне, пачатае ў Польшчы, выступіло тут з небывалай сілай, захватываючы на сваю ка-



рысць мейсцовые літоўскіе і беларускіе сілы, а з развіцьцем літэратуры і асьветы у краю пачала зьяўляцца і цікавасць да самога народу, каторы не быў польскім, хаця такім і лічылі яго палякі. Побоч з гэтым жыла і любоў да беларускаго народу і краю, да яго абычаёў, у каторых узрасьлі мейсцовые палякі, а нават да мовы, каторая не была ім чужой, бо зналі яе змалку ад нянек і селянства, а некаторые і да апошніх часоў ужывалі яе у штодзенным жыцьці, як сваю родную. Шляхта, хаця гаварыла па польску і лічыла сябе палякамі, аднак у стасунках с праўдзівымі палякамі называла сябе „літоўскай“, хаця з роду літоўскай мовы ня знала. Паміж імі жыло, хоць ужо несьвядомае, пачуцьце гістарычнай асобнасьці. Гэта ўсё разам і было прычынай таго, што вучоные з Віленскаго Унівэрсытэту пачалі надта цікавіцца беларускім народам, яго песьняй, казкай і абычаямі, і так памалу пачала узрастаць навуковая польская літэратура аб беларусах.

Пры Царэ Александры І ў 1812 гаду праз Беларусь двойчы праходзілі Французы. Першы раз—ідучы на Маскву, а другі раз—вертаючыся назад. Вайна 1812 году прыпомніла Беларусі страшные часы маскоўскіх і швэдзкіх воен. Безпрэстанные перэходы войск, грабежствы, пажары і др. давялі край да голаду. Былі прыпадкі, што аграбленые з усяго вёскі вымірали з голаду. Пасьля гэтых воен беларускі народ доўга ня мог аправіцца, а памяць аб іх жыве ешчэ ў народзе і па сягоньняшні дзень.

Расказываюць, што калі Наполеон ішоў пад Маскву, ён нейдзе на дарозе сустрэў беларускую бабу і загадаў затрымаць яе і выпытаць, як яна хочэ: ці каб француз пабіў расейца, ці каб расеец пабіў француза? Баба, паскрэбаўшыся ў галаве, сказала: «ды я-б, кажэ, хацела, каб француз, заняўшы Маскву, пагнаў, пагнаў, ды і сам не вярнуўся!..» Французы спраўдзі сперша пагналі расейцоў, але толькі хутко вярнуліся у страшным безладзьдзі. Заместа стройных палкоў за Наполеонам беглі абдзертые, галодные і зззяблые грамады, пакрытые ранамі, памарожэные і хворые, значучы сьлед свой трупамі. Французы патрапілі быць такімі самымі для народу, як войскі Трубецкаго і другіх пры Алексею Міхайловічу і Петру І.

У часе французскай вайны часць палякоў памагала Наполеону; гэта было прычынай таго, што пад канец панаваньня Александра І

пачынаюцца перэмены ў палітыцы с палякамі Заходняго краю, а, як заўсёды бывае ў такіх прыпадках, ні ў чым непавіннаму „проста-му“ народу найбольш дастаецца.

Ўступаючы на Пасад Цар Мікалай I меў ужо гатовы плян аб Уніі. Польскае паўстаньне 1831 году ешчэ больш узмоцніло яго думкі, бо уніяты падтрымлівалі паўстаньне.

У часе паўстаньня 1831 году расейскіе чыноўнікі ўцямілі, што беларусы могуць быць добрай апорай для правіцельственай палітыкі ў Беларусі у справе змаганьня с палякамі, дык у самы гарачы час паўстаньня расейскі глаўнокамандуючы Остэн-Сакен шырыў паміж селян адозвы, ў каторых клікаў іх на помач сабе і абецаў, што яны ўжо ніколі ня будуць належаць да паноў. Аднак, як толькі прайшла бура, забыліся аб гэтым, і селяне ізноў асталіся ў даўнай залежнасьці ад паноў. Зглуміўшы паўстаньне, правіцельство пачало думаць ізноў над способамі абрусеньня Беларусі. Пачалося ад закрыцьця польскіх школ, каторых у тые часы было шмат у краю, але заместа іх новых ніякіх не аткрывалі, а ў 1834 гаду лік казённых школ зменшылі на палавіну; наканец другі і апошні ужо раз быў скасаваны Літоўскі Статут. Адноўлены былі міссіі і ізноў пачалося пэрэварачываньне уніятоў на праваслаўе. Толькі цяпер ужо справа велася іначэй: пастанавілі зусім скасаваць Унію. У тым часе пад кірункам уніяцкаго епіскопа Іосіфа Семашкі быў заведзен **тайны камітэт**, каторы павінен быў зблізкаць памалу уніяцтво з праваслаўем, каб пазней зусім злучыць іх у адно. Пачалі перэрабляць выгляд уніяцкіх цэркваў на маскоўскую спадобу, завадзіць іконостасы, а глаўнае замянілі даўнейшые беларускіе „служэбнікі“ у цэрквах маскоўскімі служэбнікамі. Апорным папом адбіралі парафіі, а іншых нават вывозілі у глыб Расеі. Быў адзін момэнт, калі здавалося, бытцам урад хочэ ізноў падтрымаць Унію, бо пазволіў высьвяціць адразу колькі уніяцкіх епіскопоў. Але ўся гэта справа была раней добра абдумана па тое, каб лягчэй правясьці злучэньне уніятоў. У епіскопы выбраны былі такіе людзі, каторые працавалі разам з урадам (правіцельствам) на карысць праваслаўя, і такім парадкам правіцельство мело на сваей старане вышэйшае уніяцкае духавенство. Цяпер ужо можна было прыступіць да злучэньня цэркваў, але праціўўся гэтаму стары уніяцкі мітрополіт Язэп Булгак і Іозафат Жарскі; толькі абодвы яны хутка памерлі. З іх сьмерцю



ўсе прашкоды згінулі. Тады тры уніяцкіе епіскопы—староннікі праваслаўя зьехаліся ў Полацку ў 1839 гаду і саставілі саборны акт аб злучэньні уніяцкай цэркви с праваслаўнай і, каб паказаць, што робяць гэта сваей ахвотай, выслалі да Цара ад імені уніятоў паведамленьне і просьбу аб пазваленьні прылучыцца да праваслаўя. 25 марца таго ж самаго году прыйшло пазваленьне. У гэтым-жэ 1839 гаду ўрад (правіцельство) Царскім указам забараніло ужываць беларускай мовы у цэрквах і касьцёлах, бо дагэтуль казаньня для простаго народу заўсягды гаварыліся па беларуску, асабліва ў цэрквах уніяцкіх, гдзе даўней, пакуль не замянілі на маскоўскіе, ужываліся пры богослужэбствах і літургічные кнігі ў беларускай мове.



В. Дунін-Марцінкевіч

Уніяцкая цэрква трывала ў Беларусі 243 гады. За гэты час яна перэжыла шмат перамен і ў канцы сталася запраўднай народнай верай; народ з ёй зжыўся і зродніўся дык і скасаваньне яе ня ўсюды радасна вітаў.

Ў 1861 г. выйшоў вядомы маніфэст аб скасаваньні паншчыны, але праведзены быў ён у жыцьцё крыху пазьней. А тым часам у 1863 гаду пачалося другое польскае паўстаньне. Раней правіцельство думало аперціся на беларускае насяленьне, дзеля гэтаго перэд паўстаньнем у пецербурскіх газэтах гаварылося аб патрэбе друкаваць кнігі па беларуску. А калі прыежджаў у Вільню Цар Александр II, ён ласкава прыняў вершы ў беларускай мове, напісаные на яго спатканьне беларускім паэтам Коротынскім. Але паўстаньне удалося лёгка зглуміць, і ў Расеі разам прыпомнілі, што Беларусь

7. Зак. 5688.

— гэта чыста рускі край, хаця ешчэ за год да паўстаньня нігдзе аб гэтым і не пісалося. Прыпомніўшы аб тым, што тут чыстарускі народ, мейсцовые ўласьці пад камандай Муравьёва пачалі „возстановлять русскую народность", нішчучы ўсё, што не было падобным да маскоўскаго і велікарускаго. Прысланые с Пецербурга і глыбі Расеі людзі ня зналі зусім ані тутэйшаго краю, ані яго гісторыі і ад векоў устанавіўшыхся парадкоў, дый не хацелі знаць ані падтрымліваць. Усе сілы гэтых людзей былі звернуты на тое, каб зацерці ўсё тутэйшае, каб як можна больш высунуць велікарускае. Яны мелі мэтай сваей зніштожыць у краю польскасць, але ахвотна нішчылі і мейсцовае беларускае. Гэта абурывало нават больш сьветлых рускіх людзей, каторым давялося ў тые часы жыць у нашым краю. Аб літэратуры, ў каторай, як у люстры, адбіваліся погляды расейскаго грамадзянства, Пыпін кажэ: „Літэратура 60-тых гадоў, прысвоіўшая сабе выключно патрыотычную ролю, адзначалася палітычным цкаваньнем, загубіўшым усякае моральнае пачуцьце, і ў канцы канцоў пакінула па сабе шкодные сьледы як для Беларусі, так і для расейскаго грамадзянства". З рэпрэсій проці беларусоў у 60-тых гадах трэба адзначыць забарону друкаваньня кніжок у беларускай мове.

Ў 1905 гаду, разам з іншымі свабодамі, даными населенью Расеі, і беларусам было пазволено друкаваць кнігі і газэты у сваей роднай мове.

---

Канчаючы кароткі прагляд гісторыі нашай бацькоўшчыны, кінем вокам ешчэ раз у далёкую мінуўшчыну і паглянем, як развівалася культура ў нашым народзе. Прасьвета пачала расшырацца у нас с прыняцьцем хрысьціянства і разам з ім шырылася ня толькі серэд князёў і духавенства, але даходзіла і да „простаго" народу. Ці хрысьціянство да нас прыйшло праз Кіеў, калі прыняў яго Володзімір, ці мо шмат раней праз Скандынавію,—гэта ешчэ не разгадано, але тое пэўна, што ў Полацку і Турове епархіі з'явіліся вельмі рана, а ў час хрышчэньня Русі Кіеўскай у нас зналі хрысьціянскіе догматы, былі ўжо манастыры. Кафедра епіскопская у Смаленску заложэна была шмат пазьней, што паказывае на ніжэйшую асьвету у ім проці Полацка і Турова, але ўсёж-ткі горад меў высокую як на тые часы культуру. Лепей за ўсё відаць гэта з біографіі Клімэнта Смоляціча. Як кажэ летапіс, Клімэнт „быў кніжні-



кам, як рэдка". Ў 1147 гаду сабор пасьвяціў яго ў мітрополіты за яго вучонасць. Клімэнт шмат пісаў кніг, але да нашаго часу аткрылі толькі адзін яго ліст, пісаны да стараго таварыша, смаленскаго пана Θомы. З лісту мы бачым, аб чым і як думалі тагочасные асьвечоные людзі у Смаленску. Выходзіць, што Клімэнт і яго староннікі, каб аб'ясніць сьвятое пісаньне, апіраліся на творы грэцкіх пісьменнікоў і філософоў: Гомэра, Платона, Арыстотэля і др. Проці іх выступаў нехта Грыгоры, так сама Смаленскі „кніжнік", каторы трымаўся слово ў слово сьвятога пісаньня і вольнаго тлумачэньня не дапускаў. Як адна, так і другая старана чыталі у орыгінале (па грэцку) розных грэцкіх пісьменнікоў. Адным словам, у XII сталецьці беларуская культура стаяла надта высока. С таго часу яна ешчэ вельмі доўга ня толькі ня падала, але ўсё развівалася, так што, калі Беларусь уз'едналася з Літвой, Літва, ня маючы сваей, прыняла беларускую культуру, і старасьвецкая беларуская мова зрабілася для Літвы тым, чым цяпер для нашых паноў ёсць мова польская: па беларуску гаварылі князі, баяры, гэтай мовай пісаліся дакумэнты, адбываліся суды; ў ёй-жэ зносіліся з заграніцай, у ёй пісаліся законы. І так было ажно да XVII сталецьця. Ўжо ў XVII сталецьці беларуская шляхта, адыйшоўшая да польскай культуры, не рупілася аб сваю, а пазваляла ўсяму роднаму, як старой будоўлі, падаць памалу. Праз усё гэтае сталецьце беларуская мова траціць свае правы, і ажно дайшло да таго, што ў 1696 гаду Сэйм пастанавіў беларускую мову выкінуць з гасударственаго ужытку. Аднак



**Ф. Богушэвіч**

беларуская мова асталася доўга ешчэ ў цэркві і касьцелі і забаронена была, як мы ўжо ведаем, Указам 1839 году.

Найлепшай меркай культуры кожнага краю служыць асьвета; вось, калі паўгледаемося на чысло выданых кніжок для нашаго краю і зроднай нам Украйны, разам с каторай з найдаўнейшых часоў і да XVIII а нават пачаткоў XIX сталецьця карысталі мы з супольнай літэратуры, то паводлуг чысла выданых кніжок, як аблічае вядомы бібліограф Эстрэйхер, займаем мы не апошняе мейсцэ. Так, да заведзеньня гражданкі выдано было кніг славянскімі літэрамі (кірыліцай) усяго 1737; з гэтаго чысла было друкоў:

друкаваных па беларуску і украінску . . . . . . 897
славянскіх друкаваных для Беларусі і Украйны . . . 144
па расейску і славянскіх, друкаваных для Расеі . . 556
для палудзенных славян . . . . . . . . . . . 140

Найбольшы разцьвет беларускай літэратуры (цэркоўнай) прыпадае на XVI і XVII сталецьця. Пазьней беларушчына была выціснута польшчынай.

Стаўшы мовай селянства, каторае ўжо ня мело сваей інтэлігенціі (—а нават і духавенства, бо яно перш за шляхтай цягнулося да польшчыны, а пасьля да расейшчыны), мова беларуская пачала памалу марнець і траціць сваю даўнюю гладкасьць і багацьце. Пад канец XVIII сталецьця ўсе тые перамены, якіе перажывала Беларусь, злажыліся на паварот да свайго роднаго, на зачатак народнаго адраджэньня. Ў пачатках XIX сталецьця паяўляецца ўжо рукапісная беларуская літэратура, каторая, ходзячы ў сотнях перапісаных эгзэмпляроў, будзіла нацыянальнае пачуцьце; але цяжкіе варункі, ў якіх жыў край, не далі гэтым зачаткам развінуцца ў рух да нацыянальнаго адраджэньня. Ўсе жывые сілы краю захвачаны былі змаганьнем за інтэрэсы то польскай, то расейскай нацыі, або праваслаўя і каталіцтва, і гэтае змаганьне дзяліло беларускі народ на дзьве непрыязные партіі з вялікай шкодай для нацыянальнай сьведомасьці.

„Ў моры гэтых нацыянальна-рэлігійных змаганьнёў,—піша нябошчык С. Полуян у сваей недакончэнай працы: **„Беларуская літэратура ў яе тыповых прэдстаўніках“**,—ігноровалі беларускі народ,



і ўсе пробы да нацыянальнаго самовызначэньня тонулі ў гэтым моры, як непамотная „цеча“ (цячэньне). Бо кожная з заінтэрэсованых старон сілілася науковымі доводамі узмоцніць свае прэтэнсіі на Беларусь. Адгэтуль выцекала цікавасць да ўсяго беларускаго. А раз ужо выкліканая цікавасць не хацела на заўсёды аставацца служкай у руках заінтэрэсованай стараны; яна пачынала жыць сама па сабе, незалежная ад ніякіх тэндэнцій“.



**Янка Лучына (Неслухоўскі)**

Першым вялікшым творам у беларускай народнай мове, як і на Украйне, з'явілася перэліцованая „Энэіда“, напісаная Манькоўскім; спраўдзі не была гэта літэратура, але бытцам далей ішла ешчэ тая самая „этнографія“. Да нас дайшоў толькі невялічкі адрывак гэтай поэмы, дый то надта дрэнна запісаны, бо—замест беларускай чыстай мовы, ў якой мелася быць напісана гэта рэч, дайшоўшая да нас запісь прэдстаўляе сабой нейкі „жаргон“ без ніякай літэратурнай вартасьці. Пісана гэта рэч была каля 1790 году у Смаленшчыне.—У часе польскіх паўстаньнёў паўстанцы зверталіся да беларускаго народу,—як да паважнай сілы, каторая магла стаць ім у прыгодзе,—з адозвамі ў беларускай мове. Ў 1840 гаду ў Парыжы выйшла кніжка Рыпінскаго „Беларусь“. Кніжка гэта ў сваіх поглядах зусім польская, але аўтор тэрыторыяльна лічыў сябе за беларуса. За колькі год ізноў гэты ж самы аўтор выдае другую кніжку «Niaczvścik, ballada białoruska».—Далей, вядомы беларускі этнограф Ян Чэчот у Вільні ў 1844 і 1846 гаду выдае дзьве цікавые кніжэчкі, ў каторых даў колькі орыгінальных песень у беларускай мове („Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny“). Але гэта ўсё былі толькі пробы. Папраўдзі, бацькам новаго беларускаго пісьменства

быў **Дунін Марцінкевіч**, каторы жыў ў пяцьдзесятых гадах мінулаго сталецьця.

Ён першы пачаў пісаць чыстай беларускай мовай, і ў гэтым яго вялікая заслуга, гэтым ён сабе прыдбаў безсьмертнае імя ў беларускай літэратуры. Адну з пьес, каторую напісаў Марцінкевіч па беларуску, ў пяцьдзесятых гадах ігралі ў мінскім тэатры; гета была „Сялянка“, камэдія ў 2 зьявах. (Выдана ў Вільні ў 1846 гаду. Музыку напісаў да яе Монюшко). Апрача гэтаго апісаў ён **„Гапон“**, **„Вечарніцы“**, **„Купаллу“**, **„Шчыроўскіе дажынкі“** і перэклаў с польскаго **„Пана Тадэуша“**. У гэтым часе апрача Марцінкевіча пісалі па беларуску Дарэўскі-Вэрыга, Баршчэўскі, Сырокомля (Кондратовіч), К. Буйніцкі, В. Коротынскій і др. Але голас усіх гэтых лісьменнікоў ня быў голасам народу, дзеля гэтаго, апрача твороў Марцінкевіча, творы другіх пісьменнікоў становяць вялікую рэдкасьць і зусім невядомы шырэйшаму грамадзянству.

Праўдзівым народным песьняром-поэтам быў **Ф. Богушэвіч**. Жыў ён у часе найбольшаго зацішша ў грамадзянскім жыцьці, аднак не паддаўся агульнаму настрою і стараўся будзіць свой народ, заклікаючы гарачым словам „не замерці“. Друкаваць тады ў Расеі беларускіх кніжок нельга было, дык аўтор „Беларускую Дудку“ сваю друкаваў заграніцай. Паднімаў ён у сваіх вершах, здавалося, такіе простые, такіе штодзенные рэчы, але тэмы яго былі той жывой ранай, каторая балела беларуса, як багатаго так і беднаго; дзеля гэтаго творы Богушэвіча ў тысячах перэпісаных эгзэмпляроў разыходзіліся па ўсей Беларусі, і цяпер нема такога кутка ў нашым краю, гдзе-б ня знали яго вершоў, як: „Хрэзьбіны Мацюка“, „У судзе“ і іншые. С кніжок, выданых Богушэвічэм, найбольшую популярнасьць мае „Беларуская Дудка“, каторая вытрымала два выданьня заграніцай і адно ў Расеі; за ёй ідзе „Смык беларускі“, „Скрыпачка“ і „Траляленачка“.

Фр. Богушэвіч—гэта першы артыста беларускаго слова; другі пасьля яго песьняр артыстычнаго пакрою—гэта **Янка Лучына** (Неслухоўскі). С твороў яго вышла невялічкая кніжачка **„Вязанка“**. Гэтые два песьняры: Фр. Богушэвіч і Неслухоўскі, кладуць ужо моцны фундамэнт для далейшаго развіцьця беларускай літэратуры.

Так мала-памалу пачаў разрастацца беларускі національны рух. У 70 гадах мінулаго сталецьця пачынаюць друкавацца заграніцай



Беларускіе соціалістычные кніжкі ў Швэйцарыі і Англіі. У 80 гадах ужо ў больших гарадох, гдзе ёсьць унівэрсітэты, пачынаюць організавацца беларускіе студэнцкіе грамады, як, напрыклад, у Пецербурзе, Маскве, Харкове, Рызе. Маскоўскі гурток ў 80 гадах выдаў нават кніжэчку **„Сыгнал“**, перэклад з расейскаго (Гаршына). Ў 90 гадах робяцца пробы стварыць популярную літэратуру для народа. Але запраўдны беларускі рух пачынаецца толькі з 1903—4 гадоў, калі якбы новы вецер павеяў над Расеей і навеваў любоў да народу, яго жыцьця, а у беларусоў і да яго гісторыі, мовы. І вось спамеж беларусоў-студэнтоў у Пецербурзе спачатку адзінокіе людзі пачалі увіхацца, каб выдаваць газэтку. Газэты выдаваць легальна не было змог, дык выпускалі два разы на год **„Калядную“** і **„Велікодную пісанку“**, каторая, хаця спраўдзі не магла здаволіць духоўных патрэб ані грамацзянства, ані маладзежы, але давала, кліч, што жыве Беларусь“, збірала каля сябе людзей, каторые спасобіліся да змаганьня за сваё незалежнае культурнае жыцьцё, будзіла міласьць да роднаго слова, роднаго, загнанаго народу. І калі ў 1905 гаду пазволено было выдаваць газэту, да работы прыступіла адразу грамада сьведомых людзей, каб змагацца за національную будучыну і національную культуру с цьвёрдай верай, што 8-мільённы беларускі народ прачнецца з векавечнаго сну і сам пойдзе за культурнай дабычай, сам збудуе сабе лепшую долю і не як загнаны пасынак, але як роўны і родны брат засядзе калісь у сямьі славянскай.

# Дапіскі да рысункоў

*Стр. 7.* **Гранічны камень княжства Полацкага.** Гэты камень ляжыць у Магілеўскай губэрні памеж мястэчкам Кохановам і Оршай (7 вёрст ад Коханава і 24 варсты ад Оршы каля вёскі Лісьцінова). Камень гэты мае 4 крокі у доўжкі і 3 крокі у шыркі, выстае з зямлі на 3—4 цалі. Напісана на ім: «в лето 6679 (1171) месяца мая в 7 день доспен (устроен) крэст сій. Господі помозі рабу своему Васілію в крэшчэніі іменем Рогволоду сыну Борысову». Полацкі князь Рогволод Барысавіч (хрысціянскае імя яго Васіль) быў князем Полацкім, Слуцкім і Друцкім; памёр у 1223 гаду на 69 гаду жыцьця у гор. Юрьеве (Дорпаце). Другі падобны камень лежаў каля гор. Дзісны у старане Дрыссы (7 вёрст ад Дзісны каля вёскі Асіноўкі).

*Стр. 8.* **Руіны замчышча ў Кокенгаўзэне.** Палудзенная часьць Лівоніі (латышскаго краю) з даўных часоў была ў залежнасьці ад Полацка. Кукейноскі (цяпер Кокенгаўзэн) замак прыналежаў да князя Васіля Рогволодовіча; ў 1208 гаду гэты замак ад полацкаго князя адабралі крыжакі і з гэтаго часу ён быў ужо ў іх руках.

*Стр. 9.* **Руіны замчышча ў Новагрудку.** Новагрудак—адзін з найстарэйшых Крывічанскіх гарадоў. Новагрудзкае княжство ў даўные часы насіло названьне **Чорнай Русі**. Замак, катораго руіны бачым мы на гэтым рысунку, настроены быў у XI сталецьці на грамадным да-гістарычным гарадзішчы. Хто гэты замак будаваў—нет ведама. Пад 1128 годам летапісі успамінаюць аб Новагрудку, як а сталіцы удзельнаго княжства, а пад 1227 успамінаецца удзельны Новагрудзкі князь Ізяслаў. У 1240 гаду татары зруйнавалі горад і замак. Як пішэ летапісь Быхоўца, Новагрудак каля 1235 году быў сталіцай Літоўска-Рускаго гасударства. Мы ўжо ведаем аб тым, якое высокае значэньне меў гэты горад за часоў Міндоўга. Ў 1250 гаду ў Новагрудку хрысьціўся на каталіка князь Міндоўг, а разам і каранаваўся на Літоўскаго караля каронай, каторую прыслаў яму Папеж Іноцэнты III. Калі вялікі князь Гедымін пасяліўся у Троках, а пасьля перавёў вялікокняжэцкую сталіцу ў Вільню, Новагрудак стаў ізноў удзельным княжствам. За часоў Вітоўта Новагрудак лічыўся ешчэ старой сталіцай Літоўска-Рускаго гасударства. Некаторые важнейшые гасударственые акты пісаліся ў гэтай старой сталіцы; так, напрыклад, у 1415 гаду заснаваньне беларускай мітрополії адбылося ў Новагрудку. Кароль Ягайло ў 1432 гаду тут венчаўся і спраўляў вясельле с княжной Соськай Гольшанскай. У 1444 гаду вялікокняжэцкая сталіца была заменена на глаўны воеводзкі горад, да катораго былі далучэны Волкавыск, Слонім і Слуцк. Ў 1448 гаду тут адбыўся сэйм вялікаго княжства Літоўскаго. Горад шмат перанёс ад татарскіх напасьцей, крыжацкіх і маскоўскіх. Масква воладзела Новагрудкам с 1654 да 1660 году. С 1581 да 1775 году тут праз кожные два гады збіраўся трыбунал (глаўны суд у Літоўск. гас.). У 1651 гаду пажар вынішчыў большую часьць горада, і з гэтаго часу Новагрудак страціў даўнае свае значэньне сталічнаго места, сходзячы памалу на ступень малога гарадка. Пасьля прылучэньня Беларусі да Расеі, Новагрудак стаў паветовым горадам Слонімскаго наместніцства, а ў 1797 гаду—Літоўскай губэрні, ў 1801 Гродзенскай і, наканец, у 1842 гаду паветовым горадам Мінскай губэрні.

*Стр. 10.* **Печатка кн. Міндоўга.** Печатка гэта знаходзіцца у прыватных руках і належыць да збороў рэдкасьцей, назначэных у беларускі навуковы музэй. Літэроў, вырэзаных на гэтай печатцы, дагэтуль ніхто ня мог ешчэ прачытаць.

*Стр. 12.* **Руіны Троцкаго замчышча.** Трок ёсць двое: Старые і Новые Трокі. Старые Трокі належаць да найдаўнейшых гарадзішч на Літоўска-Беларускай зямлі. Ужо ў X сталецьці Трокі былі удзельным княжствам. Ў XIV сталецьці крыжакі знішчылі замак у Старых Троках, але сьлед яго відаць ешчэ і цяпер. Цяпер гэта невялічкае мястэчка.

Новые Трокі заложэны Гедымінам. Тут была другая сталіца (пасьля Новагрудка) княжства Літоўска-Рускаго. Трокі лежаць на полувострові, бо с трох старон яго ахапілі вазёры, і толькі з стараны віленскай дарогі вузкі перашыек вядзе ў горад. На берэзі возера Гедымін пабудаваў замак, с катораго захаваліся дзьве башты і частка сьцяны. Есць і ўход у падзямельля. Але слава Трок—гэта развалiны замка (паказаные на гэтым рысунку), каторы быў пабу-

даваны на вострові возера Гальва. Замак займаў увесь востроў—каля 2 дзес. зямлі. Замак быў збудованы ў чыстым готыцкім стылю; сьцены яго надта грубые. Будованы ён пры Кейстуце. Тут жылі: Кейстут, Ольгерд, Вітоўт, Казімір і Александр Ягайловічы. Да поўнай руіны дайшоў замак у 1655 гаду пасьля пажару за панаваньня Яна Казіміра.

*Стр. 13.* **Печаткі кн. Кейстута.**

*Стр. 15.* **Владыслаў-Якоў Ягайло.** Ягайло быў сынам Ольгерда з другой жонкі, Юліяны, княжны Тверской. Пры бацьку Ягайло быў удзельным князем у Вітэбску, а пасьля сьмерці свайго бацькі стаў вялікім князем Літоўскім (1377—1386). У 1386 гаду Ягайло прыняў каталіцтво (дзіцяцей ешчэ ён быў хрышчон павэдлуг усходняго грэцкаго абраду іменем Якоў) і другое імя Владыслаў ды абвенчаўся у Кракове з Ядвігай, каралевай польскай, і там астаўся каралём польскім (1386—1434). Другой жонкай пасьля сьмерці Ядвігі была Софія, княжна Гольшанская.

Тут гожэ будзе сказаць, што Ягайло, будучы каралём польскім, ня умеў зусім гаварыць па польску; гаварыў ён па беларуску. (Гл. аб гэтым: **W. A. Maciejowski**: Pamiętn ki o dziejach, piśmiennictwie i prawodawstwie Słowian, t. I, str. 349 і **Первольфъ**: Славяне... III, ч. II, стр. 161 (выноска).

Рысунак гэты зроблены з абразка, робленаго на шкле; падпісана пад ім: **„Rys. F. Szolomicki 10 Septembra 1849 r. w Olsie“.** Ніжэй вялікшымі літэрамі: **„Vladislaus Jagiełło. Eun.: Ecclesiae et monastery istius Anno Domini 1409“.**

*Стр. 18 і 24.* **Вялікі князь Вітоўт.** Зродны брат Ягайлы, сын Кейстута (Кейстут родны брат Ольгерда). Вітоўт быў вялікім князем з 1392 да 1430 году. (Гл. тэкст).

*Стр. 20.* **Беларуская кроніка (летапісь) аб вялікіх князёх Літоўска-Рускіх.** Як мы ўжо ведаем, мова беларуская была гасударственай мовай у княжстве Літоўскім. На гэтым рысунку адбіта страніца (натуральнай велічыні) „Літоўскай“ кронікі; як бачым, пісана яна кірыліцай па беларуску з наваротам на цэркоўна-славянскую мову, бо тагочасные вучоные лічылі яе прыкрасай і стараліся як мага больш пісаць па вучонаму. Кроніка гэта знаходзіцца ў бібліотэцы Красінскіх у Варшаве (№ 408 (3701) л. 73). Пісана яна ў XVI сталецьці.



*Стр. 22.* На гэтай страніцы адбіты знімак другой Літоўскай кронікі; гэту кроніку пісаў манах Авраамка ў 1495 гаду. Кроніка знаходзіцца ў Віленскай публічнай бібліотэцы (440 б.).

*Стр. 26.* **Страніца з беларускаго псалтыра XVI века.** Псалтыр гэты знаходзіцца ў Маскве ў Румянцэўскім музэі (№ 335).

*Стр. 28.* **Кн. Казімір Ягайловіч**, сын Ягайлы і Софіі, княжны Гольшанскай (другой жонкі). З 1440 да 1447 году быў ён вялікім князем „Літоўскім“, а з 1447 да 1492 году быў разам і каралём польскім. З звычаёў гэтаго князя гожэ прыкмеціць, што ён любіў простую беларускую адзежу, ў якой заўсёды хадзіў.

*Стр. 29.* **Руіны замчышча ў Міры.** Мір пабудаваны на рэчцэ Міронцы. Замак вядомы з XVI сталецьця. Замак вельмі цікавы дзеля сваей готыцкай архітэктуры і грамаднай велічыні. Найдаўнейшые володзецелі замка—Ільлінічы, а пасьля ён перэйшоў да роду Несьвіжскіх Радзівіллоў. У Міры была даўней сталіца цыганскаго караля. Апошнім цыганскім каралём быў Марцінкевіч, дзед беларускаго паэты каторы памёр у 1790 гаду.

*Стр. 35.* **Давідгарадок.** Давідгарадок ляжыць над рэкой Горынью і належыць да вельмі старых сяліб Беларускаго краю. Калісьці ўвесь гэты край быў вельмі людны і багаты і меў шмат гарадоў. Летапісі не ўспамінаюць названьнёў гэтых гарадоў па асобку, але гуртам называюць „погорынскіе гарады“. Есьць сказ, бытцам заложэны ён быў Давідам, князем туроўскім. Ў XVI веку Давідгарадок належаў да Пінскаго княжства.

*Стр. 36.* **Князь Жыгімонт II.** У Польшчы яго называюць першым, але, як князь літоўскі, ён Жыгімонт II,—першы Жыгімонт быў брат Ягайлы. Каралеваў ён з 1506 да 1548 году. Пры гэтым князю і разам каралю польскім шляхта за прыкладам Немеччыны і Польшчы пачала завадзіць у нас паншчыну; сперша налажылі павіннасць рабіць адзін дзень у тыдзень на пана. Раней паншчыны селяне ня зналі і нікому не павінны былі працаваць дарма; мелі яны свае суды, сваіх „старцоў“; у казну плацілі толькі падатак. (Глядзі: **Довнаръ-Запольскій.**—«Очеркі по организаціі Литовскаго государства при Ягеллонахъ»).

*Стр. 40.* **Кн. Жыгімонт-Аўгуст III.** Быў ён каралём з 1548 да 1572 году. На ім і скончыўся род Ягайловічоў.

*Стр. 43.* **Адрывак Літоўскаго статута** 1588 гаду. Статут гэты быў напісаны асобнай камісіей пад кірункам Вялікаго Літоўскаго канцлера Льва Сапегі. Пісаны ён беларускай мовай і выданы ў

1588 гаду. Пасьля яго перэклалі на польскую мову і ешчэ колькі разоў выдавалі. Па высочайшаму загаду ў 1828 гаду Літоўскі старут з беларускаго выданьня 1588 г. перэкладзены і надрукаваны быў у трох мовах: беларускай, польскай і расейскай. Літоўскім статутам упраўляліся ў Беларусі трыста дзесяць гадоў. Замянілі Літоўскі Статут агульна-расейскімі законамі 25 чэрвеня 1840 г.

*Стр. 45.* **Мітрополіт Іосіф Солтан**. Мітрополіт І. Солтан належаў да найлепшых людзей свайго часу, трымаў старану свайго народу і змагаўся за правы сваей цэрквы. Каб падняць вышэй цэркву і духавенство, ён на саборы ў Вільні ў 1509 гаду напісаў правілы духоўнай дысцыпліны. Правілы гэтые выданы Батюшковым (Русская Историческая библіотека Г. IV кн. I.).

*Стр. 47.* **Кароль Стэфан Баторы.** Родам быў ён з Вэнгроў і, хоць быў каралём польскім, але мовы польскай ня знаў і палякоў не любіў. (Гл. Albertrandy.—Henryk Walezynsz i Stefan Batory.—Wilno 1840 г.).

*Стр. 48.* **План гор. Полацка з XVI сталецьця.** Глядзі тэкст.

*Стр. 51.* **Гара Батораго ў Белавежскай пушчы.** Ёсьць у народзе сказ, бытцам гэту гару насыпало войска Батораго шапкамі. Гара невысокая, але шырокая.

*Стр. 53.* Падпісано-Богдан Стэткевіч, чытай: **Грыгоры Ходкевіч.** Грыгоры Ходкевіч быў слаўным ваякам і чэлавекам незвычайнаго розуму. У трудным часе для беларускаго народу ён змагаўся за яго правы і аберэгаў родную мову. Залажыўшы ў сваім дварэ Заблудове друкарню, ён выдаў там Эвангелію на чысто беларускай мове („Учытельное Евангеліе“ ў Заблудове 1569 года).

*Стр 55* Падпісано. Грыгоры Ходкевіч, чытай: **Богдан Стэткевіч.** Род Стэткевічоў слыў у Беларусі прывязаннасьцю да свайго народа і веры. Стэткевічы строілі манастыры, закладалі брацтвы і друкарні,—адным словам, змагаліся, як мага, каб не даць упасьці беларускай грамаце і прасьвеце народа. У сваім дварэ Кутэйне (каля Оршы) Стэткевічы залажылі манастыр і друкарню. С Кутэйнскай друкарні выйшло 17 беларускіх кніг. Друкарня працавала ў Кутэйне ад 1630 да 1654 году. Пасьля была перэведзена ў Маскву.

*Стр. 58.* **Мелетій Смотрыцкі**. Мелетій Смотрыцкі радзіўся ў 1578 гаду. Пачатковых навук вучыўся ён у грэка Лукарыса, каторы быў пазьней Константынопольскім Патрыархам. На вышэйшые навукі паступіў у Віленскую езуіцкую акадэмію. Пасьля вучыўся ў Ліпскім, В ртэмбэрскім і др. заграпічных унівэрсытэтах. Вярнуўшыся на Беларусь, ён задзівіўся загнанасьці свайгс народа і пагалоўнаму рэнэгацтву багатых баярскіх і княжэцкіх беларускіх родоў. А дзеля таго, што ў тые часы вера лічылася прыкметай нацыянальнасьці, ён з вялікім жарам ад імені цэркві ганіў адступнікоў у „Фрыносе“ (Фрынос значыць плач), кніжцэ, друкаванай у 1610 г. ў Вільні. Мелетій Смотрыцкі, будучы высока вучоным, многа працаваў над падняцьцем беларускай асьветы і справы нацыянальнай; ён напісаў і выдаў першую беларускую граматыку, каторую многа разоў перэдруковывалі. Смотрыцкі быў у 1620 гаду выбраны архімандрытам Віленскаго праваслаўнаго Сьвято Духаўскаго манастыра, а пасьля полацкім архіепіскопам. Будучы архіепіскопам, ён горача змагаўся проці каталіцтва і уніі, але, калі узбунтаваны народ забіў у Вітэбску Іозафата Кунцэвіча якобы с прычыны гарачых прамоў Смотрыцкаго, ён у 1623 гаду пакінуў Полацкую архіепіскопію і выехаў у Грэцію, гдзе абдумываў, як злагодзіць сваркі і палажыць канец крыўдам, каторые рабілі сабе сыны аднаго і таго-ж самаго народу. У канцы Смотрыцкі прыйшоў да перэкананьня, што гэта можэ стацца толькі праз унію цэрквей. З гэтым ён вярнуўся ізноў назад і на абарону уніі напісаў дзьве кніжкі „Апологія“ і „Протэст“. Памёр Смотрыцкі уніятам у 1633 гаду.

*Стр. 63.* **Беларуская рукапісная Біблія XVII сталецьця.** Біблія гэта знаходзіцца ў Бібліотэцы Толстога № 158. Апісаньне гэтай Бібліі гл. „Соболевскій. Палеогр. сп. съ рус. рук. XII—XVII века“ СПБ. 1901.

*Стр. 67.* **Богдан Хмельніцкі, гэтман казацкі**. Сын казацкаго сотніка Міхала Хмельніцкаго. Вучыўся у езуітоў, пазьней стаў гэтманам казацкім, але не патрапіў утрымаць незалежнай Украйны і паддаўся пад апеку Масквы. Памёр Хмельніцкі ў 1657 гаду і пахаваны у Суботове. на Украйне.

*Стр. 71.* **Цар Алексей Міхайловіч**. Бацька Петра Першаго. Радзіўся ў 1629 гаду, памёр у 1676 гаду. У 1667 гаду, пасьля вядомых ужо нам воен у Беларусі, Цар Алексей Міхайловіч зрабіў с каралём польскім Янам Собескім у Андрусове згоду, па каторай заходнё-рускую праваслаўную цэркву палякі аддалі пад ўласьць Маскоўскаго Патрыарха. Гэта прынясло надта вялікую шкоду заходняй праваслаўнай цэркві, бо ўсе лепшые яе сілы перэмешчаліся ў Маскву для падняцьця там асьветы і рэлігіі, а ў Беларусь прысылалі староннікоў Масквы, каторые думалі адно толькі аб палітычнай карысьці Маскоўскаго Цара і стараліся шырыць сваркі ды нязгоду, а

аб нац ональнай справе зусім не было каму рупіцца. З гэтаго часу прыкмечаецца шпаркі упадак беларускай літэратуры і культуры.

*Стр. 73.* **Руіны замчышча ў Люцыне.** Замак гэты будаваў магістар (галоўны начальнік) Лівонскіх крыжакоў у пачатках XVI сталецьця. У 1559 гаду гэты замак перайшоў да Польшчы і быў доўгі час гранічнай крэпасьцю з Масквой.

*Стр. 79.* **Беларусы пачаткоў XIX сталецьця.** Рысунак гэты ўзяты з вядомай працы Е. Тышкевіча **„Opisanie powiatu Borysowskiego“. Wilno 1847 г.** С правай стараны адзежа селяніна: доўгі казакін з рэменным паясом; з левай—двое ў адзежы дробнай шляхты.

*Стр. 81.* **Беларусы канца XIX сталецьця.** Як прапала нацыянальная сьведомасьць у народзе, так не магла захавацца і старасьвецкая зграбная яго адзежа; на гэтым рысунку бачым мы селяніна ў безформенай і абдзертай сьвітцы;—якая рожніца, калі мы прыраўнуем опратку канца да опраткі пачаткоў XIX сталецьця.

*Стр. 83.* **Полацк у канцы XIX сталецьця.** На гэтым рысунку мы бачым Полацк са стараны Дзьвіны. Гэта адзін з самых старых беларускіх гарадоў. Мы ўжо ведаем, што Полацк быў вялікокняжэцкай сталіцай Рогволодовічоў. Але ў старых Скандынаўскіх песьнях (сагах) ешчэ да Рогволода успамінаецца Полацк, як багаты і сільны горад, каторым кіраваў свой князь; там-жэ успамінаецца і Полацкі князь Полтэс, каторы павінен быў княжыць каля VI века. Полацк перажыў сваю сілу і славу сталічнаго і торговаго гораду і, як сам народ беларускі, з цялікокняжэцкай сталіцы стаў закінутым гарадком паветовым. Памятнікі даўнаго вялічыя не захаваліся, толькі названьня розных часьцей горада сьведчаць аб слаўнай мінуўшчыне.

*Стр. 87.* **Беларусы канца XIX сталецьця.** На гэтым рысунку паказаны беларусы-селяне з ваколіц Пінска. На Пінскіх недаступных балотах больш захавалася беларускай старасьвеччыны, як у мове так, і ў опратках. Край гэта маркотны, але надта цікавы, бо ешчэ многа мае ў сабе старога, што другімі ваколіцамі даўно ужо забыто.

*Страніцы: 91, 93 і 95.* **В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Богушэвіч і Янка Лучына (Неслухоўскі).** Гл. тэкст.



## ПАСЛЯСЛОЎЕ

### (Вацлаў Ластоўскі (Власт) і яго „Кароткая гісторыя Беларусі")

Перавыданне кнігі Вацлава Ластоўскага „Кароткая гісторыя Беларусі" – унікальная знаходка як для вучоных-даследчыкаў, так і для ўсіх тых, каго і сёння хвалюе гісторыя роднага краю, яго мінулае і будучае. Работа была выдадзена ў 1910 г. у Вільні, друкавалася ў газеце „Наша ніва".

Шмат што змянілася ў жыцці беларусаў за апошні час. Неяк па-іншаму асэнсавана, нікога не баючыся і не азіраючыся, мы сталі глядзець на сваю нацыянальную спадчыну. Атрымалі магчымасць карыстацца закрытымі раней фондамі бібліятэк нават для гісторыкаў-прафесіяналаў. А там, згадзіцеся, можна знайсці мноства рэдкіх бібліяграфічных твораў. Адзін з іх – „Кароткая гісторыя Беларусі" Вацлава Ластоўскага.

У чым вартасць гэтай кнігі? Чаму яна зноў зацікавіла людзей? Перш за ўсё трэба сказаць, што яе аўтар – чалавек з неардынарным і, на жаль, трагічным лёсам. Ён не толькі гісторык, але і пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч, адзін з ініцыятараў беларускага культурнага адраджэння пачатку XX ст. Вацлаў Юсцінавіч да таго ж быў вельмі цікавым і перакананым чалавекам. А ягоны гістарычны твор – „Кароткая гісторыя Беларусі" – гэта першая папулярная гісторыя Беларусі, напісаная беларусам і для беларусаў. Праўда, і раней выходзілі працы па гісторыі нашага краю, але выдавалі іх або рускія, або польскія дваранскія і буржуазныя вучоныя. Яны адпаведна разглядалі Беларусь або як „Северо-Западный край Российской империи", або як правінцыю былой Польскай дзяржавы. Характэрна, што яны адмаўлялі самастойнае існаванне незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якая ў свой час увайшла ў федэратыўную Рэч Паспалітую.

Нават і цяпер пра Вацлава Ластоўскага як гісторыка напісана вельмі мала. Невялікі біяграфічны артыкул быў надрукаваны ў 6-м томе „Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" (с. 267) у 1972 г. Вацлаву Ластоўскаму даецца характарыстыка як „гісторыку і публіцысту, аднаму з ідэолагаў беларускага нацыяналізму". А яго працам, як падкрэслена ў артыкуле, „уласцівы тэндэнцыйнасць і нацыяналістычная інтэрпрэтацыя гістарычных фактаў".

Ён „варожа ставіўся да марксізму, адмаўляў класавую барацьбу і кіруючую ролю пралетарыяту”. Такія абвінавачванні былі ўключаны ў справу Вацлава Ластоўскага падчас яго арышту, а пасля старанна перапісваліся ў даследаваннях нашых навукоўцаў. У гэтым можна пераканацца, калі пачытаць біяграфічны артыкул у 3-м томе „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі” (с. 203), або зводны каталог „Кніга Беларусі 1517–1917”, выдадзеных у 1986 г. Складальнікі апошняга пішуць, што ўлічылі ўсе дарэвалюцыйныя беларускія кнігі, але „Кароткую гісторыю Беларусі” так і не ўспомнілі, каб не назваць імя аўтара.

Ужо ў час перабудовы некалькі абзацаў кнізе „Кароткая гісторыя Беларусі” прысвяціў А. К. Каўка ў артыкуле „Паходня абуджанай памяці”, змешчаным у газеце „Літаратура і мастацтва” 4 снежня 1987 г. (№ 49). Аўтар імкнецца пераадолець ідэалагічныя штампы і клішэ, нагадвае, што русіфікатарскі орган „Окраина России” атакаваў Вацлава Ластоўскага за акцэнтацыю старадаўняга беларускага пісьменства, пакольні, маўляў, ніякай беларускай мовы ў мінулым не было. Нейкі чарнасоценец-крытык патэтычна ўсклікаў: „Тут не найдете портретов ни императора Александра II, ни графа М. Н. Муравьева, ни митрополита Иосифа Семашки”. Сапраўды, замест іх у кнізе змешчаны партрэты Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Янкі Лучыны.

Больш поўна пра Вацлава Ластоўскага напісаў літаратурны крытык А. Сідарэвіч у сваім артыкуле, надрукаваным у часопісе „Нёман” (1988, № 9, с. 156–161). Там прыводзіцца шмат біяграфічных звестак пра гэтага малавядомага для шырокага чытача чалавека.

І ўрэшце апублікаваны біяграфічны нарыс (с. 285–286) пра Вацлава Ластоўскага (Власта) у кнізе Барыса Сачанкі „Сняцца сны аб Беларусі” (1990 г.).

Дык хто ж ён усё-такі гэты Вацлаў Ластоўскі, чыя кніга лічылася шкоднай для нашай маралі і была забароненай?

Вацлаў Юсцінавіч Ластоўскі нарадзіўся 20 кастрычніка 1883 г. у засценку Калеснікі Дзісненскага павету Віленскай губерні (цяпер Міёрскі раён Віцебскай вобласці). Бацькі яго, Юсцін і Ганна, былі дробнымі арандатарамі-земляробамі. Першапачатковую грамату ён атрымаў дома. Скончыў народную школу ў Пагосце (у гэтым жа павеце), дзе дзякуючы сваім здольнасцям набыў пэўныя веды. У 1904–1905 гг., знаходзячыся ў Пецярбурзе, слухаў, як ён сам пазней пісаў, „зайцам” лекцыі ва універсітэце. Потым спрабаваў здаць дзяржаўныя экзамены на атэстат сталасці ў Рызе, але, паводле ягоных слоў, „зрэзаўся па расейскай мове”. Далей ужо ані часу, ані магчымасцей атрымаць адукацыю не было.



Пазней Вацлаў Ластоўскі ўступіў у Польскую сацыялістычную партыю Літвы (ППС), якая арганізавалася ў верасні 1902 г. і дзейнічала ў Літве і Заходняй Беларусі (цэнтрам яе дзейнасці было Гродна). Партыя выдавала пракламацыі і брашуры на польскай, рускай, беларускай і яўрэйскай мовах, патрабавала самастойнасці Літвы і Беларусі з устаноўчым сходам у Вільні, агульным для ўсіх народаў краю. Яна заклікала да рэвалюцыі, звяржэння царызму, устанаўлення рэспубліканска-дэмакратычнага ладу, федэратыўных адносін Літоўска-Беларускай рэспублікі з Расіяй.

У 1906 г. Вацлаў Ластоўскі перайшоў у Беларускую Сацыялістычную Грамаду, у складзе якой быў да 1908 г., паводле ягонага аўтабіяграфічнага ліста. Такім чынам, перад намі барацьбіт, які разам са сваімі аднадумцамі змагаецца за беларускае адраджэнне, нацыянальнае вызваленне і дзяржаўнасць.

У гэты час Вацлаў Ластоўскі актыўна ўключыўся ў грамадскую і культурную дзейснасць. З 1909 да 1914 г. ён працаваў у Вільні сакратарам рэдакцыі „Нашай Нівы”, а ў 1916–1917 гг. рэдактарам газеты „Гоман”, якая выходзіла ў Вільні, акупаванай з верасня 1915 г. нямецкімі войскамі. У студзені 1918 г. пры стварэнні Віленскай Беларускай Рады ўвайшоў у склад яе сяброў. У канцы 1915 г. заняў незалежніцкія пазіцыі. У пачатку 1918 г. стварыў у Вільні арганізацыю „Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі”, якая выпрацавала галоўныя напрамкі стварэння незалежнай Беларусі. У гэтую арганізацыю ўваходзілі ў асноўным прадстаўнікі каталіцкага духавенства, а таксама князь М. М. Святаполк-Мірскі. Праз іх былі ўстаноўлены сувязі з нямецкай каталіцкай партыяй цэнтру. Не цяжка заўважыць, што Вацлаў Ластоўскі выкарыстоўваў усё магчымае, каб дабіцца незалежнасці Беларусі. Рашуча выступаў супраць якіх-небудзь спроб утварыць Беларускую дзяржаву разам з Польшчай ці Літвой. Менавіта таму 18 сакавіка 1918 г. ён разам з іншымі прадстаўнікамі Віленскай Беларускай Рады быў кааптаваны ў склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Мінску. 23 сакавіка 1918 г. прыехаў з Вільні ў Мінск і ўдзельнічаў у пасяджэнні Рады БНР, на якім раніцай 25 сакавіка 1918 г. была прынята трэцяя Устаўная грамата Рады БНР і абвяшчалася незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Знаходзячыся сярод беларускіх сацыялістаў, сяброў Рады БНР, Вацлаў Ластоўскі не падпісаў вядомую тэлеграму ад 25 красавіка 1918 г. на імя германскага імператара Вільгельма II, у якой буржуазныя дзеячы БНР дзякавалі імператару за вызваленне Беларусі ад бальшавікоў. У гэты ж час Вацлаў Ластоўскі не бачыў магчымасці супрацоўніцтва з бальшавіцкім кі-

8. Зак. 5688.

раўніцтвам Заходняй вобласці (з цэнтрам у Смаленску), бо разгон Усебеларускага з'езда ў Мінску ў снежні 1917 г. і рэпрэсіі савецкай улады ў дачыненні да кіраўніцтва з'езда і да дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху толькі ўзмацнілі яго антысавецкі настрой.

У маі 1918 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ), якая ўзнавіла сваю дзейнасць пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. на тэрыторыі цэнтральнай і ўсходняй Беларусі, неакупаванай (да лютага 1918 г.) германскімі войскамі, распалася. У выніку гэтага і вылучаліся Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Беларуская партыя сацыялістаў-федэралістаў і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя. Вацлаў Ластоўскі не спяшаўся далучацца да якога-небудзь з гэтых фарміраванняў.

У лістападзе 1918 г., пасля перагавораў з Тарыбай (Саветам) Літоўскай рэспублікі, шэсць сяброў Віленскай Беларускай Рады, у тым ліку Вацлаў Ластоўскі, былі ўключаны ў склад Тарыбы (часовага парламента Літвы). Ва ўмовах паражэння Германіі ў першай сусветнай вайне і эвакуацыі яе войск з Беларусі некаторыя прадстаўнікі Рады БНР пайшлі на супрацоўніцтва з Літвой пры ўмове аўтаноміі часткі заходнебеларускіх зямель у складзе Літоўскай рэспублікі (Віленскага, Гродзенскага, Троцкага, Ашмянскага, Лідскага і Свенцянскага паветаў). Аднак у красавіку 1919 г. Вільня і ўсе гэтыя раёны былі заняты польскімі войскамі.

Вацлаў Ластоўскі непрыхільна адносіўся да стварэння 1 студзеня 1919 г. Беларускай ССР, а праз два месяцы – Беларуска-Літоўскай ССР, бо на тэрыторыі гэтых рэспублік не было ні беларускіх школ, ні беларускага друку. Да таго ж неўзабаве пасля абвяшчэння Беларускай ССР Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні адным росчыркам пяра адышлі да РСФСР.

Вясной 1919 г. Вацлаў Ластоўскі уступіў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў і заняў у ёй лідзіруючае становішча, бо быў уключаны ў склад яе цэнтральнага камітэта.

Ад пачатку акупацыі тэрыторыі цэнтральнай часткі Беларусі польскімі войскамі ў жніўні 1919 г. Вацлаў Ластоўскі прыняў праграму федэрацыі Беларусі з Польшчай. Але хутка, пад уплывам акупацыйнай палітыкі польскай улады, ён рэзка змяніў свае погляды і перайшоў у крайнюю апазіцыю. Заклікаў да ўсенароднага паўстання супраць польскіх акупантаў, што хутка і паслужыла зачэпкай да яго арышту польскімі ўладамі ў Мінску. Разам з ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў выступаў супраць беларуска-польскага супрацоўніцтва. Па-ранейшаму займаў незалежніцкую пазіцыю, быў прыхільнікам беларуска-літоўскага саюза, скіраванага ў першую чаргу супраць Польшчы.



Партыя беларускіх эсэраў у 1919–1920 гг. вяла барацьбу супраць польскіх акупантаў, ствараючы партызанскія атрады, – сялянскія дружыны, якія дзейнічалі побач з атрадамі чырвоных партызан. Восенню 1919 г. у Смаленску было падпісана пагадненне аб сумеснай барацьбе супраць польскіх войск. Канферэнцыя прыняла рашэнне падтрымліваць сувязь з рэўваенсаветам Заходняга фронту. Пасля гэтага ў Мінску адбылася нелегальная канферэнцыя партыі беларускіх эсэраў, у якой удзельнічалі 29 дэлегатаў і адзін прадстаўнік камуністычнай партыі. Сярод дэлегатаў быў Вацлаў Ластоўскі. Канферэнцыя даручыла яму і А. Цвікевічу падрыхтаваць склад новага савета міністраў, каб эсэры ўзначалілі ўрад БНР. Канферэнцыя прыняла таксама рашэнне ліквідаваць Раду БНР і стварыць новую, дэлегаваўшы ў склад Рады БНР 50 чалавек ад партый беларускіх эсэраў і сацыялістаў-федэралістаў.

Падзеі развіваліся вельмі хутка. Частка членаў Рады БНР, якая ставілася варожа да федэрацыі Беларусі з Польшчай Пілсудскага (падчас савецка-польскай вайны), стварыла Народную Раду БНР з 50 сяброў у Юбілейным доме (цяпер – Дом мастацтваў). Гэта былі беларускія эсэры і сацыялісты-федэралісты на чале з Вацлавам Ластоўскім. Прыхільнікі федэрацыі з Польшчай стварылі Найвышэйшую раду БНР з 37 сяброў на чале з А. Луцкевічам.

Народная Рада БНР пацвердзіла Устаўную грамату ад 25 сакавіка 1918 г. аб абвяшчэнні незалежнасці Беларусі, выразіла недавер польскаму ўраду, заявіла пратэст супраць польскай акупацыі і абрала новы прэзідыум. 14 снежня быў створаны новы савет народных міністраў на чале з прэм'ер-міністрам Вацлавам Ластоўскім. У склад урада ўвайшлі Т. Грыб, А. Цвікевіч, Л. Заяц, К. Душэўскі і іншыя, былі адкрыты дыпламатычныя прадстаўніцтвы БНР у Берліне, Празе і Канстанцінопалі.

Польскія ўлады ў Мінску падтрымлівалі альтэрнатыўны савет міністраў на чале з беларускім сацыял-дэмакратам А. Луцкевічам і Найвышэйшую раду БНР. 17 снежня 1919 г. частка міністраў урада Вацлава Ластоўскага, у тым ліку і ён сам, былі арыштаваны і кінуты ў мінскую турму „за правядзенне нелегальнага сходу". Польскія акупацыйныя ўлады выдалі распараджэнне аб роспуску Народнай Рады БНР „за ўзурпаванне не належачых ёй паўнамоцтваў". Паўтара месяцы прасядзеў Вацлаў Ластоўскі ў турме разам са сваімі міністрамі. Затым ім было дазволена пераехаць у сталіцу Літоўскай рэспублікі Каўнас, дзе ўрад і Народная Рада БНР аднавілі сваю дзейнасць. Вацлава Юсцінавіча трымалі ў турме больш за ўсіх. Толькі вясной 1920 г. ён накіраваўся ў Рыгу, але пасля дыпламатычнага дэмаршу польскага ўрада быў выдалены з тэрыторыі Латвіі і пераехаў у Каўнас, дзе яго чакалі міністры ўрада.

З гэтага часу Вацлаў Ластоўскі знаходзіцца ў Каўнасе, вядзе палітычную, грамадскую і навуковую дзейнасць, робіць усё неабходнае, каб дабіцца незалежнасці дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Яго ўрад прызнаецца краінамі Антанты, атрымлівае ад іх матэрыяльную і вайсковую дапамогу. Але найбольш цеснымі былі, безумоўна, адносіны паміж урадамі БНР і Літоўскай Рэспублікі. Праўда, палітыка ў дачыненні да Польшчы заставалася варожай, а адносіны да Савецкай Расіі – больш асцярожнымі.

12 ліпеня 1920 г. Літвою быў падпісаны мірны дагавор з Савецкай Расіяй, паводле якога граніца праходзіла па Нёману, а потым на поўнач, на ўсход ад возера Нарач, і да Друі. У склад Літоўскай рэспублікі ўваходзіла тэрыторыя з гарадамі Вільня, Гродна, Ліда, Паставы і Браслаў. Дзяржаўная мяжа праходзіла ля Валожына і Маладзечна. Тэрытарыяльныя ўступкі былі зроблены ўрадам РСФСР, каб уся літоўская армія (дзве дывізіі) разам з Чырвонай Арміяй вяла вайну супраць Польшчы. Дарэчы, гэтая тэрыторыя лічылася ўрадам РСФСР расійскай, бо Літоўска-Беларуская ССР ліквідавалася яшчэ ў жніўні 1919 г.

Ад імя Народнай Рады БНР Вацлаў Ластоўскі быў вымушаны пацвердзіць права Літвы на заходнія раёны Беларусі. Такая пазіцыя выклікала абурэнне ў А. Луцкевіча і беларускіх сацыял-дэмакратаў. У адным са сваіх лістоў А. Луцкевіч назваў Вацлава Ластоўскага бандытам, а літоўцаў – ворагамі.

Пасля падпісання 12 кастрычніка 1920 г. у Рызе перамір'я паміж РСФСР і УССР, з аднаго боку, і Польшчай – з другога, польскія войскі (у лістападзе 1920 г.) захапілі Вільню, якая, паводле савецка-літоўскага дагавора, належала Літве. Узнік польска-літоўскі канфлікт. У адказ на гэта літоўскі ўрад узмацніў адносіны з урадам Беларускай Народнай Рэспублікі.

11 лістапада 1920 г. была падпісана ўмова паміж дэлегацыямі ўрадаў Вацлава Ластоўскага і Літвы аб узаемнай дапамозе. Літва і БНР прызнавалі незалежнасць гэтых рэспублік і правамоцнасць абодвух урадаў. Тэрытарыяльныя спрэчкі адкладваліся да склікання беларускага ўстаноўчага сойма. Дзяржаўную мяжу паміж Літвой і Беларуссю павінны былі ўстанавіць іх соймы або назначаныя імі ўрады. У мясцовасцях Літвы з пераважна беларускім насельніцтвам прапаноўвалася ўстанаўленне беларускай нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі. Урад БНР абяцаў сфарміраваць вайсковыя часці беларускага нацыянальнага войска на тэрыторыі Літвы і дазволіў літоўскаму ўраду выкарыстоўваць іх для абароны Літвы ад Польшчы. Ад імя



ўрада БНР гэтае пагадненне падпісала дэлегацыя на чале з Вацлавам Ластоўскім.

Партыя беларускіх эсэраў, а таксама Вацлаў Юсцінавіч, занялі рашучую пазіцыю ў пытанні аб незалежнасці Беларусі. Яны пратэставалі супраць падзелу тэрыторыі Беларусі нават без удзелу саміх прадстаўнікоў рэспублікі, рыхтавалі паўстанне ў абедзвюх частках Беларусі – у заходняй і ўсходняй яе частках. Пасля арышту актывістаў легальнай партыі беларускіх эсэраў у БССР у пачатку 1921 г. апорай беларускіх эсэраў сталі члены ЦК партыі, што знаходзіліся ў Заходняй Беларусі, і Народная Рада БНР з урадам Вацлава Ластоўскага ў Каўнасе. Яны арганізоўвалі паўстанцкія сілы ў Заходняй Беларусі.

Для кансалідацыі беларускіх партый у эміграцыі па ініцыятыве Вацлава Юсцінавіча ў чэрвені 1921 г. у Бруселі адбылася нарада, але без сацыял-дэмакратаў. Аднак ужо ў верасні 1921 г. у Празе адбылася нацыянальна-палітычная нарада, якую назвалі I Усебеларускай канферэнцыяй. Яна была склікана па ініцыятыве Вацлава Ластоўскага. Там панавала антыпольская атмасфера, бо большасць удзельнікаў належалі да эсэраў і сацыялістаў-федэралістаў.

Адпаведнымі былі і рэзалюцыі, прынятыя на гэтай канферэнцыі. Урад Вацлава Ластоўскага дапамагаў беларускім партызанам у Заходняй Беларусі ў іх барацьбе супраць Польшчы.

У гэты ж час адбываецца збліжэнне ўрада Вацлава Ластоўскага і партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў з уладаю Савецкай Беларусі. Гэта тлумачыцца тым, што ў рэспубліцы пачала праводзіцца палітыка беларусізацыі, развіцця нацыянальнай культуры, і перш за ўсё беларускай нацыянальнай культуры. Да таго ж беларускія левыя, сацыялістычныя партыі ў Заходняй Беларусі і ў Літве занялі варожыя пазіцыі ў адносінах да польскіх улад у Заходняй Беларусі, дзе дэмакратычнае, нацыянальнае і культурнае развіццё беларусаў некалькі абмяжоўвалася. Сярод беларускіх сацыялістычных партый у Заходняй Беларусі і сярод часткі беларускай інтэлігенцыі Савецкай Беларусі пашырылася ідэя так званай мангалізацыі рэспублікі, г. зн. утварэння (з Савецкай і Заходняй Беларусі) адзінай дзяржавы – Беларускай Народнай Рэспублікі накшталт Мангольскай Народнай Рэспублікі. У гэтай дзяржаве прадугледжвалася увядзенне шматпартыйнасці, кааліцыйнага ўрада ўсіх сацыялістычных партый з КПБ уключна. БНР тады ствярала буфер паміж варожай Польшчай і прыхільнай РСФСР.

У сакавіку 1923 г. у Мінску вяліся перагаворы паміж прадстаўнікамі

беларускіх сацыялістычных партый, што ўваходзілі ў склад урада Вацлава Ластоўскага, і ўрадам Савецкай Беларусі. 17 сакавіка 1923 г. было падпісана пагадненне, у якім праводзілася свая агульная палітыка ў адносінах да Польшчы і Літвы. Было вырашана часова спыніць узброеныя акцыі супраць польскіх войскаў і жандармерыі, рыхтавацца да ўзброенага паўстання ў Заходняй Беларусі падчас наступнай савецка-польскай вайны. Было таксама рэкамендавана, каб Вацлаў Ластоўскі пакінуў пасаду старшыні савета міністраў БНР „як непапулярны ў дыпламатычных сферах Заходняй Еўропы". Прапанавалася перавесці яго на такую пасаду, якая дазваляла б захоўваць добрыя адносіны з Літвой, бо ён карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод літоўскіх дзяржаўных дзеячаў. З боку ўрада Беларусі пагадненне падпісалі З. Жылуновіч і У. Ігнатоўскі.

У выніку гэтага пагаднення ўрад Вацлава Ластоўскага пайшоў у адстаўку, а 23 жніўня 1923 г. быў створаны новы ўрад БНР на чале з А. Цвікевічам, 2 лістапада Рада і ўрад БНР пераехалі ў сталіцу Чэхаславакіі – Прагу. У 1923 г. у Беларусі была абвешчана амністыя для кіраўнікоў і сяброў партыі беларускіх эсэраў.

Вацлаў Ластоўскі застаўся ў Каўнасе, дзе ўзначальваў беларускі рух у Літве. Займаўся там навуковай работай, працягваў літаратурную і выдавецкую дзейнасць. Быў рэдактарам часопіса „Крывіч", які выходзіў у Каўнасе ў 1923–1927 гг. Тут ён выдаў „Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" (1924), вельмі каштоўную з навуковага пункту гледжання „Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі" (1926), шмат іншых прац.

Разам з дзеячамі беларускай навуковай і палітычнай эміграцыі яго запрашалі ў Мінск на Акадэмічную канферэнцыю па пытаннях мовы. Ён пераканаўся, што інтэнсіўна развіваецца беларуская нацыянальная культура, адраджаецца эканоміка Беларусі. Вялікае ўражанне зрабіла і тое, што пашыраецца сетка навучальных устаноў з выкладаннем на беларускай мове, разгортваюцца і мацнеюць выдавецтвы. Урэшце, у гэты ж час праводзілася ўзбуйненне тэрыторыі БССР. У 1924 г. да яе былі далучаны тэрыторыі Віцебскай і часткі Гомельскай, а таксама Смаленскай губерняў, крыху пазней – Гомельскага і Рэчыцкага паветаў.

У часопісе „Крывіч" (1927 г., № 12) Вацлаў Ластоўскі пісаў аб сваіх уражаннях ад паездкі ў Савецкую Беларусь: „Адроджаны беларускі народ штораз больш выказуе волі да народнай еднасці ў сваёй уласнай дзяржаве. І хоць яшчэ многа можна пажадаць, што да абойму дзяржаўных правоў сучаснай Радзянскай Беларусі, у якой задалёка пасунута Сувязная цэнтралізацыя, залішне вялікая пасляваенная руіна, засвежа яшчэ ўплыў русіфікацыі, але ў даны гістарычны момант шансы аб'яднання беларускіх зямель на старане Радзянскай Беларусі. Пагромамі беларускага руху, праследваннямі і здзекамі Варшава не можа адвярнуць вачэй заходніх беларусаў ад Менска, каторы мае ўжо асновы для незалежнага народна-дзяржаўнага жыцця, мае свабоду і матэрыяльныя засабы развіваць сваю культуру на сваёй уласнай астоі..."



Вацлаў Ластоўскі прызнаў Савецкую ўладу, адмовіўся ад сваіх ранейшых поглядаў, атрымаў права вярнуцца ў Беларусь і стаць грамадзянінам СССР. У 1927 г. ён пераехаў у Мінск і працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. Пазней у Інстытуце беларускай культуры. У 1928 г. зацверджаны ўрадам БССР сапраўдным членам Беларускай Акадэміі навук і яе неадменным сакратаром. Падчас першай хвалі рэпрэсій супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, у 1930 г., ён разам з іншымі вучонымі і пісьменнікамі быў арыштаваны і без суда высланы за межы рэспублікі. У 1938 г. пасля паўторнага арышту яго расстралялі як „ворага народу". У чэрвені 1988 г. крымінальная справа ў адносінах Вацлава Юсцінавіча Ластоўскага была спынена з-за адсутнасці складу злачынства.

Разглядаючы змест кнігі Вацлава Ластоўскага „Кароткая гісторыя Беларусі", трэба адзначыць, што падыходзіць да яе з меркамі і патрабаваннямі сённяшняга дня нельга. Пішучы гэтую кнігу, аўтар не ведаў і не мог ведаць, на якія рубяжы выйдзе сучасная гістарычная навука, што ў ёй будзе добрага, а што дрэннага. Трэба разглядаць змест ягонай „Кароткай гісторыі Беларусі" такім, якім ён быў апублікаваны ў свой час 27-гадовым аўтарам.

Адзначым толькі, што Вацлаў Ластоўскі спецыяльных гістарычных даследаванняў не праводзіў. Кніга па-свойму кампілятыўная, заснаваная на тагачасных працах рускіх, польскіх і ўкраінскіх гісторыкаў, пра што, дарэчы, кажа ў прадмове сам аўтар. Асобныя кнігі і гістарычныя крыніцы, якімі карыстаўся Вацлаў Ластоўскі, згаданы ў невялікім спісе матэрыялаў (18 прац) і допісах да малюнкаў. Характэрна, што ён меў цесныя сувязі з беларускімі этнографамі, фалькларыстамі і пісьменнікамі. Адным словам, Вацлаў Ластоўскі, як ужо адзначалася, быў першым беларускім гісторыкам, пішучым пра Беларусь і для беларусаў. Так што гэтая дэфініцыя з'яўляецца пахвалой яму, а не дакорам.

Новым у працы Вацлава Ластоўскага было тое, што ён паказаў народ не толькі як аб'ект гісторыі, залежны ад волі суседзяў, але і як суб'ект – творцу свайго лёсу.

Аўтар заўважыў, што тысячагадовая нацыянальная спадчына беларусаў хаваецца за нерасшыфраванымі тады яшчэ тэрмінамі „рускі” і „літоўскі”, што ўводзіла ў зман людзей недасведчаных, а часам і гісторыкаў. Гэтая тэрміналагічная заблытанасць часта выкарыстоўвалася свядома, у тым ліку і ў беларускай гістарыяграфіі, пачынаючы з канца 30-х гг., каб прынізіць нацыянальную гісторыю.

„Кароткая гісторыя Беларусі” падзяляецца на пяць частак:

- ад першых часоў да ўцёку полацкіх князёў у Літву (1129 г.);
- ад звароту іх (1132 г.) да смерці Вітаўта (1430 г.);
- ад смерці Вітаўта да Люблінскай уніі (1569 г.);
- ад Люблінскай уніі да падзелаў Рэчы Паспалітай;
- Беларусь пад Расіяй.

Такая перыядызацыя базіруецца на агульнадзяржаўным падыходзе да гісторыі, які быў пашыраны ў другой палавіне XIX – пачатку XX стст., сярод рускіх гісторыкаў. Што і казаць, такая канцэпцыя захавалася нават і цяпер.

Кніга Вацлава Ластоўскага разлічана перш за ўсё на азнаямленне беларусаў, і асабліва маладых людзей, з багатай гісторыяй іх роднага краю. У ёй няма, ды й не магло быць, шырокага і сістэматычнага паказу падзей і іх ацэнкі. Менавіта таму мінулае Беларусі паказана галоўным чынам як гісторыя княжанняў, войнаў і палітычных падзей, з дадаткам звестак па гісторыі культуры.

Першая частка кнігі (да 30-х гг. XII ст.) пачынаецца з апісання славянскіх плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, якія зліліся ў адзін беларускі народ. Дарэчы, сучасны беларускі археолаг Г. В. Штыхаў і іншыя таксама адносяць утварэнне беларускай народнасці да больш ранняга перыяду. Праўда, адзін раз аўтар нагадвае сярод гэтых плямён і ятвягаў, але гісторыкі лічаць іх плямёнамі не славянскага, а балцкага паходжання. Шмат увагі Вацлаў Ластоўскі ўдзяляе гісторыі старадаўняга княства на Беларусі – Полацкага. Трохі блытаецца ў генеалогіі старажытнарускіх князёў, гаворачы, што тураўскія, пінскія і гарадзецкія ніякага сваяцтва з кіеўскім князем Уладзімірам (Краснае Сонейка) не мелі, таксама як і полацкія Ізяславічы, быццам бы былі чужымі для кіеўскіх Яраславічаў. На справе Ізяслаў, полацкі князь, і Яраслаў Мудры, кіеўскі князь, з'яўляліся сынамі Уладзіміра Святаслававіча (Краснае Сонейка) і Рагнеды. Так што яны былі бліжэйшымі сваякамі кіеўскіх.

Гісторык бадай упершыню расказаў пра полацкіх князёў і іх палітыку.



Пачэснае месца тут адведзена Усяславу Чарадзею. Аўтар кнігі знаёміць сваіх чытачоў з гэтым князем, а таксама са „Словам аб паходзе Ігаравым”, дзе так рамантычна гаворыцца пра полацкага Усяслава. Звяртаецца ўвага на тое, што на захадзе беларусы жылі ўперамешку з літоўцамі (ліцвінамі), на тэрыторыі сучаснай аўтару Віленскай губерні.

У другой частцы кнігі расказваецца пра гісторыю Полацкага княства, адзначаецца палітычнае жыццё гэтай феадальнай дзяржавы са сталіцаю ў Навагародку (Навагрудку). Яе аўтар называе Літоўска-Рускім (або ўжо, як ён лічыць, Літоўска-Крывічанскім) княствам. Памыляецца гісторык, калі лічыць, што літоўскія князі, у тым ліку Міндоўг, належалі да роду полацкіх Рурыкавічаў, бо тым самым падтрымлівае легенду, якая з XVIII ст. пашыралася сярод многіх рускіх гісторыкаў. Пра гэта, дарэчы, пісала ў адной з сваіх кампілятыўных прац Кацярына II, каб апраўдаць прэтэнзіі рускага царызму на літоўскую тэрыторыю.

Далейшыя палітычныя падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім і Рускім, як яно афіцыйна называлася ў XIII–XV стст. (толькі ў 1454 г. было дададзена – і Жамойцкім), апісваюцца паводле агульнай тагачаснай гістарыяграфіі. Аднак факты аналізуюцца з пункту гледжання гісторыі Беларусі. Згадваецца, што вялікі князь літоўскі Ягайла ў маленстве быў ахрышчаны ў царкве пад імем Якаў.

У допісе да партрэта Уладзіслава (Якава) Ягайлы Вацлаў Ластоўскі заўважыў, што Ягайла, ужо калі быў каралём Польшчы, зусім не ўмеў гаварыць па-польску, размаўляў толькі па-беларуску. Сапраўды, нават яшчэ польскія гісторыкі XVIII ст. пісалі, маўляў, Ягайла гаварыў на беларускай мове, як і яго сын Казімір Ягелончык. Добра ведалі родную мову і сыны Казіміра. Па-беларуску гаварылі да XVI ст. і іншыя князі з роду Гедыміна, не толькі беларускія, але і літоўскія і жамойцкія, а таксама баяры – Радзівілы, Гаштольды, Гедройцы, Монвіды, Кезгайлы і г. д. Аднак з пачатку XVI ст. у асяроддзе арыстакратыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы паступова ўваходзіць польская мова, а ў XVII ст. яна распаўсюджваецца на больш шырокія колы беларускай і літоўскай шляхты. Дробная, бедная шляхта так і засталася беларускамоўнай аж да самага XX ст., як засведчыў гэта Янка Купала ў сваёй „Паўлінцы”.

Значнае месца адводзіцца гістарычным падзеям у трэцяй частцы кнігі (XV–XVI стст.). Фактычна гэта апавяданне пра перыяды княжання вялікіх князёў літоўскіх і рускіх з дынастыі Ягелонаў, нашчадкаў Ягайлы, якія (за невялікім выключэннем) былі адначасова і польскімі каралямі. Увесь

раздзел – гэта гісторыя войн Беларуска-Літоўскай дзяржавы, галоўным чынам з Маскоўскай дзяржавай, якая набывала з цягам часу ўсё большую моц. Упершыню ў гістарычнай літаратуры даволі поўна паказаны войны паміж Маскоўскім вялікім княствам і Вялікім княствам Літоўскім і Рускім за Беларусь. Нагадваюцца бітвы гэтых войн, называюцца палкаводцы. Тут жа расказваецца пра рэлігійныя адносіны на Беларусі, рознагалоссі паміж праваслаўнымі і католікамі.

Значнае месца адведзена Люблінскай уніі 1569 г., якую Вацлаў Ластоўскі ў духу рускіх дваранскіх і буржуазных гісторыкаў XIX – пачатку XX стст. лічыць капітуляцыяй Літоўска-Беларускай дзяржавы перад Польшчай, не зважаючы на палажэнні ўсіх трох Статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і асабліва 1588 г., якія былі зацверджаны ўжо пасля Люблінскай уніі. Паводле гэтых палажэнняў польская шляхта і нават кароль не мелі права купляць, атрымоўваць у падарунак (або якім-небудзь іншым чынам) землі, пасады, маёнткі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і Рускага. Таму на Беларусь і Літву прытока перасяленцаў з польскай шляхты ў XVI–XVIII стст. не было.

Асобна трэба адзначыць, што Вацлаў Ластоўскі ўпершыню ў гістарычнай літаратуры прывёў правільную паслядоўнасць (нумерацыю) вялікіх князёў літоўскіх – Жыгімонта I (Кейстутавіча) (з 1432 да 1440 гг.), Жыгімонта II (Старога) (з 1506 да 1548 гг.), Жыгімонта III (Аўгуста) (з 1548 да 1572 гг.) і Жыгімонта IV (Вазы) (з 1587 да 1632 гг.).

Чаму гэта важна? Таму што ў польскай (а ўслед за ёй) і рускай гістарычнай літаратуры XIX і XX ст. перыядызацыя іх значыцца як польскіх каралёў, за выключэннем Жыгімонта Кейстутавіча (толькі ён быў вялікім князем літоўскім і рускім), г. зн. Жыгімонт I, II, III. На жаль, такое тлумачэнне даецца і ў савецкай гістарычнай літаратуры. Вацлаў Ластоўскі падкрэслівае самастойнасць і асобнасць Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў той перыяд. Пакуль што толькі асобныя беларускія гісторыкі прытрымліваюцца такой думкі (А. Грыцкевіч, А. Сідарэвіч).

Амаль палову кнігі па зместу займае чацвёртая частка, якая ўключае гісторыю Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай (ад 1569 г. да канца XVIII ст.). Сапраўды, гэта важны перыяд. Тут зноў-такі шмат палітычных падзей, удзяляецца ўвага рэлігійнай гісторыі і культуры Беларусі XVI–XVIII стст. Вацлаў Ластоўскі знаёміць нас з дзейнасцю Францыска Скарыны, палемічным дакументам-прамовай смаленскага каштэляна Мялешкі ў сойме 1589 г., характэрным для таго часу пратэстам беларускай шляхты супраць польскай гегемоніі.



Вайна за Лівонію (1558–1582 гг.) паміж Вялікім княствам Літоўскім і Рускай дзяржавай падаецца ў кнізе некалькі разоў. Каротка сказана пра ваенныя падзеі 60-х гг. на тэрыторыі Беларусі і захоп войскам цара Івана IV (Жахлівага) Полацка ў 1563 г., упамінаецца аб падпісанні мірнага дагавору ў 1569 г. На справе Лівонская вайна не спынілася, проста Іван Жахлівы вымушаны быў пайсці на перамір'е. Далей Вацлаў Ластоўскі гаворыць пра вынікі ваенных дзеянняў і панаванне Івана IV на Полацкай зямлі: на 50 вёрст вакол Полацка край выглядаў, як лясная пустыня. Гэта адпавядае тым фактам, якія прыводзілі рускія гісторыкі М. М. Карамзін і С. М. Салаўёў.

Шмат увагі аўтар кнігі ўдзяляе барацьбе казакоў, беларускіх сялян і мяшчан супраць мясцовай шляхты і магнатаў. Уважліва разглядаюцца ваенныя падзеі 1654–1667 гг. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай (якія, дарэчы, у гістарычнай літаратуры, нават і сучаснай, няправільна называюцца руска-польскай вайной. На справе ваявала перш за ўсё літоўскае войска). Вельмі цікава апісана спроба Януша Радзівіла (кальвініста, а не католіка) аддзяліць у 1655 г. Вялікае княства Літоўскае ад Польшчы, скасаваць Люблінскую унію і ўтварыць федэрацыю Літоўска-Беларускай дзяржавы са шведскім каралеўствам. Аднак гэтая спроба не ўдалася.

Гісторык не абышоў увагай і народны рух на Беларусі падчас паўстання Багдана Хмяльніцкага на Украіне з пункту гледжання сялян і гараджан свайго краю. Трапна апісаны ваенныя дзеянні войск цара Аляксея Міхайлавіча на тэрыторыі Беларусі. Каменціруючы ўзяцце Смаленска, ён прыводзіць ліст да смаленскага ваяводы Абуховіча, які здаў горад цару (XVII ст.), паказвае супярэчнасці паміж царскай адміністрацыяй і мясцовым насельніцтвам, у тым ліку і рэлігійныя.

Аднак там, дзе гаворка ідзе пра палітычныя падзеі, Вацлаў Ластоўскі крыху памыляецца, бо цар Аляксей Міхайлавіч заключыў у 1656 г. мір не з Польшчай, а з Рэччу Паспалітай, тым больш, што гэта было толькі часовае спыненне ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі і Літвы, яно было патрэбна рускаму цару для пераносу вайны ў Прыбалтыку, каб заваяваць яе.

Праводзіцца думка, што беларусы, як і ўкраінскія казакі, спачатку добраахвотна „хінуліся да Масквы, цяпер, падобна ўкраінскім казакам, стараліся выбіцца з-пад яе ўлады. Нават абаронцы праваслаўя хутка астылі..."

Гаворачы пра Слуцкую шляхецкую канфедэрацыю, аўтар кнігі адзначае, што гэта быў саюз дысідэнцкай (г. зн. некаталіцкай) шляхты – кальвіністаў і лютэран, да якіх далучылася і праваслаўная шляхта. Кацярына II рабіла ўсё магчымае для таго, „каб у Польшчы была завіруха". Аднак палітыка суседніх дзяржаў – Расіі, Прусіі і Аўстрыі, якія на працягу XVIII ст.

пастаянна ўмешваліся ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, у кнізе не паказана.

Апошняя пятая частка кнігі „Беларусь пад Расеяй” невялікая. У ёй канспектыўна, дарэчы павярхоўна, пераказваецца гісторыя Беларусі ў XIX і на пачатку XX ст., да 1905 г. Але і тут Вацлаў Ластоўскі засяродзіўся на палітыцы русіфікацыі, якую праводзіў царскі ўрад у Беларусі. Маецца на ўвазе перавод уніятаў у праваслаўе і скасаванне асобных юрыдычных нормаў і правоў краю. Русіфікацыя, якую актыўна праводзілі на Беларусі царскія чыноўнікі, патрэбна была ўраду не для нацыянальнай еднасці, яна прадстаўляла сабой „казённы намер да аднаформеннасці, які не можа дапусціць, каб побач жыло нешта... самабытнае”. Дарэчы, гэта адносіцца і да палітыкі цэнтра па русіфікацыі Беларусі і ў XX ст.

Амаль нічога не сказаў Вацлаў Ластоўскі пра паўстанне 1863 г. Ён нават не ўспомніў Вікенція Канстанціна Каліноўскага. Хутчэй за ўсё ў той час, калі Вацлаў Ластоўскі пісаў сваю гісторыю, не хапала канкрэтных дакументаў, гістарычнай літаратуры, прысвечанай гэтай вялікай падзеі. Цяжка сказаць, чаму такое важнае пытанне аўтар фактычна абышоў.

У кнізе ёсць фатаграфіі выдатных дзеячаў беларускага адраджэння: В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Янкі Лучыны. У гэтай адносна невялікай кнізе змешчана 40 ілюстрацый, партрэтаў і фатаграфій.

Сярод малюнкаў ёсць узоры старабеларускага пісьменства, якія аўтар прывёў у кнізе спецыяльна, каб пазнаёміць з імі чытачоў. Прыведзены партрэты гістарычных асоб, узятыя з выданняў або з карцінных галерэй. У кнізе змешчаны і два партрэты царкоўных дзеячаў – праваслаўнага кіеўскага мітрапаліта Іосіфа Солтана (памёр у 1522 г.), полацкага праваслаўнага архіепіскапа Мялеція Сматрыцкага (1572–1630 гг.). Солтан быў галавой праваслаўнай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім з рэзідэнцыямі ў Вільні і Навагрудку (кіеўскі мітрапаліт – гэта тытул). Адзенне абодвух іерархаў праваслаўнай царквы аздоблена бела-чырвона-белымі стужкамі. Гэтыя колеры на царкоўным адзенні праваслаўных і уніяцкіх мітрапалітаў, архіепіскапаў і епіскапаў азначаюць іх пасланніцтва, увасабляемае ў сімволіцы крыві Ісуса Хрыста на чыстай душы чалавека. Бела-чырвона-белыя стужкі носяць і цяпер іерархі праваслаўнай царквы. Гэтыя колеры ёсць і на партрэтах царкоўных іерархаў у мастацкім музеі ў Вільнюсе. Яны супадаюць з гістарычнымі колерамі беларускага нацыянальнага адзення, а таксама з колерамі баявых сцягоў беларуска-літоўскага войска ў XVI–XVIII стст., і Беларускага гусарскага палка ў рускай арміі ў канцы XVIII – пачатку XIX ст., і з дзяржаўным беларускім сцягам.



Як ужо гаварылася, „Кароткая гісторыя Беларусі” на працягу дзесяцігоддзяў была схавана ад чытачоў і ніякіх згадак пра яе не было. Што не кажыце, але яна ўзрушыла беларусаў своеасаблівым пратэстам супраць палітыкі царызму ў нацыянальным пытанні, і перш за ўсё царскай палітыкі ў Беларусі, сваім выступленнем супраць нацыянальнага нігілізму. Яна натхняла дэмакратычныя нацыянальнавызваленчыя сілы, паказваючы багатае гістарычнае мінулае беларускага народа, якому ёсць чым ганарыцца.

Прайшло больш чым восемдзесят гадоў з таго часу, калі была апублікавана кніга Вацлава Юсцінавіча Ластоўскага. З'явіліся новыя канцэпцыі і цікавыя факты, але „Кароткая гісторыя Беларусі” не страціла сваіх каштоўнасцей, зачароўвае чытача і сёння.

Кніга перавыдаецца згодна арыгіналу.

*А. Грыцкевіч,*
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар*

## ЗМЕСТ



Научно-популярное издание

**Ластовский** Вацлав Юстинович

**КРАТКАЯ ИСТОРИЯ БЕЛАРУСИ**

Издание факсимильного типа

На белорусском языке

Минск
Издательство „Университетское"

Навукова-папулярнае выданне

**Ластоўскі** Вацлаў Юсцінавіч

**КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**

Выданне факсімільнага тыпу

Загадчык рэдакцыі *С. К. Палякоў*
Рэдактар *Н. Ф. Бязрукава*
Афармленне
і мастацкае рэдагаванне *Р. У. Кондрада*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*

ІБ № 1723

Падпісана да друку 29.12.92. Фармат 60 x 84 1/16. Папера кн.-часоп. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7,44. Ум. фарб.-адб. 7,81. Ул.-выд. арк. 7,57. Тыраж 50 000 экз. Заказ 5688.

Выдавецтва „Універсітэцкае" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220048, Мінск, пр-т Машэрава, 11.

Надрукавана з арыгінала-макета выдавецтва „Універсітэцкае" ў друкарні „Победа". 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.

**Ластоўскі В. Ю.**

Л26 Кароткая гісторыя Беларусі. – Мн.: Універсітэцкае, 1993. – 126 с.: іл.

ISBN 5-7855-0646-7.

**Ластовский В. Ю.** Краткая история Беларуси.

„Кароткая гісторыя Беларусі" – гэта першае папулярнае перавыданне кнігі, напісанай беларусам і для беларусаў, якая была надрукавана ў 1910 годзе ў Вільні. Яе аўтар, Вацлаў Ластоўскі, з'яўляўся гісторыкам і пісьменнікам, грамадскім і палітычным дзеячам. Ён быў у ліку ініцыятараў нацыянальнага і культурнага адраджэння сваёй рэспублікі ў пачатку XX ст. Аднак гэтага неардынарнага, вельмі цікавага і перакананага чалавека напаткаў, на жаль, трагічны лёс. Вацлаў Ластоўскі стаў ахвяраю таталітарнай дзяржавы. Рэабілітаваны толькі ў 1988 годзе. Напісаная ім „Кароткая гісторыя Беларусі" шмат дзесяцігоддзяў захоўвалася ў закрытых фондах дзяржаўных бібліятэк.

Для філолагаў, гісторыкаў, выкладчыкаў і студэнтаў, аматараў роднай літаратуры і культуры.

Л $\frac{0503020903-001}{М317(03)-93}$ БЗ 88–92 **ББК 63.3(2Б)**